# Андрэй Александровіч

# *Выбранае*

*1921—1956*

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
Рэдакцыя мастацкай літаратуры
МІНСК 1956

*Дзень добры, Радзіма! Табе*
*Я простую песню сваю,*
*Народжаную ў барацьбе,*
*Для барацьбы аддаю.*

## ДА МОЛАДЗІ

Песні звіняць веснавыя —
Радасць раскутай зямлі.
Станьма шчыльней, маладыя
Долі сваёй кавалі.

Путаў няволі нястала, —
Скінуў працоўны народ.
Сонца свабоды заззяла
Краю лясоў і балот.

Светлай прыждалі часіны.
Пілы, сякеры бяры,
На папялішчах-руінах
Новыя ўстануць муры.

Па гарадах і па сёлах
Песні пра шчасце звіняць.
Выйдзем, працоўная моладзь,
Вольны свой край будаваць.

*1921*

## РАНІЦА

Па-над борам густым дзень падняў ліхтары,
Разганяе хмурын валаконцы.
Птушкі так мілагучна пяюць у бары,
Аж звіняць, аж гудуць дзічары-гушчары,
Аж замёрла галлё на сасонцы.
Белы лунь уцякае з узвышша-гары,
Пракладае дарогу для сонца.

Долу гнецца густая трава ля ракі,
Серабрыцца расяным налівам.
Хутка з косамі прыйдуць гурбой дзецюкі,
Наплавы касіць стануць рупліва.
З-пад шырокіх узмахаў рабочай рукі
Лягуць сцятыя кветкі маўкліва.

Між зялёных палос ляжыць шэры папар,
Цаліну падымае араты.
Ён захоплены працай, як песняй дудар,
Ён узняты надзеяй крылатай, —
Што на свеце працоўны люд будзе ўладар,
Што настане дзень гэтага свята.

*1922*

## ПЕРШЫ РАЗ У ВЁСЦЫ

1

Ліпень выткаў слуцкі ўзор
На палях пшанічных.
Я стаю, гляджу ў прастор,
Чую: Нёман кліча.

Я бягу праз поле-шыр
На вірлівы гоман.
— Вось ён, Нёман-багатыр,
Прамяністы Нёман.

Бачу, ў хвалях залатых
Сонейка нырцуе.
Не губляю часу — ўміг
Разам з ім плыву я.

Потым з сонцам я прылёг
На траве шаўковай.
Ля ўзбярэжжа віўся мох,
Як дыван пуховы.

2

Ліпнёвая раніца. Поле туманнае
Цёплай расой акрапіла свой твар.
Рог пастуха будзіць сонца заспанае,
Мякіш цішы праглынае гушчар.

Дзе Вуса цалуецца з хвалямі Лошы, —
Нёман вячысты выходзіць у свет.
Ягоныя плечы пад цяжкаю ношай:
Лес, ланцугамі акуты, плыве.

Глянеш на дно — аксамітная коўдра,
Ледзьве варушыцца ў хвалях трава,
Берагам вецер праносіцца горда,
Вербная гнецца яму галава.

Ён зараслі-вецце над хвалямі клоніць,
Ён гоніць за гоні атруту-журбу.
Вяскоўцы на беразе косамі звоняць,
Сена сухое дзяўчаты грабуць.

3

Я з імі буду, з імі на начлег
Паеду ў поле цёмнай ноччу.
Я сын горада, я малады рабочы —
Пагляджу, як месяц па байдану крочыць;
І пачую песню, і вятровы бег,
Што гушкае ў полі
Звон, і плач, і смех.
Для мяне ўсё нова: палявыя ночы,
Шумныя дубровы, Нёман і начлег.

*1923*

## ПАЭТУ

Як песня птушкі раніцою
К жыццю ўздымае поле, гай, —
Вось так і ты, паэт, спявай,
Каб вечна песня маладою
Жыла ў народзе. Родны край
Да працы творчае ўздымай,
Як песня птушкі раніцою
К жыццю ўздымае поле, гай.

*1923*

## КАВАЛЯМ ЖЫЦЦЯ

Гэй, браты, кавалі жыцця новага,
Вы прыміце мяне ў грамаду сваю.
Разам з вамі пайду цвёрдым поступам,
Несучы светач волі здабытае.

Сам я выйшаў з народу працоўнага,
Да работы з маленства прывучаны:
Мне варштаты майстэрань знаёмыя,
Не чужыя мне рукі мазольныя.

Будзем песняй бадзёрай, вясёлаю
Славіць волю і долю шчаслівую,
Працай дружнай дарогу шырокую
Працярэбім мы сонцу і росквіту.

Разам з вамі я выйду на ворагаў,
Карчаваць чарнацвет нашай спадчыны.
Палымяныя сцягі Кастрычніка
Будуць рэяць над светам раскованым.

Дык, браты, кавалі жыцця новага,
Вы прыміце мяне ў грамаду сваю.
Разам з вамі пайду цвёрдым поступам,
Несучы светач волі здабытае.

*1923*

## ВОЗЕРА

Цішыня... Змоўкла возера ў стромкім бары,
На ваду соснаў падаюць цені.
За шырокія плечы зялёнай гары
Нанач сонца схавала праменні.

Цішыня... Прахалодаю сцелецца змрок,
На ялінах паснулі вавёркі.
Над вадою калыша траву вецярок,
З неба ў возера падаюць зоркі.

Цішыня... Незнаёмых залётных гусей
Прытуліла ракіта густая.
Ходзіць месяц дазорам па цёплай расе,
Баравое жыццё аглядае.

*1923*

## НА МАГІЛЕ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

1

Сонца ў моры купаецца бурным,
Скрозь вясёлы на палубе гул.
А я штосьці сёння пахмурны,
Болю ў сэрцы суняць не магу.
Не магу адагнаць я тугу.

Незнаёмаю, стромкай і вузкай
Паласа паказалася гор.
        На зямлі той пясняр беларускі
У семнаццатым годзе памёр.
У грудзях, як на моры, віхор...

2

За Ялтай, у полі, —
        Між гор векавых, —
Курган-магіла.
Сонца паволі
        Дыван веснавы
Жоўтым агнём спапяліла.

Пясок і каменне,
        Нямыя крыжы, —
Курган-магіла.
Вецер калені
        Сагне й пабяжыць,
Сляды замятаючы пылам.

Ой, неба муліць
    Каўнер крымскіх гор,
Кроў зарою цячэ з небасхіла.
    Не чутна зязюлі,
Не шэпчацца бор
Над забытай курган-магілай.

### 3

Крыж невялічкі,
Ад сонца на ім
Паблякла таблічка:
    «Студэнт
        Максім»...

### 4

Хвілінай, як вечнасць, даўгою
Плача песня балючай тугою.
Магілы зараслы суглінак
Палючыя ветры стапталі.
Хвілінай, даўгою хвілінай
Зашчымела сэрца жалем.

*1924*

## МЯСТЭЧКА

1

Пятніца.
Вечар.
Запалілі свечкі
У кожнай хаце
Ціхага мястэчка.
На стале ля свечак
Спечаная хала.
У талесах мястэчка
Сівы талмуд чытала.
Сонейка пагасла.
Запалілі свечкі.
Пятніца.
Вечар.
Моліцца мястэчка.

2

Вечар, як вандроўнік, ля акна сядае,
Расшпіліўшы змрокам вытканы каўнер.
Па мястэчку ходзіць задуменны Хаім:
— Што ж яно на свеце робіцца цяпер?

Моліцца на месяц,
моліцца на неба,
Просіць дапамогі:
— Борух, адэной!..

Сэрцам неспакойны местачковец-рэбэ:
Па-другому зоры ззяюць над зямлёй.

Глянуў на старога: абадраны, голы,
Талесамі роніць буйную слязу.
Больш ужо не ездзіць Хаім балаголам,
Для людскога вока ён завёў казу;

І, нібы жабрак той, ходзіць з хаты ў хату
Хаім асцярожны, забярэцца ў кут
І гарэзам-дзецям,
злосцю ўвесь працяты,
Убівае ў галавы талмуд.

Спадцішка гандлюе, хочаш, бакалеем,
З камізэлькі, хочаш, сахарыну дасць.
Кулаком у грудзі, молячыся, б'е ён:
За бядою следам новая бяда.

І ламае рукі,
і ламае пальцы,
І губляе слёзы на зялёны дол:
Моладзь адкідае
і талмуд, і талесы,
І заместа хэйдара
славіць камсамол.

Богам заклікалі,
пеклам заклiналі,
Праганялі з дому,
голых праганялі.
Хоць бы што ёй стала, як сцяна нямая,
Не талмуд, а «Юнгер арбэйтар» чытае.

Так ішлі дзянёчкі, Хаім ледзь цярпеў:
— Што ж яно на свеце робіцца цяпер?
— Свет перавярнуўся?
Хаім сам не свой:
Па-другому сонца ззяе над зямлёй.

3

Цемень ночы знікла горкая, густая.
Ветры пагасілі змрочныя агні.
Золакам вясёлым узышла і ззяе
Новая раніца — прозалаць зарніц.

Над мястэчкам, сонцу распасцёршы вецці,
Зазвінелі хвоі, ўскалыхнулі ціш.
Талесы, як хмары, доўгія сталецці
Засланялі вочы, чадзілі ў жыцці.

У тумане вечным ціхае мястэчка
Каратала горам згорбленыя дні.
Ой, зусім нядаўна запаліла свечкі
Новая раніца — прозалаць зарніц.

*1925*

## СТРУНА

Крані струну ў грудзях сваіх,
Пачуеш звонкі водгук мая.
Вясну кахання прыгадаеш —
Крані струну ў грудзях сваіх.
Калі знянацку набягаюць
У сэрца сумных дум страі —
Крані струну ў грудзях сваіх,
Пачуеш звонкі водгук мая.

*1925*

## ЗА ІГОЛКАЙ

Песні — гучныя вясёлкі —
Пацяшаюць, як ніхто.
Дашывай, мая іголка,
Навамоднае манто.
А як толькі звечарэе,
Як заморыцца рука,
Пабягу тады хутчэй я
Хлопца любага спаткаць.
Ой, прысяду каля саду,
Каля саду пры сасне.
Загадае пяць загадак,
Пяць загадак мілы мне:
— Каля дрэўца што віецца?
— А без цвету што цвіце?
— Што без голасу смяецца?
— Што без кораня расце?
— Што бяжыць, і след знікае? —
Загадае мілы мне.
Месяц выплыве з-за гаю
На сярэбраным чаўне.
Песні — гучныя вясёлкі —
Пацяшаюць, як ніхто.
Дашывай, мая іголка,
Навамоднае манто.

*1925*

## ВОЛГА

Далёка ад родных загонаў
Ты, шырокая Волга-сястра.
Хвалі весела ветлівым звонам
Набягаюць на бераг зялёны,
Туман — як разліў серабра.

На палях, на раўнінах рускіх,
У песнях праслаўлена ты.
Я прыехаў з зямлі беларускай,
Дзе зрэбна-пярэстаю хусткай
Бязмежна ляжаць балаты.

Паклон і вітанне табе я
Ад Нёмана-брата прынёс.
Адно цяпер сонца нас грэе,
Адны ў нас шляхі і надзеі,
Аднолькавы славім мы лёс.

Крыляцца і песні другія,
Не гора і стогн бурлака.
Развеяны хмары цяжкія.
Ты гонар і слава Расіі,
Вялікая Волга-рака.

Адвеку блакітнай дарогай
Льеш воды свае ўдалячынь.
Ты ў росквіце дня веснавога!
Люблю цябе, руская Волга,
Тваю велічавую плынь.

*1925*

## ВУЛІЦА

Як ніколі, я сягоння ўзрушан.
Глянуў
На пераліцованыя душы,
І суровы быў прысуд.
Па забруджанаму бруку
Я іду
Праз пыл і грукат,
Топчучы блудлівую красу.
Бар.
Бульвар.
Рамізнік.
Прастытутка.
Купля. Продаж. Мена.
Змрок і чад.
Прада мною
Брама,
А на ёй
Рэклама:
Кубак з белай пенай —
«Летні сад».

У «Летнім садзе»
Шклянкамі гручэлі.
Не мала іх!
Адкуль такі
Народ?
А на эстрадзе,
У тлуме хмельным,

Мастакі
Трамбонілі
Факстрот.

Між столікаў — дарожкі,
Дзяўчаткі-басаножкі
Кветкамі гандлююць —
Ружы, астры, ландыш.
У вочы іх зірні:
Затоены агні
Нянавісці
Да нэпманскае банды.

Добры зорны вечар.
Прахалодай вецер
Каштаны калыша.
І чаго ж?
Толькі мне тут, чалавеча,
Ўсё чужое,
Тут штовечар
Кроў нажывы
        У кілішкі
Разлівае фінскі нож.

Усё ж люблю,
Любоўю сына,
Горад многатрубны.
Ідучы,
        Зайшоў у клуб —
Акцябрыны
        Ў клубе.

Людзі іншага аблічча,
Тут зусім інакшы свет.
Тут, адно, ў сям'і фабрычнай
Акрыляецца паэт.

*1925*

## КАМСАМОЛІЯ

Славім мы дарогі баявыя,
Першыя Кастрычніка гады.
Гартавалі буры агнявыя
Нашы сілы маладыя —
Камсамольскія рады.

* * *

Над горадам гудок гудзе:
— Канчай рабочы дзень!
І следам новы кліч:
— Да працы!
Строй атрады-сотні:
Сёння гвардыі юнацкай
Чарговы суботнік!

* * *

І па цаглінцы... Так з году ў год
Разбураны край будавалі,
Самотныя, ціхія песні яго
Вясёлымі, гучнымі сталі.
Дзе тлелі руіны —
  сляды навальніцаў, —
Квартал за кварталам —
  растуць камяніцы.
І ў гэтай працы дні і ночы
Камсамол — чорнарабочы.

* * *

Калісьці зналі сутарэнне,
Мазоль крывавы на руцэ,
Гарадавога, пана, цемень
І кастлявы — ТэБэЦэ.
А цяпер хадой нястомнай
Новы дзень ідзе па свеце.
Камсамол — у фабзаўкоме!
Камсамол — у сельсавеце!

* * *

Мяцеліца сцелецца полем, далінай.
Зямля — серабрысты паркаль.
Трывожна гудуць правады над краінай,
Ветры разносяць жаль.
Гора галосіць завеяй успененай,
Буйныя слёзы ў вачах.
— Таварышы, ўтрата!
Не стала Леніна!
Леніна...
Ільіча...

* * *

На белых каменнях
Мароз на калені
Стаў, затаіўшы мяцеліцу ў жмені.

На плошчы Чырвонай
Мільённай
Калонай
Народы праходзяць з чалом засмучоным.

Давіць гарою
Гора цяжкое,
Плача, рыдае сэрца людское.

Вянкамі ляглі на магілу прамені.
— Гэй, камсамольцы,
Шчыльней свае звенні!

* * *

У працы напружанай
Поступам мужным
Ідзем баявымі радамі.
Леніна сцяг
У верных руках,
Партыя родная з намі.
Мы гмахі будуем,
Мы зброю гартуем,
Мы ведаем —
Будзе бой!
Стой!
Моладзь заводаў
І земляробы,
Новы фронт:
— Вучоба!

* * *

За кнігаю помнім мы
Кожнай хвілінай,
Дзе і якая
Супроць нас краіна.
Вінтоўку трымаем
Штодня пры сабе:
Жыць рэвалюцыі!
Жыць барацьбе!

* * *

Вялікі шлях прайшлі.
Былі ахвяры ў нас,
Але перамаглі.
Мы гартаваліся
Ў баях і ў працы дбалай,
Мы небывалага юнацтва запявалы.
Паходы, барацьбу і дасягненні —
Збрашуруем з сонечных праменняў!

*1925*

## 8-е САКАВІКА

Дзень жанчыны. Народнае свята.
Адгудзеў на заводзе гудок.
У прасторны чырвоны куток
Людзі з цэху прыйшлі, ад варштатаў.
Дакладчык — работніца Марта,
Што ні слова — былому прысуд:
    — Наша доля ўспамінаў не варта,
    Нараджаліся мы для пакут.
    Жыццё!.. Праклінаілі яго мы!
    Дванаццаць гадзін за станком,
    А дзеці галодныя дома,
    Галеча скрыгоча ваўком.
    Мы голад і холад трывалі,
    Спакойных не ведалі сноў,
    Сухоты ў грудзях гадавалі,
    Гадавалі ў сухотах сыноў.
    Прайшла і не вернецца болей
    Пара нашай горкай нядолі.
    Цяпер і кухарка былая
    Правы кіраўнічыя мае:
    За руль яе Ленін паставіў
    У нашай савецкай дзяржаве...
Моладзь — танцы і гульні заводзіць,
Льюцца песні — адна за адной.
Гул вясёлы стаіць на заводзе —
Сёння свята матулі маёй.

*1926*

## ГОРАД

Горад заўсёды лье гоман па бруку,
Слаўлю заўсёды я гоман і грукат.

Горад імклівы, ён — новых дзён подых,
Слаўлю імклівы рост новых заводаў.

Горад, як мора, мой родны бушуе,
Слаўлю я горад, сын родны яму я.

*1925*

## МАЯ ПЕСНЯ

Выйду я ўвечары з песняй на вуліцу,
Крочу па бруку, абняўшыся з ёй.
Многім яна, неспакойная, муліцца,
Іх парушае спакой.
Колькі яе, маладую, цкавалі,
Крыллі зламаць ёй хацелі, павер.
Песні мае ў барацьбе выраcталі,
Хай і грубыя, што літара — «р».
Мая песня —
Кліч заводаў,
Маё слова —
Гул машын.
Мая песня —
Шлях паходаў,
Маё слова —
Плынь душы.
Мая песня —
Веснавыя ўзоры,
Гоман дня
У рабочую пару.
Мая песня —
Новы горад,
Маладняк
І
Беларусь!

*1926*

## САСНА

I

Не адна, як струна,
Сасонка расла
У бязмежным
Бары-гушчары.
А сягоння яна,
Пачарнеўшы, лягла
На аснежным
Фабрычным двары.

Зазвінела піла,
Застагнала сасна;
Пры дарозе,
Як слёзы, апілкі.
Сасонка расла,
Як струна,
Не адна —
З ёй і сёстры, як тыя асілкі.

Расла маладзіцай,
Вяршыняю смела
Шумела
І ў сцюжу-завею.
Бывала, імчыцца
Вей-вецер
І вецце
Лёгкім павевам авее.

І птушкі зайграюць
Сасонцы
Да сонца,
Як быццам на гуслях зялёных.
Цяпер, як скала,
Анямеўшы, лягла,
Закрыўшы далонямі скроні.

2

Эх, сасоніца-сасна,
Нашы дні суровыя.
Бервяно да бервяна —
Хата новая.
Хай красуе родны край
Школамі і клубамі,
Засланяе небакрай
Завадскімі трубамі.
Закрасуе хай дрыгва
Заржавелая
Спелым цветам хараства —
Хлеба белага.
Свой будуем светлы лёс,
Цемру гонячы.
Мы кладзём да шчасця мост
Шляхам сонечным.
Эх, сасоніца-сасна,
Дні суровыя.
Бервяно да бервяна —
Хата новая.

3

Радасць прыносіць нам праца цяжкая,
Мужнасць людская
вышынь дасягае!
Наш поступ, наш рух
не суняць завірухам.
І хочаш не хочаш,
А песню рабочых,
Песню рабочых —

Слухай:
Гэй жа, разам!
Гэй жа, разам!
Гэй, адразу
возьмем
разам!
Гуртам, дружна,
Хлопцы, здужым!
Гэй, яшчэ!
Яшчэ!
Яшчэ!
Будзе сонца
Ззяць ярчэй.
Красавацца
Будзе садам
Наша праца,
Наша радасць.
Час
за нас,
Рабочы клас.
Гэй, адразу,
разам
— раз!

4

Эх, сасоніца-сасна,
Нашы дні суровыя,
Бервяно да бервяна —
Хата новая.
Багну высушым да дна,
势 Building Outcomes:
Стануць караблёвыя,
За сасонкаю — сасна,
Сосны новыя.

*1926*

## МЯЦЕЛІЦА

Вецер і сцюжа
Мяцеліцу кружаць.
Лётае,
Падае
Белы хмель.
Сцюжа.
Мяцеліца
Сцелецца,
Кружыць —
Гонка
І звонка,
Нібы карусель.

* * *

Што нам мяцеліца,
Вецер і сцюжа?
Што маладосць нашу
Зможа адужаць?

Хай сабе лётае,
Хай сабе падае.
Даль беласнежная
Вабіць і радуе.

Добра на лыжах
Імчацца ў прасторы,

Клічуць гасцінна
Нізіны
  і горы.

Нават на лыжах,
Здаецца, сама
Выйшла спаборнічаць
З намі зіма!

* * *

У гонках на холадзе
Горача моладзі,
Глянцам
Румянцаў
Адорыць віхор.
Сцюжа.
Мяцеліца
Сцелецца,
Кружыць.
Звонам
Сцюдзёным
Наліты прастор.

*1926*

## ЗАВЯЗКА

Загудзе гудок фабрычны —
Пакідаю свой варштат.
Першы раз, было й нязвычна,
Я пайшла ў Народны сад.

Вечар быў такі харошы,
Як жа сэрцайка стрымаць?
Я ішла, якой дарожкай,
Дый не ведала сама.

Падышла да рэчкі шустрай,
Месяц кружыцца ў вадзе.
Гляну ў хвалі, як у люстра, —
Хлопец, бачу я, ідзе.

Стаў ля рэчкі, прывітальна
Пакланіўся раз, другі.
Я кідала кветкі ў хвалі —
Расплываліся кругі.

— Як цябе, дзяўчына, клікаць?
Што ж саромішся, скажы!
Я сказала. Неяк дзіка:
Ён жа мне зусім чужы.

Раптам страх спавіў дзявочы:
Ці застацца, ці ўцякаць?

Толькі вочы ў хлопца, вочы
Так прывабліва гараць.

Нечаканае спатканне.
Месяц скрыўся за паркан.
Разышліся, як світаннем
Слаўся ў зарослях туман.

Загудзе гудок фабрычны —
Пакідаю свой варштат
І хадой, такой прывычнай,
Я іду ў Народны сад.

*1926*

## ДЗВІНА

Добры дзень,
Зялёныя загоны-дываны,
Я прыйшоў паслухаць з вамі
Гутарку Дзвіны.

Над лугамі, над палямі
Ў сонечную даль
Льецца гоман неўгамонны
Векапомных хваль.

Шапаціць зялёным шоўкам
Беларуская вясна.
Добры дзень вам, палачане,
Добры дзень, Дзвіна!

* * *

Ветрык рве, як павуцінне,
Лугавую цішыню.
Старажытнае Наддзвінне
Я вітаю ўпершыню.

Мілагучная вяснянка
Акрыліла сэрца мне.
Як русалка, палачанка
Выплывае на чаўне.

Мне бы з ёю плыць у далі —
Ад вясны і да вясны...
Хвалі ціхія шапталі
Пра радзіму Скарыны.

Заірдзеліся прасторы,
Заліваў агонь зары
Гмах Сафійскага сабора,
Бераг Замкавай гары...

* * *

Росная раніца.
Сонцам румяніцца,
Нібы дзяўчына,
Каліна.

Птушкі вяснянку
Пяюць на світанку
У сасонніку,
Як на гармоніку.

Смутку не знае
Вясна маладая
Ніколі
Ні ў лесе, ні ў полі.

Хваля, бывае,
Журбу навявае,
Нявесела стане,
Як глянеш.

* * *

Жыццё не загіне, жыццю не астыць,
Ідзе яно поступам гулкім і плённым.
Плывуць па Дзвіне чарадою плыты,
Мінаючы ўзгоркі, лясы, балаты,
Пад спеў маладых плытагонаў.

## РЫБАК

За гарой, лясочкам
Сонейка заснула,
Да сябе дзянёчак
Ручкай прыгарнула.

Цёплы вечар. Свеціць
Серабрысты месяц.
Пад ялінай вецер
Нанач лёг у лесе.

Вуду ўскінуў хлопчык,
Як ружжо, на плечы.
Караценькай ночкай
Хораша ля рэчкі!

Рыхтаваўся дбала
Хлопчык на рыбалку.
Хлеба ўзяў і сала,
Ножык і запалкі.

Каля рэчкі быстрай
Запаліў ён голле.
Нібы зоркі, іскры
Паляцелі ў поле.

Бульбу спёк і салца
З'еў ён з асалодай.

Многа на рыбалцы
Уцех і прыгодаў.

Як заззяе золак,
Вудачкаю гібкай,
Радасны, вясёлы,
Хлопчык ловіць рыбку.

Ловіць ён на мушкі,
Чарвячкі, асоткі
Келбы і аркушкі,
Акуні і плоткі.

Б'ецца так шчасліва
Маладое сэрца:
Рыбы, як на дзіва,
Поўнае вядзерца.

На плячо ўзяў вуду
І пайшоў дадому.
От жа рады будуць
Хлопчыку малому!

*1927*

## ПАНСКІ ПАДАРУНАК

Да прысуду над «Грамадой»

Змрок над Белавежай,
Над гаротным краем.
Межы, толькі межы
Сэрца засмучаюць.

Там забралі права
Думаць, нават думаць!
Чорная расправа —
Панскі падарунак.

Ляскаюць кайданы,
У катаргу магнаты
Люд закатаваны
Гоняць з казематаў.

Чую крык нястрымны
Полем і лясамі:
Лепшы сын краіны
Сёння катаржанін!

Хай калючым вужам
Дрот мяжуе гоні.
У змаганні мужным
Люд паноў прагоніць.

Чую я заўсёды,
Чую й не дзіўлюся —
Будзе й там пагода
Савецкай Беларусі.

*1928*

## МЕСЯЦ СЕЎ НА ХМАРКУ

Месяц сеў на хмарку,
Як на пень струхнелы,
Працірае вочы
Барадою белай.
Дарогі зямныя
Аглядае з неба,
Яму да світання
Абысці іх трэба.

Колькі свет існуе,
Праз усе стагоддзі,
Летам і зімою
Па зямлі ён ходзіць.
Толькі ў непагоду
Адпачыць ён можа:
Хто ж у навальніцу
Выйдзе ў падарожжа?

Выпрастаўся, глянуў,
Прыжмурыўшы вока,
Карагоды зорак
Кружацца навокал,
А на непагоду
Ніякай прыкметы.
І пайшоў двурогі
Вандраваць па свету.

*1929*

## ПРА ВОРАГА

Если враг не сдается, его уничтожают.

*М. Горький*

Векапомны след налётаў!
Налятталі, як завея,
Франкаў, стэрлінгаў і злотаў
Найміты-зладзеі.

Катавалі, рвалі жылы,
Смерць душыла
Мукай лютай...
Узнагароджвалі грамілаў
Еўрапейскаю валютай.

* * *

Праляцелі смерчам-бурай
Па тайзе сібірскай, хмурай.

Фарбавалі кроўю шпоры
У грудзях краін Прымор'я.

Білі, рэзалі злачынна
Шыр абшараў Украіны.

Захлыналіся запоем
Беларускаю крывёю!

* * *

Хто мкнецца вярнуць нам забытае гора —
Наш класавы вораг.
Хто нам зацямніць хоча сонца і зоры —
Наш класавы вораг.
Хто банды прадажныя ўзбройвае ў норах —
Наш класавы вораг.
Хто прагне крыві чалавечае мора —
Наш класавы вораг.

* * *

Нямала недабітых
Яшчэ бандытаў ходзіць.
І ціхай сапай, скрыта
Краіне нашай шкодзяць.

Яны ў кулацкі хутар
Збяруцца, точаць зубы:
Гарыць назаўтра гута,
Калгас ідзе на згубу;

Яны ўначы імглістай
Цераз акно з нагана
Страляюць актывіста,
Селькора, партызана;

Яны ствараюць радай
І тактыку і планы
Крывавай, чорнай здрады
Рабочым і сялянам;

Яны цалуюць шчыра,
А дзе і ліжуць здатна,
І фракі, і мундзіры
У лорда, у магната.

Хто даражэй заплаціць, —
Таму і ўклон з пакорай.
Вораг той, што ў хаце,
Самы люты вораг.

* * *

Злоўлены —
За падрыхтоўкай вайны,
За продажам лесу на труны.
Злоўлены —
Найміты таннай цаны,
Магільшчыкі ўсходаў Камуны.
Злоўлены —
Ў масках сучасных прыблуд
Шкоднікі справы і слова.
Маскі далоў!
Рэвалюцыі суд
Бязлітасны і
Канчатковы.

*1930*

## ПАСЛЯ НАВАЛЬНІЦЫ

Хмар перуновых абоз
Ехаў па пыльнаму бруку.
Вецер пад рокатны грукат
Груз навальніцы растрос.

Дождж адшумеў. З-пад рукі
Глянула сонца і дбала
Па вуліцах параскідала
Праменныя ручнікі.

*1931*

## ТАВАРЫШ СЫН

Сыну-таварышу пяць гадоў.
Святочным агнём у вачах палымнее
Уцеха і гонар шчаслівых бацькоў.
Ім нават здаецца: ўвесь свет авеян
Іх урачыстай вялізнай падзеяй —
Сыну-таварышу — пяць гадоў.

Каштанамі змрок шапаціць ля акна.
Вечар, як госць, у кватэру заходзіць.
Бацьку чакае сынок. На заводзе
Даўно ўжо гудкі прагудзелі, аднак —
Бацькі няма. Затрымаўся на сходзе.
Каштанамі змрок шапаціць ля акна.

Прыйшоў з падарункамі бацька, але
Сынок ужо спаў на канапе; спаткала
Прыветліва жонка; на круглым стале
Церпялівая чарка чакала.
Глыбока ўздыхнуўшы, пацішу, без слоў,
Бацька, ля сына паклаўшы гасцінец,
Пагладзіў рукой трапятліваю сына —
Сыну-таварышу — пяць гадоў.

Шчэ' хлопчыку сніцца канёк-гарбунок,
А бацька падняўся, працяглы гудок
Заве на работу, у цэх, за станок.

Абуджанай вуліцай бацька ідзе.
Ідзе, разважае:
        — Ў выходны дзень
Ніякай нарады, ў канцы ж канцоў,
Сыну-таварышу — пяць гадоў.

*1932*

## СТАРЫ МІНСК

От, быў гарадок...
Ён з далёкае даты
Правінцыяй звацца звык;
І адвеку было:
        Па-першае — губернатар,
        Па-другое — капліца,
        Па-трэцяе — гарадавы.
І была Серабранка,
А там —
Свінабойні былі
І прытоны,
І была яшчэ там бедната,
У сутарэннях таіўшы стогны.
І было яшчэ — цэльны стан
З палісадзікам і кароўкай.
Гэта сан
Беларускіх мяшчан
Ад Пярэспы і да Камароўкі.
Ля кожнай царквы і касцёла,
На плошчах базарных —
Усюды
Тракціры, разутых і голых
Труцілі і хмелем і блудам.
Анучамі ў вокнах разбітых
Крычалі гарбатыя хаты
Знясіленым крыкам рахіта,
Удушшам сухотаў праклятых.
У гонар губернскай управы,

З каровамі-наперагонкі,
Пад звон капытоў
Сухарлявай
Па рэйках каціласся конка.
Пакуль навальніца з Усходу
Не грымнула вогненным шквалам —
Праходзілі людзі і годы
І ўцехай катрынка іграла...

*1932*

## ПАГРАНІЧНАЯ ВЯСНА

### І. КЛАСАВАЯ СУТНАСЦЬ ЗЯЛЁНАГА ГОМАНУ

Стаю каля ракі
У заімшэлым гаі.
Два берагі.
Два светы.
        Пагранічча.
Вярбы зарэчнай гоман
        Таямніча
На колах сполаху
Да нас перабягае.

Я —
Прыкладаю вуха да зямлі.
Калісь рабілі гэтак прадзеды ў дазоры.
І чую гутарку,
        А гутарку вялі
Заходнебеларускія прасторы.
Гаварылі віленскія гоні:
        — Ой, вясна!
Кроў і слёзы нас палоняць,
        — Ой, вясна!
Вецер поле барануе,
        — Ой, вясна!
Голад з пошасцю пануе,
        — Ой, вясна!
Шнурам петлі на прысадах,

— Ой, вясна!
Славяць карныя атрады,
— Ой, вясна!
Вясна-пакутніца, нявольніца-вясна
Пад цяжкай, кованай,
Пад панскаю пятою.
Вось як рукой падаць,
А гэта за мяжою —
Атручана крывёю цаліна.

Бярозкі стромкія,
Сасонкі,
Кожны куст —
Жывыя сведкі панскага разгулу,
Шапочуць роспаччу жабрацтва і пакут
Над грэбнем хваль
Падземных грозных гулаў.

І чуе сэрца гул падземны:
— Сей агонь!
Падымайся, пад'ярэмны,
— Сей агонь!
У далінах Віслы, Шчары,
— Сей агонь!
Край збярэ ўраджай пажараў,
— Сей агонь!
Больш агню — запалу болей,
— Сей агонь!
Воля родзіцца ў падполлі,
— Сей агонь!

## II. МІТЫНГ ПЕРШАЙ БАРАЗНЫ

Стаю ля пагранічнае заставы.
У вачах снагліцца крыўда і туга.
Ахвяра чорных дзён,
Жандарскае расправы —
Краіна голаду, бяспраўя, ланцуга.
Удоўж палёў,
Балотам,

Цёмным борам,
Не знаючы спакойных дум і сноў,
Сваіх загінуўшых сыноў
Шукае маці, згорбленая горам.

Шуміць, прыгнуўшыся над возерам, аер,
А возера хвалюецца прыбоем:
— Ты вытры слёзы горкія свае,
Твае сыны спаткаюцца з табою!

Дзівіся, зарывам расце-ўзыходзіць рунь,
А прыйдзе час — запалымнее поле.
Зару наступную, шчаслівую пару
Твае сыны гартуюць у падполлі.

Ёсць і за кратамі яшчэ сыны твае
На выспах катавых
У катаржным палоне.
І закіпела возера і зашумеў аер,
І маці сціснула рукамі гнеўна скроні.

Каму паводку бурную стрымаць?
Хто сонца-полымя паставіць на калені?
Хай сёння край — суцэльная турма,
Турма таксама кузня вызвалення.

Свае ў прадонне скінеш кайданы,
Не за гарамі дзень
Суровы і жаданы.
І загудуць
Расплаты перуны,
І зашуміць
Мяцеліца маланак.

Узнік раптоўна мітынг-сход вясны,
Загаварылі ўсе —
Распяты хто прыгонам.
Як золакам надзей,
Ля першай баразны
Заззяла раніца
Агнём сцягоў чырвоных.

І слухаюць прасторы,
Пра што ў бядзе гавораць
Надзеі, мары, сны
На мітынгу вясны.
А водгулле — стралой:
— О-ой,
Будзе бой!
Бярыце косы, вілы,
Вастрыце гнеў і сілы,—
Гудзеў гушчар лясны
На мітынгу вясны.
А водгулле — стралой:
— О-ой,
Будзе бой!
І маці выпрастала стан. Яна
Загаварыла голасам сыноў закатаваных:
— Пачаць сяўбу!
Чым больш агню-зярна,
Хутчэй залечыць раны
Край забраны!

### III. ДЗВЕ БЕЛАРУСІ

Як бізунамі спалосана цела,
Пакрыта рубцамі глыбокіх ран,—
Спалосана поле шнурамі надзелаў,
Адвеку вялікім няшчасцем сялян.

Палоскі-шнуры, як турэмныя краты,
Напоены потам, слязьмі і крывёй.
Я бачу ў няволі заходняга брата,
Дугою спіна — над матыкай-сахой.

Стаю на граніцы світання і змроку.
На той старане —
Плач закатнай зары.
А поруч —
на полі, як мора, шырокім
Сталёвай калонай гудуць трактары.

І толькі ледзь раніца пераступае
Туманам уночы пракладзены мост,—
Выходзяць у поле, і песня ўзлятае,
Зліваецца, звонкая, з шумам бяроз:
— Узыходзіць сонца, маладое сонца,
Гэй, ды гэй!
Гоніць вецер хмары, гоніць валаконцы,
Гэй, ды гэй!
Засяваем поле, поле барануем,
Гэй, ды гэй!
І спяваем песню, песню веснавую,
Гэй, ды гэй!
Будзе каласіцца жыта і пшаніца,
Гэй, ды гэй!
Сокам нашай працы будзе налівацца,
Гэй, ды гэй!
А ў жніво нам праца дасць узнагароду,
Гэй, ды гэй!
Намалоцім хлеба, нарыхтуем мёду,
Гэй!

Вясна ў маладым і нястрыманым русе,—
А там... нават вецер прыціх у трысці.
Сягоння — мяжуюцца дзве Беларусі,
Непараўнальныя два жыцці.

*1932*

## СОНЦА І ПЕСНЯ

Першы пяцігадовы план будаўніцтва
сацыялізма выканаем за чатыры гады!

*З газет.*

Калі ўзыходзіць сонца,
Тады пяе усход.
Калі пяецца песня,
Тады мілей паход.

Калі ідзем пад сонцам,
Калі наш грозны ход,—
Тады ўскіпае песня,
Тады пяе народ.

І мы стварылі сонца
Са жвіру і руды
І песню
За чатыры
Нястомныя гады.

*1933*

## ВЕКАПОМНАЯ ВОСЕНЬ

### I. ГНЁЗДЫ НАВАЛЬНІЦ

Жыў Янук у кулака,
Пас жывёлу.
Хто, скажыце, хлапчука
Знаў вясёлым?
Аддаваў ён кулаку
Маладосць.
Лёс пакінуў Януку
Злосць.

Ён парой, у забыцці,
Каля гаю,
Аб сваім благім жыцці
Заспявае.
Песня хлопцу сэрца раніць,
Ой, расчуліць!
Ён жа вырас на байдане
Без матулі.
Наляцелі думкі-мары,
Быццам сон,—
Што, як сокал, па-над хмары
Ўзвіўся ён.
У палоне мар юнацтва,
Ў добры час! —
Хоча з Праўдай ён спаткацца
Хоць бы раз.
А ў якой яна староны?

Дзе той пуць?
Ты скажы, вандроўнік сонца,
Добрым будзь!
Шмат краін Янук мінае,
Ой, дарма!
Праўду кліча ён, гукае,
І няма...
Рэжа крыллем сакаліным
Неба шоўк.
Праўды роднае ў краінах
Не знайшоў...
Бачыць ён крутыя горы,
Выспу скал.
А ля гор бушуе мора,
Грозны вал.
І здалося — вось маячыць
Гнеў-скала.
Праўду тут Янук убачыў,—
Тут жыла.

Сеў, як з маткай, з Праўдай разам,
Пра свой лёс
Гаварыў Янук, расказваў
Мовай кроз.
І расказваў доўга-дбала
Казку-быль.
Слова кожнае ўставала
На дыбы!
Праўда слухала, і ў вочах
Кроплі слёз:
Шмат Янук жыццём сірочым
Перанёс!

Поўз густой сцяной аднекуль
Статак хмар.
Давіць грудзі сіла здзеку,
Як цяжар.
Праўда слухала, стаіўшы
Гневам дух.
З дзідаў сказ нядолі вышыў

Наш пастух.
І сказала Праўда: «Хлопча,
Прыйдзе Восень,
Быць таму, чаго ты хочаш,
Што ты просіш!»
І яшчэ сказаць хацела,
Ды з-за гор —
Хмар навала загудзела,
Выў віхор.
— Праўда, дзе ты? —
След загінуў,
Знік, няма.
. . . . . . . . . . . .
Эх, ты, слаўная хвіліна,
Слодыч мар!..

Каля выгану, на ўзлессі,
Ў хмызняку,
Ружай свет здаецца ў песні
Януку.
Восень прыйдзе, пакарыцца
Хціўны шквал.
— Дзе вы, гнёзды навальніцы,
Выспа скал?..

Думы дум вялі хлапчыну
Па зямлі.
Недагледзеў, а скаціна
На раллі.
Віхрам быў Янук ускочыў,
Дый бяда:
Перад ім — не вераць вочы —
Гаспадар!
Янука кулак дубінай
Каласіў.
І таптаў, як тую гліну,
Колькі сіл!
Біў ён з ярасцю зацятай,
Люта біў,
Збіў да смерці і ўжо ў хату
Не пусціў.

Ледзь устаў, пралежаў ніцам
Да зарніц,
Ледзь падпоўз ён да крыніцы
Кроў абмыць.
А заход з агню праменняў
Звіў вянок
І, як сейбіт, шчодрай жменяй
Сеяў змрок.

### II. АБУДЖЭННЕ СІЛ

Варам салоным ад слёзаў былі,
Міналі дні...
Па абяздоленай нашай зямлі
Міналі дні...

Роспаччу лётаў па свету смерч,
А дні ішлі...
Слалася мостам свінцовая смерць,
А дні ішлі...

Выла зямля ад грымот перуна,
Стагналі дні...
Білася свістам крыві вайна,
Стагналі дні...

Грознае тут пачалося яно,
Паўсталі дні!
Ленін праз вогнішчы вёў стырно,
Уздрыгнула мора людскога дно,
Праўды ўзышло агнявое зярно,
Гневам рунела ў вачах яно,
Абуджанай сілы шугалі агні —
Паўсталі дні!

### III. ПРАЗ ГАДЫ

А праз гады, праз радасці і смутак,
Праз кованыя кайзеравы путы,
Праз люты гвалт пілсудчыны крывавай,

Праз партызаншчыну, авеяную славай,
Праз боль і стому мазалістых рук,
Праз лямант скону дзедаўскіх палосак,
Праз хціўны брэх кулацкіх падгалоскаў —
Вялікай Праўды
Творцам стаў Янук.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прасторы ніў пакошаны і зжаты,
Сабраны плённай працай ураджай.
Пачэсны кут займае ў светлых хатах
Заквашаная хлебная дзяжа.

А дзе ж было яно, калі, ў якіх краінах,
Змардаванаму працай бедняку,
Каб дар зямлі быў хлебам без мякіны?
Каб восень скарбам слалася ў таку?

Вядуць абоз... Плывуць баянаў гукі.
— Шырэй вароты, добры гаспадар!
Упершыню натружаныя рукі
За мазалі свае —
Прымаюць шчодры дар.
— Прайшла пара з мякінай горкай знацца!
А старцы-лірнікі, а старцы-дудары,
Як цудам, здзіўлены:
бы ў панскія палацы —
Калгаснай хаце звозяцца дары!

Янук узрушаны і ўсцешаны сягоння,
Ён шчасцю заваёванаму рад.
А як не ўзрадавацца?
Імя яго ў раёне
На дошцы гонару займае першы рад.

Адсюль кілометраў за дваццаць, недалёка,
Раскінулася роднае сяло.
Там — думкай ён, там — сэрца яснавокай,
Там і маленства горкае прайшло.

Вецер клоніць строй прысад,
Свішча ў полі зжатым.

Едзе хлопец да дзяўчат,
Хлопец едзе ў сваты.

Баб'е лета па шляху
Павуцінне сцеліць,
Прадвяшчае жаніху
Добрага вяселля!

Жураўліны пераплёт,
Дальняя дарога.
Эх, давай паскорым ход,
Конь мой быстраногі.

Янук прыехаў — дзівіць сумятня,
Сабраны хлеб злачынцы падпалілі.
Пануры стаў мясцовы старшыня:
— Не ўпільнаваў... Нашкодзілі... Зглумілі.
Па вёсцы ходзяць бабы і бурчаць:
— Працуй, працуй, а ў хаце ні скарынкі.
Янук сягоння марыў пагуляць,
А тут замест вясёлай вечарынкі
І плач і гнеў людзей на сход сабраў.
Шукаюць ворага.
А вецер свішча ў клеці.

Ужо дамоў пастух скаціну гнаў.
Як цені, моўчкі сноўдаюцца дзеці.
Над лесам ззяў праменных горнаў круг,
У цемру дзень адпачываць ныр цуе.

— Мо' закурыць дасі? — пытаецца пастух.
Янук прыветліва махоркаю частуе.
Разгаварыліся. А ўжо згусціўся змрок.
— Бяда, браток,
снуе па пятах голад.

У Янука
Маланкай бліснуў зрок.
Янук застыў,
Яму знаёмы голас.
І гнеўна кроў у жылах загула.

«Не можа быць!
Ды гэта ён, бясспрэчна!»
Пастух заёрзаў, звяў,
Стаў чорны, як смала,
Ад нежаданае раптоўнае сустрэчы.

— Я ж чуў, што ты жывеш у Салаўках?
Глядзіш, спаткаліся... Прымай маю падзяку.
Я — твой пастух. Ты помніш Янука,
Якога збіў і выгнаў, як сабаку?
Табе я дзякую за горкай долі дні,
За здзек, за слёзы,
Сукін сын, за гора!
Як лоўка скуру воўчую змяніў,
Патомак ліха, звеку люты вораг.
Ты сапуном падкапваеш, што крот,
Падмурак росквіту сваім крывавым лычам.

Хадзем... пастух, убачыць хай народ
Тваё сапраўднае варожае аблічча.
Глядзіш у вочы мне, ты гнешся мне чалом?
А сілу даць табе — зальеш мне вочы воцтам.
Я — быў слуга, ты — быў гаспадаром,
Цяпер ты — золь, а я — змагар і творца. —

Загуў, нібыта ў берасцяны рог,
Вячорны вецер у кустах ракіты.
. . . . . . . . . . . . .
Яны ідуць.
        На суд
            Ідуць удвох —
Адзін усцешаны, другі тугой спавіты.

### IV. НАША ВОСЕНЬ—НАША СЛАВА

І не прывідам-праявай
І не марай таямнічай,
Стала сонечнаю явай
Наша восень —
        Наш Кастрычнік!

Дзе дыміліся балоты,
Налівае хлеб пшанічны
Сокам спелай пазалоты
Наша восень —
        Наш Кастрычнік!

Ходзіць гулка, велічава
Між прастораў безгранічных —
Наша песня,
Наша слава,
Наша восень —
        Наш Кастрычнік!

*1933*

## НОВАМУ МІНСКУ

I

Красуй, сталіца маладая,
Твой бурны дзень,
Твой горды рух,
Твой стан, як помнік, вырастае
Гадам свінцовых завірух!

Ты, як застава, на граніцы
Аберагаеш Новы Свет.
Вясну тваю пяю, сталіца,
Я — сын табе,
  Я — твой паэт.

II

Бываць парой люблю ў архівах,
З падзей далёкіх скіну пыл,
І прад вачыма палахліва
Ўстае мінуўшчына, як дзіва,
З забытых кніг, нібы з магіл.

Хай князь, хай кат, хай губернатар,
Кладу жыццё іх на далонь
І пранясу ля кожнай хаты,
І людзі ўбачаць: кроў і краты,
І цьмяны ладана агонь.

Як прывід мсціўца, гнеўнай зданню
Тваіх вякоў сівая быль
Хай ходзіць ценем за панамі,
Як герб іх лёсу, хай начамі
Ім сніцца, выклятым, кастыль.

III

Красуй, савецкая сталіца,
Твой бурны дзень,
Твой горды рух,
Твой стан, як помнік бальшавіцкі
Гадам свінцовых завірух.

*1934*

## ТЫ БУДЗЕШ ЖЫЦЬ

Глядзеў я ўчора фільм «Чапаеў».

Ажыўлены экран...
Перад табой —
Жывыя,
Ў шэрых шынялях,
Рассейваючы дым,
Насоўваюцца,
        Крочаць,
            Франтавыя —
Незабыўныя і людзі і гады.
Перад табой —
Чапаеўцы-героі,
Гудуць агнём дарогі барацьбы.
І ты не ўседзіш, не!
Ты рвешся ў рокат бою!
Ой, ты не выседзіш,
Ты прагнеш з імі быць!
Змяінай здрадай смерць
Ідзе на чалавека.
І што мне зала ў мёртвай цішыні?
Я вырываюся,
Сказаць пра небяспеку
Лячу к Чапаеву на ўзмыленым кані.
Як той набат, і гулка і няспынна,
Трывогу сэрца б'е.
            Запяццем кулака
Я вочы тру,

Я чую: слёзы хлынуць.
І не адзін я, не — ўся зала,
　　　Уся краіна
Схіліла галаву.
　　　Бурліць Урал-рака...
Паходы грозных дзён,
Баёў суровых грохат —
Іх слава ў песнях шчасця і вясны!
Не вырваць з памяці,
Ты будзеш жыць, эпоха,—
Эпоха грамадзянскае вайны.

*1934*

## СЦЯНА БЯССТРАШНЫХ

Расце ў вачах маіх крэмлёўская сцяна,
Праменны дзень яна жалобай засланіла...
Ад края ў край, як гнеў, як рокат перуна,
Грыміць салют над свежаю магілай.
Нясуць рэспублікі апошні караул.
Як вал, праз Ленінград, ад Мінска і Паміра—
Ідзе ў Маскву людскі нястрымны гул:
— Будзь памяць вечная табе, таварыш Кіраў!

Марозам снежаньскім закована зямля,
На Краснай плошчы — хвоі апавіты сумам.
— Прымі бясстрашнага, прымі, сцяна Крэмля!..
Жалобны марш і плач дзяцей Уржума.
Апушчаны ў бядзе галовы і сцягі.
Расплаты прагне кроў, бурліць у жылах вірам.
Гарачая сляза лягла ў вянок тугі:
— Будзь памяць вечная табе, таварыш Кіраў!

Расце ў вачах людскіх крэмлёўская сцяна,
Жалобаю яна поўнеба засланіла...
Ад края ў край, як гнеў, як рокат перуна,
Грыміць салют над свежаю магілай.
Упаў салдат ад здрадніцкай рукі,
Не мала ворагаў па шчылінах і дзірах.
Шчыльней плячо к плячу! Нам жыць, бальшавікі!
— Будзь памяць вечная табе, таварыш Кіраў!

*1934*

## БЕЛАРУСКАЯ КАЗКА

За марамі, там дзе горы,
За гарамі, дзе азёры,
За азёрамі, пад сонцам,
У закінутай старонцы
Ёсць гара.
        На той гары,
У дубовым гушчары,
Жыў спакойна цэлы век
Невядомы чалавек.

        Жыў багатым жываглотам,
Працаваць не меў ахвоты.
Ад зары і да зары,
Абліваючыся потам,
Знемагалі за работай
Толькі птушкі і звяры.

Сам не сеяў, ні араў,
Ледзь нагой пераступаў,
А ўсяго яму ставала —
Хлеба, солі, круп і сала.
Свінні дзікія аралі,
Галкі ўслед баранавалі,
Бусел сеяў; нават козы
Дзёрлі лыка з вербалозаў,
А мядзведзь каля кустоў
З тога лыка лапці плёў.

Як засцеле завіруха
Шлях-дарогу белым пухам,
Ці на захад, ці на ўсход
Сабіраецца ў паход
Зверадавец-гаспадар
Прадаваць дабро-тавар.
Двор гудзіць перапалохам;
Усцілаюць санкі мохам,
Кожны лётаў,
Ахаў,
Охаў —
Суматоха, суматоха...
Загудзеў мядзведзь у рог,
Што ласёў ужо запрог.
Гусі-лебедзі вароты
Адчыняюць жываглоту.
Дзятлы б'юць у барабан:
— Едзе,
Едзе,
Едзе
Пан!
Вераб'і іграюць марш:
— Едзе,
Едзе
На кірмаш!..
Пан сядзіць і ў вус не дуе,
Едзе ноч — адну, другую,
Без канца, бесперастанку,
Колькі сілы цягнуць санкі
Цераз пушчы, цераз горы,
Цераз рэкі і азёры,
Без дарогі, без шляхоў
Адзінаццаць пар ласёў.
А з бакоў бягуць ваўкі,
Як стральцы-вартаўнікі.

Караван стралой імчыцца,
Хмарай снежны пыл вірыцца.
Пану — мала,
Мала,
Мала,

Гоніць ход, страшэнны ход.
Зло ў ласёў забушавала,
Гневам кроў забунтавала:
— Эх, трымайся, жываглот!
Як рванулі, тузанулі,
Санкі ўбок перавярнулі,
І тарчма пракляты пан
Пакаціўся, як чурбан,
З горкі —
Уніз,
Уніз,
Уніз...
Там і снегам замяло
Пана мёртвае чало.

Доўга бой кіпеў суровы
З воўчай панскаю аховай.
Пластам хціўцы палеглі:
Іх ласі перамаглі
І пайшлі
Без перашкоды
У лес,
На волю,
На свабоду!

*1934*

## БЛАТ

I

Няхай невялічкі пакой,
А думкам — прастор і развой.
Жыве тут заслужаны спец:
На працы — як верацяніца,
На працы — снуе, мітусіцца,
А прыйдзе дадому — канец
Спаборніцтву
        і будаўніцтву.

Не любіць ён вока чужое:
Фіранкай закрые акно.
З буфета дастане віно
І вып'е глыток для настрою.
Прыляжа. А ціха наўкол,
За шыбінай ззяе вясёлка...
— Калі ў галаве тваёй толк,
Жывецца па густу і толкам.
Галоўнае дружба, а ёй —
Заўсёды ўсе дзверы адкрыты:
Для Ціта дастанеш пакой,
А ў Ціта цвікі для Мікіты.
Мікіта дасць некалькі тон
Цэменту з падзякай Івану.
Іван у адзнаку вагон
Адгрузіць пшаніцы Сцяпану.
І верціцца так карусель,

І круціцца без перабояў;
І людзі здаволены мною,
І мне не зашкодзіць рубель.

Няхай невялічкі пакой,
А думкам — прастор і развой,
І воку чужому і вуху
Не ўбачыць тут і не падслухаць!
А думкі плылі і плылі,
Як рэчка па роўнай зямлі:
— Што жменяй уласнаю згроб —
Тваё, карыстайся, як хочаш!..
І зморшчыў абветраны лоб,
І бровы насупіў на вочы.
Уздрыгнуў... Як быццам з засады,
Трывога лілася з грудзей.
Ён глянуў навокал і рады:
У пакоі інтымны парадак,
Блішчыць на партрэтах алей...

II

Цярушыцца сцежкай імглістай
Сутоннага змроку парча.
Ён слухаў рапсодыю Ліста —
Па радыё чуў скрыпача.

Струна паланіла гучаннем,
Будзіла жывая струна
Пачуцці вясны і кахання,
Пачуцці агню і віна;

І страх за жыццё абуджала,
І ў сэрцы трывогай расла.
Якраз, як сумысле, як знала,
Чарнявая Галка ўвайшла.

— Здароў!.. Я прынесла навіны!
— Кажы, я ўсяму буду рад.
— Мой любы, на бочку бензіна
Дастала табе я нарад.

Але заадно абяцала
Дзве скрынкі аконнага шкла. —
А скрыпка няспынна іграла,
Чуллівая песня плыла.

— Любімы!.. — І Галка лісіцай
Зрабіла прывычны свой жэст.
Ён тут жа ёй з кніжнай паліцы
Дастаў крэпдэшыну адрэз...

А месячык шыбіну драпаў,
Прасіўся да іх на канапу.

III

Чаромха у праменнях
Шуміць каля акна.
На крыллях летуценняў
Прабеглі веі сна.

А сніўся сон жахлівы,
Праняў халодны пот:
Вось быццам ён з абрыва
Ляціць на эшафот.

Устаў. Акінуў вокам.
Няма і Галкі ўжо.
Ён уздыхнуў глыбока
І глянуў на ружжо.

Але ж яно ніколі
Не выстраліць само.
Усхвалёваны да болю,
Ён стаў каля трумо.

Капрызы туалету
Яго ўзялі ў палон.
Званок. Прынёс газету
Раённы паштальён.

Зварот, за словам слова,
Ён прачытаў услых:
— Чакаем песень новых
І навуковых кніг.
Вучоным і паэтам
Ад моладзі пісьмо... —
Заёрзаў. Змяў газету.
Зноў стаў каля трумо.

А думкі смелым лётам
Крыляцца, як арлы.
На песнях заработак,
Напэўна, не малы.

Ён доўга задумённы
Ўглядаўся ў свой партрэт.
— Відаць, лягчэй вучоным,
Які з мяне паэт?

Уплесці ў рыфму слова —
Няма страшнейшых мук.
Навошта ж мне спілоўваць
Яшчэ жывучы сук?

За чаркаю ў іх купу
Пралез бы я, аднак —
Пісьменніка не купіш,
Хоць выпіць ён мастак.

А я знаёмых маю
Сярод вучоных шмат.
Між імі ёсць, я знаю,
Што паважаюць блат.

Лука Лукіч мне родзіч,
І толькі захачу —
Ён пры любой пагодзе
Пазвоніць Фамічу;

Фаміч перагаворыць
З Ціт Цітычам, а ён

Сябруе з Крыстафорам.
І так праз рубікон —

На берагі Эдэма
Мяне завалакуць.
І для даклада тэму
З прыемнасцю дадуць.

І сам даклад таксама
Напішуць мне сябры:
«Ці быў у Мінску замак
На Замкавай гары?»

І я ў пашане буду,
Бо я зраблю даклад.
І так народзіць цуда
Усемагутны блат.

Дый раптам стук у дзверы
І гулкі стук прытым,
Два міліцыянеры
Заходзяць з панятым.

— Не трэба хваляваццa,
Накіньце паліто... —
        А праз хвілін дванаццаць
Іх везла ўжо аўто...

*1934*

## ГАЛОДНАЯ РАНІЦА

Змрок ночы знікаў, акрывавіўшы брук,
І месяц каціўся ў свой нетравы люк.
Ляглі на фабрычныя гмахі-муры
Агністыя слёзы трывожнай зары.
Людская, смяротная роспач расла.
Галодная раніца ў горад прыйшла.

Галодная раніца — кроў і крыжы,
Фашысты-пагромшчыкі ўзнялі нажы.
Шалее карычневы мор і чума.
Ні працы, ні хлеба, ні хаты — няма.
Кідаюцца людзі ў бурлівую муць —
І трупы галодных па Рэйне плывуць.

Работніца-матка ўзышла на гару,
Праклянцем яна сустракала зару:
Сын з голаду згінуў, расстрэлены муж.
— Каму ўсходзіш, сонца? Скажы мне, каму?
Расплатай лягла ёй на грудзі зямля.
Як помнік магільны — на дрэве пятля.

Галодная раніца. Хлопчык малы
Падпольны лісток прадае з-пад палы,
Пазнаў імя — Ленін — і крэйдаю скрозь
Яго ён выводзіць фашыстам на злосць.
Яно ж акрыляе, як новая рань,
Як здань камунізма, як вешчая здань!..

*1935*

## ПАЎНАЛЕЦЦЕ

Сягоння я пацалаваў дзяўчыну...

Дарогі ўсе расчынены гасцінна:
Дачка Кастрычніка, мая жывая песня,
Сярод сяброў, сярод сваіх равесніц
Выходзіш першаю на радасны парад.

Сцягі калыша над табою вецер...

Тваё, дзяўчына, сёння паўналецце!
Ты нарадзілася, калі свінцовы град
Узвёў у веліч ярасць барыкад,
Шугалі іскры над тваёй калыскай.

Мінаеш восемнаццатую восень...

Ты — маладосці нашай сцяганосец!
І нават сонца асядае нізка
З вышынь прасторных, як парашутыстка,
Каб поруч стаць, вясёлая, з табою.

Я ўвесь агонь душы сваёй сабраў
І, як таварыша, як друга, як героя,—
Цябе, прыгожую, у песнях цалаваў.

*1935*

## ВЕЧАРЫНКА

Збірайцеся, людзі,
Заходзьце, сябры.
Сягоння мы будзем
Гуляць да зары.

Дачушка, дзяўчынка,
Яно ў першы раз,
У нас — вечарынка,
Гулянка у нас!

Нясі ў хату брагу,
Кірмаш з кірмашоў,—
Працоўнага сцягу
Мне ордэн прыйшоў.

Па ўсёй нашай вёсцы
Гаворка, як звон:
Стаў ордэнаносцам
І конюх Антон.

Эх, тупну сягоння,
Дарма, што сівы,
У бубны зазвоніць
І шум баравы.

І так разыдуся,
Аж пыл шугане.

Па ўсёй Беларусі
Пачуюць мяне...

І чарка, і скварка,
І хата свая.
Ты стала даяркай,
Стаў конюхам я.

Жывем мы багата
З вясны да вясны.
Як глянеш — твой статак,
Мае — табуны.

Дачушка, дзяўчынка,
Касу заплятай,
У нас вечарынка,
Сталы накрывай!

Збірайцеся, людзі,
Заходзьце, сябры,
Сягоння мы будзем
Гуляць да зары.

*1935*

## НОЧ У РАЗВЕДЦЫ

Пад Барысавам палонным,
За Бярозаю-ракой,
Войска арміі Чырвонай
Сабірала сілы ў бой.

— Ледзь над лесам сонца ўзыдзе —
Фронт прарваць, нанёсшы ўдар,—
Вырашаў Арджанікідзе,
Палкаводзец-камісар.

Ноч расой паіла кветкі,
Над ракой туман стаяў.
Рапарт пятае разведкі
У гэту ноч Сярго прымаў.

Быў ён здзіўлены дакладам:
Весткі розныя ва ўсіх.
І ён склікаў на нараду
Камандзіраў баявых.

Як дазор, дубы-сталеткі
Засланілі грамаду.
І сказаў Сярго:
— У разведку
Сам, таварышы, пайду.

Пад нагамі голле хрушчыць,
Гоман хвой кладзецца ніц.
Ўзлёт агню гармат над пушчай,
Як трывожны ўзлёт зарніц.

Цераз брод, унепрыкметку,
Праз імшэлы бор густы
Вёў Сярго атрад разведкі,
Што вярста — глыбей у тыл.

Меў з сялянамі размовы,
З трох паноў здымаў дапрос.
Вестак шмат патрэбных, новых
Той дапрос яму прынёс.

З думай дум сваіх, з развагай,
Ён зару ў бары спаткаў.
Беларускіх смачных ягад
Першы раз пакаштаваў.

Зноўку ноч. Паўзуць сапёры,
На ваду кладуць масты.
Будзе бой! І нават зоры
Гасяць бляск свой залаты!

Знаў Сярго сакрэт недарам,
У абход правёў салдат
І знянацку ў тыл ударыў
Градам куль, агнём гармат.

Нечакана наляталі
На акоп — штыкамі ў лоб,
Сталлю бралі, вызвалялі
Беларускі Перакоп.

Сціхлі хвалі на Бярозе.
Змоўк гармат гарачы гул.
Выплыў месяц, на дарозе
Стаў з байцамі ў караул.

Пераможцам насустрэчу
Выйшлі з кожнага двара...
Апусціўся ціхі вечар
Ля прывальнага кастра.

*1935*

## НА ВЕКІ ВЯКОЎ

Мяне разбудзіў тэлефонны званок...

Зара разлівае рабінавы сок.
У стайні ў дарогу сядлаюць каня.
З трывогай з дарогі бяжыць цішыня
Ад гулкага поступу спелага дня.

Мяне ля дарог сустракаюць бары...

Вядуць пераклічку ў палях трактары.
Праменні ліюцца праз тысячы сіт,
Абапал бяжыць баравы аксаміт,
Далёка плыве чоткі цокат капыт.

Прачнуўся ў лістах залатых лістапад...

Я еду ў калгас, як таварыш, як брат.
Там свята сягоння, дзень шчасця прыйшоў,
Там радасць не знае граніц-берагоў:
— Зямлю атрымалі на векі вякоў!

Спяшаюцца вёрсты, і думкі, і час.
Калгас весяліцца. Святкуе калгас.

*1935*

## КАЛЫХАНКА

Ціха, кіска,
Ціха, братка,
У калысцы
Спіць дзіцятка.
Будзь жа добранькі — глядзі
Дзіцяня не разбудзі.

Кіска слухацца не хоча,
Скача ён з кутка ў куточак.

Ох ты, кіска,
Ох, пағаны,
Скінуў міску
З кашкай маннай.
Галубкі лятуць, лятуць,
Кашку гэтую з'ядуць.

Баючыся кары цяжкай,
Кіска слёзы лье над кашкай.

Чуеш, кіска,
Ля калыскі
Ходзіць мышка-
Каратышка.
Час не трацъ жа, а-ні-ні,
Гэту мышку прагані.

Кіска часу не губляе,
Мышку ў норку заганяе.

Змогся кіска,
Прытаміўся,
Пад калыскай
Прымасціўся,
Хвост пад лапкі падгарнуў
І салодкім сном заснуў.

Баю-баю... Ціха ў хаце.
Захацела спаць і маці.

*1935*

## ЁСЦЬ НА СВЕЦЕ ШЧАСЦЕ

Ёсць Масква на свеце! —
Значыць, над зямлёю
Узышло і свеціць
Сонца маладое;
Значыць, на планеце
Ёсць такая ўлада,
Дзе бацькам і дзецям
Любоў і спагада;
Значыць, і такая
Партыя існуе,
Што аб людзях дбае,
Новы свет будуе,—
Дзе няма гаротных
І няма магнатаў,
Дзе ўжо беззваротна
Гора выйшла з хаты;
Дзе не ласкі просяць
Ад зямлі, а самі
Стэп змушаюць расціць —
Звінець каласамі;
Векавы, кіпучы
Шлях змяняюць рэкам,
Нетры, горы, кручы
Служаць чалавеку;
Дзе для ўсіх народаў
Свет Крэмля ірдзее

Зорамі свабоды,
Праўды і надзеі.
І ніхто не засціць
Маяка сталеццяў.
Ёсць на свеце шчасце —
Ёсць Масква на свеце!

*1935*

## ЭХ, НОЧКА

Эх, ночка, маладзіцаю
Ты да мяне прыйшла,
Міргнуўшы мне зарніцаю,
Сузор'ем расцвіла.

Іду, пад ногі сцелецца
Пралескавы дыван,
А на душы — мяцеліца,
А ў галаве — туман.

Сады цвітуць вішнёвыя,
Шуміць зялёны шоўк.
Эх, ночка, ноч вясновая,
Я ў глыб тваю зайшоў.

Бывала так, здаралася,
І рад я і не рад,
Ты мною забаўлялася —
Вадзіла да дзяўчат.

Бывала так, прызнаюся,
Пад зорамі іду,
З дзяўчынаю спаткаюся
І... блытаю хаду.

Хутчэй, заранка ранняя,
Спускайся на зямлю.
Чураюся кахання я —
Бо я дзяўчат люблю.

*1935*

## ПАПАНІНЦЫ

То ні казка прасторы палярнай
Ходзіць з вуснаў у вусны людзей,
Гэта песня падзей легендарных,
Голас велічы нашых падзей.
        На пустыннае белае поле,
Дзе кіпіць ледзяная пурга,
Дзе яшчэ нічыя і ніколі
Не ступала людская нага,—
На нязведаны полюс Паўночны
Вы, чатыры героі, прыйшлі.
Запалаў між застыглае ночы
Сцяг вялікай савецкай зямлі!
        На ільдзіне ў палярную цемень,
Пад галошанне вечных завей
Вы плылі, як у казцы-паэме,
Дзвесце семдзесят дзён і начэй.
Акіянская хваля вас гнала
Да Грэнландскіх сляпых берагоў.
Вас, бясстрашных, радзіма натхняла,
Сагравала вас наша любоў.
Вы разгадвалі нораў прыроды,
Недаступныя тайны яе,
З неўміручасцю вы назаўсёды
Парадніллі імёны свае.
        То не казка дваццатага веку
Ходзіць з вуснаў у вусны людзей,—
Гэта гімн перамог чалавека,
Голас велічы нашых падзей.

*1936*

## ВЯСНА-КРАСУНЯ

Вясна-красуня ў бубны б'е. Зара, ярчэй гары!
Сасонкі тонкаствольныя абуджаны ў бары.

У лес-гушчар збіраюцца крылатыя страі,
Гасцінна сустракаюць іх крыніцы-ручаі.

Пушыста ўецца-сцелецца густая дзераза.
Міргае ветла явару вясёлая лаза.

Бярозка ў люстры возера любуецца сваёй
Зялёнаю каронаю, распушчанай касой.

Дубы-дзяды імшэлыя — ледзь золак, і яны
На дудах перагукваюцца з гуслямі вясны.

Вясна-красуня ў бубны б'е. Прасторы расцвілі.
Цвіце і не нарадуецца маладосць зямлі.

*1937*

## ПЕСНЯ

Як пажну пшаніцу ў полі —
Буйныя калоссі,
На пабыўку, мой саколік,
Прыязджай у госці.
Табе вышыла сарочку
Цветам васільковым
І саткала паясочак
З нітак каляровых.
Шлях табе адкрыты насцеж,
Прыязджай, мой мілы,
Будзе рэяць наша шчасце
Птушкай лёгкакрылай.
Дарагім ты будзеш госцем,
Весела, я знаю,
Зоркі нашай маладосці
У вачах заззяюць.
Мой харошы, мой саколік,
Сэрца тваё чую.
Абніму і, як ніколі,
Моцна пацалую.

*1937*

## МАЦІ І СЯСТРА

Агнявое наша сонца ярка свеціць над зямлёй,
Я іду дарогай міру, песня радасці са мной.
Я нясу любоў і шчасце, расступілася гара.
Я — савецкая жанчына,
Я — на новай пуцявіне,
Я — шчаслівая ў краіне —
Маці і сястра!

Я дзяржаваю кірую, скрозь будую гарады,
Расцвілі, як наша доля, цветам золака сады.
Сэрца матчынае цешыць звонкім смехам дзетвара.
Я — савецкая жанчына,
Я — дачка сям'і арлінай,
Я — шчаслівая ў краіне —
Маці і сястра!

Гаравалі, гнулі спіны, горкім быў жаночы лёс,
Рэкі буйныя кіпелі ад гарачых нашых слёз.
Адышла ў нябыт з праклёнам гаратлівая пара.
Я — савецкая жанчына,
Я — не помню век лучыны,
Я — шчаслівая ў краіне —
Маці і сястра!

Я спаборнічаю з братам на заводах, на палях,
Я над краем узлятаю на крылатых караблях.
Я ў змаганні гартавала мужны поступ змагара.

Я — савецкая жанчына,
Я — на новай пуцявіне,
Я — шчаслівая ў краіне —
Маці і сястра!

*1937*

## БЕЛАРУСЬ *)

Красуйся, Беларусь! Твой шлях
Заліты золакам вясны.
Ты нарадзілася ў баях,
Цябе пяюць твае сыны.

Пяюць і славяць дзіўны час,
Узлёты думак агнявых.
І не пазнаць цябе і нас,
Вясёлых, дужых, маладых.

Ад сініх полацкіх азёр
Да ціхіх тураўскіх нізін
Шуміць абуджаны прастор
Тваіх узгоркаў і раўнін.

Тут пад ярмом кароны жыў,
Цярпеў галечу, крыўду, здзек
І чалавекам век не быў
Забіты горам чалавек.

Ад слёз гарэў зялёны дол,
Чарнелі ясныя гаі,
Кіпелі рэкі навакол,
Сабраўшы плачу ручаі.

---

*) Напісана сумесна з паэтамі П. Броўкам і П. Глебкам.

Народ гаротны спіны гнуў,
На працы катаржнай гібеў.
А слова літасці не чуў,
Скарынкі чэрствае не меў.

Ён быў ахвяраю вайны,
Лілася кроў пад гул гармат.
Паўзлі атруты туманы
Над бедным роем курных хат.

Ды пракаціўся грозны кліч:
— Паўстань, зняволены народ!
І над акопамі Ільіч
Ішоў і клікаў у паход.

Красуйся, Беларусь! Твой сын
Устаў на кліч правадыра.
І ты між сонечных краін
Расцеш, як роўная сястра.

У тысячах вялікіх спраў
Змяніў аблічча твой прасцяг,
Магутны росквіт запалаў
Жаданай явай на палях.

Шумяць цяжкія каласы,
Плыве блакітнай хваляй лён,
У зорах цёплае расы
Расце людской работы плён.

Да хмар дасягшы галавой,
Гамоніць з небам бор густы.
І кожнай ранняю вясной
Па водах рушацца плыты.

Шчаслівы час жыцця прыйшоў,
Твой сын, што гнуўся над сахой,
Умела трактары павёў
Сваёй бязмежнаю зямлёй;

І нечуванай славы гром
З усіх праносіцца дарог,
Праходзіць ён уладаром
Сваіх вялікіх перамог.

Праходзіць ён сярод палёў,
Сярод квітнеючых далін,
Пад гулкім небам гарадоў,
Паміж варштатаў і машын.

Надхмар'ем ён, за строем строй,
Бясстрашна водзіць караблі.
Вартуе пільна твой спакой
І над зямлёй і на зямлі.

Ідзе ён сілай маладой,
Узняты гордым пачуццём,
Красой захоплены тваёй,
Тваім багаццем і жыццём.

І гонар шырыцца ў вяках
Тваіх сыноў, тваёй зямлі,
Ордэнаносная дачка
Многаплямённае сям'і.

У мужнай постаці людзей,
У песнях ветлівых дзяўчат,
У гульнях радасных дзяцей,
У новых строях светлых хат,

У бурнай сіле гарадоў,
У параходах, цягніках,
У пладавітасці садоў,
У цвеце збожжа на палях,

У звонкім шэлесце лясным,
У неспынёных плынях рэк —
Дзяржаўным поступам сваім
Свой залаты вітаеш век!

Красуйся, Беларусь! Твой шлях
Заліты золакам вясны,
Ты нарадзілася ў баях,
Цябе пяюць твае сыны.

*1937*

## КАХАННЕ

Рань блакітная. Іскрыста
Промень лёг на вецце.
Едзе полем трактарыстка.
Вее цёплы вецер.

Гаварліваю лістотай
Клоняцца таполі.
Чуцен рокат самалёта.
Каласіцца поле.

Да чарнявай трактарысткі,
Быццам на разведку,
Апусціўся лётчык нізка
І ёй скінуў кветку.

Памахаў крылом і быстра
Знік за пераваламі.
Доўга, доўга трактарыстка
Кветку цалавала.

*1937*

## ШЛЯХ ВЫГНАННЯ

*Памяці А. С. Пушкіна*

Я еду лесам, еду борам,
Здаецца, ўслед ідуць за мной
У снегавых сваіх уборах
Сасна, абняўшыся з сасной.

Мінаюць вёрсты. Як ніколі,
Раздоллем вабіць шырыня.
Прывет, аснежанае поле!
Прывет, марозны гоман дня!

Я праязджаю тым маршрутам
Праз беларускі лес-гушчар,
Якім, скаваўшы думы ў путы,
Паэта гнаў у ссылку цар.

Услед за геніем народаў,
За ўзлётам ясных дум яго
Цар пасылаў таемным ходам
Жандара вернага свайго.

Паміж палёў, дубоў-сталетак,
Каля празрыстага Дняпра,
Ляжаў выгнання шлях паэта
Па ўказу злыбеды-цара.

І Беларусь тады не знала,
Хто быў выгнаннік той,— яна,

Многапакутная, ляжала
Уся ў прыгонных кайданах.

Паэт-выгнаннік піў з крыніцы
Ляснуую, чыстую ваду,
Ён бачыў тых, хто жаў пшаніцу,
А еў кару і лебяду.

І марыў ён: на першым дрэве
Павесіць лютага цара!
...Правёўшы ноч у Магілеве,
Далей пагналі песняра.

Змяніўся час. У вусны з вуснаў
Ён, як жывы, ў вякі ідзе.
Ён лепшы сябар беларусаў,
Ён з намі ў нашай грамадзе.

Ён з намі, наш! На шлях выгнання
Лягла жаданая зара
І асяняе сваім ззяннем
Імя прарока-песняра.

*1937*

## МІЖ КВЕТАК І ДРЭЎ

Між кветак і дрэў на заводскім двары
Сабраліся ў час перапынку сябры.
І я падышоў і прысеў каля іх.
Сябры гаварылі аб справах сваіх.
Прыемна вясновай лагоднай парой
Сыйсціся, пагутарыць паміж сабой.

Здаецца, яшчэ гэта ўчора было,
Тут ветры гулі, сухазелле расло.
Дзічэлі ў абдымках густой нематы
Спрадвеку пакрытыя пылам кусты.
А сёння тут цуда стварае народ:
Будуецца сонечны горад-завод.

Я помню, нас тысячы гэткіх, як я,
На працу пазвала краіна мая.
І ў спёку, і ў сцюжу, і ноччу, і днём
Зямлю абуджаў аманалавы гром.
Я цэглу за цэглай у сцены ўкладаў,
Я сам сваё шчасце сабе будаваў.

Я знаю, што мне беспрацоўным не быць,
Што голад не будзе за мною хадзіць.
Радзіма! Яна прад вачыма ўстае,
Нам права на працу і радасць дае.
Гляджу на сяброў, на шчаслівых людзей,
Няма ў іх трывогі за заўтрашні дзень.

Ля сонцам залітай цаглянай сцяны
Былое жыццё ўспамінаюць яны.
Рабілі калісь ад цямна да цямна,
А песціла толькі галеча адна.
Цяпер наша праца — і подзвіг і чэсць,
А хто не працуе ў нас — той і не есць!

Прарэзаў блакітную цішу гудок.
Сябры мае ўсталі, прыспешылі крок.
Як добра на поўныя грудзі дыхнуць,
У заўтрашні дзень пераможцам зірнуць.
Як цешыцца сэрца!.. А хто з нас не рад?
За працу становімся зноў за варштат.

Зноў коціцца гул гаварлівых машын.
Зноў праца ўскіпае, і ўсе, як адзін,
З любоўю і ўпартасцю гаспадара
Куюць незлічоныя скарбы дабра.
І я між сяброў за варштатам стаю,
Працую і песню ад сэрца пяю.

*1937*

## ІШЛІ СЯБРЫ

На вуліцы гул, што нястомны прыбой,
Калоўся аб сцены, як хвалі аб скалы.
Святочнай хадой па ўрачыстай Цвярской,
Размову сваю ведучы між сабой,
Ішлі —
    Максім Горкі і Янка Купала.

Настаўнік і вучань — старыя сябры —
Свае ўспаміналі дарогі і годы.
Жылі адной думай яшчэ на зары,
Калі двухгаловыя вылі вятры
Над краем, што зваўся турмою народаў.

Было што прыпомніць!.. Дарогай крутой,
Праз тры рэвалюцыі, горы і кручы
Пранеслі гарачае слова і свой,
Шырока разліўшыйся вешчай зарой,
Вялікага сэрца агонь неўміручы.

Пра лёс чалавека гаворку вялі.
Іх светлым вачам раскрываліся далі:
Над Волгай і Нёмнам не хмары плылі,
Не пот бурлакоў апаляў Жыгулі,
Не горам жалейкі ў Палессі спявалі.

Адны іх злучалі і мары і сны,
Іначшае радасці сэрца не просіць:
Пачулі яны ля Крэмлёўскай сцяны,

Як вецер праслаўленых нетраў лясных
Над рэчкай Арэсай калыша калоссі.

Убачылі поступ заводаў і шахт —
Увітыя славай дары пяцігодак.
Шумеў маладымі прысадамі шлях,
А песня, якой не бывала ў вяках,
Лунала любоўю і дружбай народаў.

— «А хто там ідзе?» —
        ты прыгадваеш, друг?
Прыждалі з табой мы хвіліны цудоўнай!
І ветла ўсміхнуліся раптам удвух:
Як глянуць, шчаслівыя крочаць наўкруг
Унукі і Нілаўны і Бандароўны.

Што бурная плынь паўнаводнай ракі,
Жыццём неўгамонным Масква бушавала.
Праз Красную плошчу ў бяссмерце, ў вякі,
У родным, шматмоўным натоўпе людскім
Ішлі —
        Максім Горкі і Янка Купала.

*1938*

## ДЗЕД І ЎНУК

I

Пад змрочным небам Беларусі,
Ля ціхабруйнае ракі,
На дыване густой травы
Сядзеў дзядок, як лунь, сівы.
Перад дарогай дальняй гусі
Купаліся між асакі.

Спакойна берагамывала
Спрадвеку мутная вада.
Каб разагнаць сваю журбу,
Да вуснаў дзед прыклаў трубу.
У вырай дружна адлятала
Гусей трывожных чарада.

Цяжар гадоў насілі плечы,
Зайздросціў дзед крылам гусей.
У думках ім ляцеў услед,
Убачыць прагнуў Новы Свет,
Дзе ні прымусу, ні галечы,
Дзе быў бы роўным між людзей.

А восень, з края і да края,
Ў абдымках з голадам ішла.
Дзед глянуў на сваё сяло,
І засмуцілася чало.

Ніхто не бачыў, як цяжкая
Па барадзе сляза цякла.

Дзед ціха кляў цара і пана,
Дні гаратлівыя свае.
А ў сэрцы ён надзею нёс,
Што ўсё-ткі прыйдзе лепшы лёс
І на трубе на берасцянай
Ён песню шчасця прапяе.

II

Агнём абняты хмары. Грукат
Зямлю і неба сатрасаў.
І нарадзіўся Новы Свет,
Аб чым калісьці марыў дзед
І за які сыноў і ўнукаў
Ён на вайну благаслаўляў;

І за які гушкаў малютак,
Чыіх бацькоў паклікаў бой,
І за які з ядою збан
Насіў у лес да партызан,
І за які ў палоне лютым
Загінуў мужна, як герой!

Над слаўнай дзедавай магілай
Шуміць вянок жывых бяроз.
Як дар, як спадчыну, трубу,
Што прадвяшчала барацьбу,
Што сэрцам дзеда гаварыла, —
Ягоны ўнук з сабой панёс.

Ішлі гады ў нястрымным русе.
Дзе твань была, квітнее сад.
І старажытная труба,
Душа ранейшага раба,
Пад ясным небам Беларусі
Пяе на вольны, новы лад.

Як хвалі мора, залатая
Шуміць пшаніца ля дарог.
У летні вечар, ля кастра,
У круг садзіцца дзетвара,
Ім песню шчасця ўнук спявае,
Якую дзед прапець не змог.

*1938*

## ЛЕНІНА ПРОСТАЕ СЛОВА

Ішло ты з падполля праз цемень і краты,
Народ падымала, хадзіла па хатах,
У сэрца людское
Запаўшы іскрою,
Распальвала гнеў, разбівала аковы —
Леніна простае слова.

Між зорак адвечных нязгаснай і новай
Заззяла ты зоркаю пяціканцовай,
Ты залпам «Аўроры»
Узбудзіла прасторы,
У бездань ты скінула трон двухгаловы —
Леніна мужнае слова.

Сягоння, як песня шчаслівага лёсу,
Ідзеш па заводах і нашых будовах,
І ў полі ты з намі
Ідзеш трактарамі,
І караблямі плывеш у нябёсах —
Леніна мірнае слова.

Ты стала святое святых чалавецтва,
Вялікая Праўда ў грудзях тваіх б'ецца.
Як носьбіт свабоды
І дружбы народаў,
Ты ходзіш па свету, гучыш на ўсіх мовах —
Леніна мудрае слова.

*1938*

## ЧЫРВОНААРМЕЙСКАЯ ЗОРКА

Чырвонаармейская зорка
Свабоду і шчасце вяшчае,
Агнём неўміручым палае
Чырвонаармейская зорка.
Пяць частак сусвету злучае,
І мудрая ўсюды гаворка:
Чырвонаармейская зорка
Свабоду і шчасце вяшчае!

*1938*

## СМЕРЦЬ ПАРТЫЗАНА

Мігаюць чорныя зарніцы,
Гудзіць пажарам ураган.
Адстаў ад боя партызан,
На бледным твары кроў дыміцца.
Ідзе жывой вады напіцца,
Ў вачах стаіць густы туман.
Ён ледзь ідзе, ягоны стан,
Як дуб ад ветру, стаў хіліцца.

Ён прагне піць... Не шум ігліцы,
Не боль сваіх адкрытых ран,
Яму здавалася, як быццам
Прад ім ракоча акіян;
І недалёка ад крыніцы
Упаў, знясілены, ў бур'ян.
А гром грымеў, і бліскавіцы
Вастрылі шаблі партызан.

Баі прайшлі... Дзе рос бур'ян,
Пад небам сонечным курган
Стаіць, як помнік навальніцам.
Ля кургана бурліць крыніца...

*1938*

## СПАКОЙНАЕ НОЧЫ

Засні, мой каханы,
Мой мілы сынок,
Падняўся туманам
За вокнамі змрок.
Раса на палянах,
Нахмурыўся гай.
Засні, паслухмяны,
Бай-баінькі-бай.

На золаку рана
Рассеецца змрок.
Бадзёрым, румяным
Ты ўстанеш, сынок.
Праменні на сцежках
Асушаць расу,
Вавёркі арэшкаў
Табе прынясуць.

З табой быць, сыночак,
Мне радасць адна.
Спакойнае ночы,
Салодкага сна.
Усе ўжо заснулі,
І ты засынай.
Лю-люсенькі-люлі,
Бай-баінькі-бай.

*1938*

## ЖНІВО

I

Неба сокамі блакіта
Налілося.
Ходзіць сонца сярод жыта,
Між калоссяў.
Ходзіць сонца, аглядае
Вокам ясным
Плён багатага ўраджаю,
Плён калгасны.

II

Ходзіць сонца пазалотай
Спелай нівы.
Жыта жнуць. Кіпіць работа.
Час руплівы.
Песня жніўная ўзлятае
Пераможна:
Дружным табарам збіраем
Сваё збожжа.

III

Над палямі гул узняты —
Гул камбайна,
Рады хлопцы і дзяўчаты
Працы дбайнай.

Залацістай хваляй зёрны
Льюцца ў хаты.
Ходзіць сонца, шлях прасторны —
Поле зжата.

IV

Ходзіць сонца, ўспамінае,
Як, бывала,
Тут праклёнам твань ліхая
Век стаяла,
Як людской упартай воляй,
Мужнай працай
Шыр балота стала полем
Называцца!

V

Ходзіць сонца, ходзіць песняй
Палявою,
Харавод вядзе на ўзлессі
З дзетварою;
Як да брата, зойдзе ў хату
Селяніна,
Разам з ім спраўляе свята —
Дзень дажынак.

*1938*

## БУДЗЕ, СПРАЎДЗІЦЦА ЎСЁ ГЭТА

Воля и разум трудового народа
изменяют фигуру и лицо земли.
*М. Горький*

Будзе, спраўдзіцца ўсё гэта:
Не багата зім і летаў
Пройдзе гулкаю хадою,
І, амытая расою,
Паласа за паласою,
Зашуміць, закаласіцца
Залацістая пшаніца
Полем-морам
На прасторы
Тундры дзікай, анямелай,
Што на картах плямай белай
Век ляжала; дзе ад мая
І да жніўня сонцаззяе,
Не сыходзячы з нябёс;
Дзе расце трава густая,
А не знае звону кос.

Будзе, спраўдзіцца ўсё гэта:
Сах, і эвенак, і кета
Свой аседлы новы дом
Абаўюць густым вянком
Шчодрых яблынь; раніцою
Шпак, абуджаны зарою,
Заспявае пад акном;
Прачынаючыся ў хлеве,

Голас свой падасць і певень;
Пастухі кароў і цёлак
Павядуць на вадапой;
Загудуць раямі пчолы
Над мурожнаю травой.
Будуць жыць аленяводы
З сваім хлебам, з сваім мёдам
І забудуць, як, бывала,
Следам гора качавала
Ад прывала да прывала,
Ад кастра і да кастра;
Як з пакон вякоў прырода
Укрывала ад народа
Залатую кладавую —
Нетры, поўныя дабра.

Стане явай, быллю стане!
Электрычных зорак рой
Яскравей паўночных ззянняў
Запалае над зямлёй, —
Дзе, вандруючы, алені
З пакалення ў пакаленне
На рагах сваіх калышуць
Беспрабуднае зацішша;
Дзе з блакітнымі пясцамі,
Як з сябрамі-важакамі,
Стаяй бродзяць гарнастаі
Ля азёрных берагоў;
Дзе, ўскрылёнае вятрамі,
Рэха носіць над палямі
То вядзьмяны крык шамана,
То выццё галодных псоў.
Пройдзе час,
І ў гэтым краі
Гарады павырастаюць.
Будзе рэяць перамога
Волі, розуму людскога —
Малатамі на заводах,
Караванамі на водах,
Над зямлёю караблямі,
Пад зямлёю цягнікамі,

Трактарамі на палях,
Букваром за партай школьнай,
Песняй радасці застольнай,
Зоркай славы на капрах.
Да зямлі свае галіны
Ад цяжару пасхіляюць
Пладаносныя сады.
        Толькі вырай жураўліны
Праляціць і нагадае
Дні качуючай бяды.

*1940*

## ДЗВЕ ДАРОЖАНЬКІ

Грымнуў гром, і, як маршчыны,
На чало маёй зямлі,
Па раўнінах і лагчынах,
Дзве дарожанькі ляглі.

Раным-рана... Пазалотай
Заірдзеў дрымотны бор.
Выйшаў хлопец за вароты,
На суседні глянуў двор.

Не на поле, не на працу
Выйшаў ён у гэткі час,
А з дзяўчынаю спаткацца
І апошні, можа, раз.

Засмучонай, невясёлай
Выйшла з хаты і яна.
Клён над імі гнуўся долу,
Разлучала іх вайна.

Ён пайшоў... Слязой трывогі
Боль дзяўчыну апякла.
На траву, яму пад ногі,
Як дыван, зара лягла...

Непакойліва, як мыслі,
Праляцелі дзень за днём.

Чорнай хмараю навіслі
Смерць і гора над сялом.

Праклінаді гнеўна людзі
Наляцеўшую арду.
— Дзе ты, мілы? Разам будзем!
Як і ты, я ў бой пайду!

Толькі змрок пачаў гусціцца,
Ценем выбегла з сяла
І другой — дарожкай мсціўца —
Ў партызанскі лес пайшла.

*1942*

## СОН МАЦІ

Мне снілася:
Шэры рассеяўся змрок.
Узнялася сонца.
І ты, мой сынок,
Па сіняму небу на белым кані
Плывеш, аглядаючы свет з вышыні.
Зарніцы пяць кропель прынеслі агня,
Ты ўзяў іх, на міг затрымаўшы каня,
Пяць яркіх праменняў агнём залатым
Заззялі ад зоркі на шлёме тваім.
Ты рэеш, як сокал, не знаючы меж, —
То быццам як лебедзь па небу плывеш,
І чую я голас:
— Вось гэта сыны,
Айчыну ўпрыгожваюць славай яны.

І раптам з-за хмары, нібыта з дупла,
Знянацку змяя да цябе падпаўзла
І жала сваё, як стальное кап'ё,
Уваткнуць намагалася ў сэрца тваё.
Узняўся і грозны і жудасны бой!
Зацьмілася сонца,
Густой гаркатой
Злаславая цемра лягла над зямлёй.
Я ўздрыгнула: «Божа, што будзе з табой?
Хай вернай табе будзе сіла твая!»

Атрутнаю пенай сіпела змяя.
І хмары,
І дым,
І туман,
І імгла —
Змяшалася ўсё і кіпіць, як смала.
З нябёсаў, шугаючы чорным агнём,
Каменні ляцелі на родны твой дом.
Зямля загаралася, вогнішча йшло —
У горад,
У поле,
У лес,
У сяло.
Душу раздзіраючы, вылі вятры.
Малы і стары
Пакідалі двары,
Праз стогн і руіны, як толькі маглі,
У лес прабіваліся,
Беглі,
Паўзлі.
А бліжай і бліжай да сэрца твайго
Змяя падкрадалася — ўжаліць яго.
Званамі звінела, што справіць гарой
Гульбішча сваё над магілай тваёй.

Ты плечы расправіў, як волат, крануў
Каня свайго вернага, помстай дыхнуў.
Рвануўся наперад — віхуры зласней,
Агнісцей маланкі і грому грымней,
І на ашалелую ведзьму-змяю
Абрынуў магутную сілу сваю.
І тут пачалося такое, што век
Не бачыла неба, не знаў чалавек:
Кіпела,
Гарэла,
Стагнала,
Гуло.
Змяя не ўстаяла,
Ёй — дух заняло.
Назад павярнула, хацела ўцячы.
Дый помстай налітыя стрэлы, мячы

І спераду білі,
І ў след,
І з бакоў —
Няма ёй ратунку,
Канец ёй прыйшоў.

Абцёр ты блакітам нябёсаў чало.
На небе ні хмаркі. Зноў сонца ўзышло.
Як россып вясёлкі,
Узоры агню
Ляглі на кашулю вясёламу дню.
І ты, пераможца, на белым кані
Плывеш, аглядаючы свет з вышыні.
Прайшоўшы змагання смяротнага шлях,
Ты стаў і дужэй,
І шырэй у плячах.
Зноў чую я голас:
— Вось гэта сыны,
Айчыну ўпрыгожваюць славай яны.

*1944*

## 9 МАЯ 1945 ГОДА

Прыйшла Перамога! Звіні, кругавая!
Фашыстам дарога лягла ў небыццё.
У радасці бурнай, ад краю да краю,
Застольная песня бакал падымае,
Звіні, кругавая:
— За наша жыццё!

Грыміце, салюты! Іграйце, фанфары!
Дзень Міру і Славы нам рукі прасцёр.
Закончана бітва! Патухлі пажары!
Святкуй Перамогу! Руку дай, таварыш!
Звіні, кругавая:
— За наша жыццё!

*1945*

## ДАРОГАЙ ДАДОМУ

Ідзе ён дадому, ад шчасця знямог,
Знаёмая сцежка прыпала да ног.
Бярозка ў далоні зялёныя б'е.
Ідзе ён і весела песню пяе:
Прымай мяне, мой родны край,
Мая любімая, мяне прымай.
Я жыў-здароў,
Іду дамоў,
Любоў не знае берагоў.

Зняў шапку і доўга ўглядаўся з гары
На мілыя сэрцу сады і двары,
На домік, што ў вішнях, што ўсіх даражэй,
І ўдаль палілося з гарачых грудзей:
Прымай мяне, мой родны край,
Мая любімая, мяне прымай.
Я жыў-здароў,
Іду дамоў,
Любоў не знае берагоў.

У далёкіх паходах, у грозных баях
Заўсёды жывой ты стаяла ў вачах.
Выходзь, дарагая!.. А песня даўно,
Што ластаўка, радасна б'ецца ў акно:
Прымай мяне, мой родны край,
Мая любімая, мяне прымай.
Я жыў-здароў,
Іду дамоў,
Любоў не знае берагоў.

*1945*

## ЗНАЛА, ЁН ПРЫЙДЗЕ

Знала, ён прыйдзе,
Нас не разлучаць
Стромыя горы,
Цёмныя кручы.

Я расказала,
Як гаравала,
Як яго з фронта
Вернай чакала.
Сцежкі-дарожкі
Нашы сышліся,
Жыць неразлучна
Мы пакляліся.

Знала, ён прыйдзе,
І не завяне
Папараць — кветка
Надзей і кахання.

Стол засцілаю
Светлым абрусам.
Гэткі ўжо звычай
У беларусаў.
Песняй вясельнай
Аж да світання
Госці віталі
Свята кахання.

*1945*

## КАБ...

Каб не ляжала анямелай цаліна,
Каб хлеб не пераводзіўся ў засеках,
Каб слова тройчыклятае — вайна —
І знаць не знала мова чалавека;
Каб, за сталом сабраўшыся, сям'я
Не мольбы памінальныя чытала,
Каб звонам веснавога ручая
Вясёлая застольная гучала;
Каб кожны ў свеце хлопец малады
Не знаў касцямі ўсеянага поля —

За мір і дружбу вечную
Рады
Шчыльней злучайце,
Людзі добрай волі!

*1946*

## УСПАМІНЫ

Парой налятуць успаміны,
Як з выраю птушкі вясной,
І ўстануць тады прад табой
Пражытых гадоў пуцявіны.
Згадаеш свае хваляванні,
Дарогі юнацкіх прыгод.
Згадаеш і ласку пяшчот,
І першае слова кахання,
І першыя творчыя мукі,
І радасць, калі ўпершыню
Насустрач наступнаму дню
Ішлі мае песні па бруку.
Убачыш сябе між сваімі,
І ўжо, як вядзецца здаўна,
Іскрыстая чарка віна
Застольную песню падыме.

*1946*

## НЕ Ў ПАРУ

*Памяці сястры маёй Алесі*

1

Не ў пару ты пакінула нас,
Сястрыца,
Толькі жыць бы табе ў добры час,
Весяліцца.
Ад дзіцячых няветлівых год
Убогіх
Пражыта нямала нягод
І трывогі.
Ты заўсёды ішла маладой,
Трывалай,
А чаго на дарозе тваёй
Не бывала!
Ты заўсёды руплівай была,
Бадзёрай,
Пераносіць прыгожа магла
Сваё гора.
І была ты для ўсіх дарагой,
Прыветнай,
Чулым сэрцам, адкрытай душой,
Думкай светлай.
Слёзы горкія льюцца руччом,
Сястрыца.
Яшчэ жыць бы табе і жыццём
Ганарыцца!..

II

Мы разам з табою раслі
І разам, на пару, як кажуць,
Пранесці ў маленстве змаглі
Галечы цяжкую паклажу.

Не зналі бацькоўскіх пяшчот,
Суровая праца расціла
І ў свет хараства і турбот
Нам рана вароты адкрыла.

Падлеткамі разам з табой
Пакінулі чад сутарэння,
Узнятыя марай адной,
Адным пачуццём і імкненнем.

Мы разам з табою раслі,
Дужэлі ў вятрах непагоды.
Мы вернай дарогай ішлі,
Як верныя дзеці народа.

І чорная смерці сцяна
Устала між намі навекі.
Абарвалася, як струна,
Аповесць жыцця чалавека...

III

Над свежай магілай,
У калысцы лісцвянай
Гушкаецца смутак праявай.
Няпраўда! Ты з намі!
Я чую твой подых
У звонкіх дзіцячых забавах.
Любіла дзяцей ты,
На іх працавала,
Ты песціла іх, як маці.
Я бачу ля кветак
Цябе ў агародзе,
З алоўкам за кнігай у хаце.

Цябе я руплівую
Бачу сяброўкай
Найлюбага Янкі Купалы,
Збіраючы песні
Вялікага сэрца —
Ты сэрца сваё аддавала.
Над свежай магілай
Схіліла рабіна
Слязою амытае голле.
Даруй нам, Алеся,
Бывай, дарагая,
Цябе не забудзем ніколі.

*1947*

## ЦВІЦЕ ТАПОЛЯ

Хадзіў агонь на двор з двара,
Жалобна ветры вылі.
Славуты домік песняра
Фашысты спапялілі.
Таполя тры гады нямой,
Абвугленай стаяла,
Пад шорах ветлівы якой
Тварыў
І жыў Купала.

Для пакаленняў маяком
Народнага мастацтва
Стаяць тут будзе помнік-дом —
Палац палацаў!
Цвіце таполя, шалясціць
Лісцём, як шоўк зыбучым.
Жыве паэт і будзе жыць!
Купала —
Неўміручы!

*1947*

## ЛЮБЛЮ

Люблю я вячоркавы подых
Гушчарных лясоў і дуброў,
Паходнага лета прыгоды,
Размовы прывальных кастроў;

Люблю, калі ноч, захмялеўшы
Ад смольнай ігліцы ў бары,
Зарыецца ў нетры алешын,
Спакойна праспіць да зары.

Люблю ў цішыні цёмнай ночы,
Шырока адкрыўшы акно,
Глядзець сваім марам у вочы,
Надзеям сваім заадно;

Люблю, як займаецца золак,
Абуджаны гулам гудкоў,
Як дзеці спяшаюцца ў школы,
А з імі бацькі да станкоў.

Люблю радасць мірнае працы,
Вясёлую песню люблю —
І ўсё, каб нам з горам не знацца,
Што ў сілах маіх — я раблю.

*1947*

## І ТЫ І Я

І ты і я —
У нас адны імкненні,
І доля светлая з табой у нас адна.
Два галубы купаюцца ў праменнях,
Цвітуць, абняўшыся, дзве вішні ля акна.

Табе і мне —
Вясна дары прыносіць,
У сэрцы звонкая абуджана струна,
Звініць яна каханнем маладосці,
Цвітуць, абняўшыся, дзве вішні ля акна.

І ты і я —
Шляхі жыцця знайшлі мы,
У песнях радасці прыйшла вясна-красна.
Як добра жыць, як добра быць любімым!
Цвітуць, абняўшыся, дзве вішні ля акна.

*1947*

## ЛЯСНАЯ БАЙКА

*З народнага*

Вырас падасінавік,
Грыб
Архіп.
На дзіва ўсім
на ім
Прыгожы капялюш:
Ружовы,
Алмысловы
На ўсю лясную глуш.
Стаіць і задаецца
Грыб
Архіп.
Не можа наглядзецца
Край зялёны
На капялюш ягоны.
Шэпча мошка-басаножка:
— Ах, які грыбок харошы!
Крыллем плясне матылёк:
— Ах, які капелюшок!
Зайка скача, плешча ў лапкі:
— Я такой не бачыў шапкі!
Нават жаба выхваляе:
— Ква-ква-ква, ква-ква-ква, —
Раз такую шапку мае,
Дык якая ж галава!..

Раптам вецер паявіўся,
Грыб
Архіп
Закалаціўся;
Капялюш яго на дол
Пакаціўся колам.
І глядзяць усе наўкол:
Грыб
Архіп
Стаіць, як кол,
Голы, безгаловы...
Паратапталі ўсю траву,
Шукалі, звалі галаву —
І стала ясна, што дарма
Шукаць таго, чаго няма.

*1947*

* * *

Бывае так: адзін на полі бою,
Знясілены ад ран, ляжыць салдат.
І дым абвугленых прысад
Пятлёю душыць сэрца маладое.

Ён прагне піць... Але каго папросіш?
Дзе сіл узяць падняцца, жыць і жыць?
Заплюшчыў вочы, і яму здалося:
Крыніца поруч чыстая бяжыць.

Боль перамогшы, стаў ён на калені,
Нагроб рукою волкае зямлі,
Здавіў у кулаку, і, як збавенне,
Густыя кроплі з жмені пацяклі.

Праз ноч салдат падняўся, як з магілы,
І кінуўся зямлю ён цалаваць, —
Як маці родная, яна вярнула сілы,
Благаславіла жыць і красаваць!

*1948*

## МАТЧЫНА СЭРЦА

За акном у небе сінім
Рэе голуб — белы цвет.
Вышывае маці сыну
Не ручнік і не кісет;
Сын ідзе не ў партызаны,
Адшумеў трывогу бор:
Зарубцоўваюцца раны,
Адбудоўваецца двор;
У высокай новай хаце,
Як аб самым дарагім,
Пра Маскву спявае маці,
Вышываючы кілім.
Пасылаюць яе сына,
Камбайнера МТС,
Ад Палескае нізіны
Дэлегатам на кангрэс.

За акном камбайн працуе,
Сын пшаніцу ў полі жне.
Маці золатам ніткуе
Каласы на палатне.
Вышывае і спявае,
А пра што яна пяе —
Пад рукою, як жывое,
На палотнішчы ўстае.
У Маскве, у люднай зале,
Між братоў сваіх, сясцёр,
Сын разгорне, як скрыжалі,

Сэрца матчынага твор.
І пабачаць на кангрэсе,
Як пакутвала яна,
Як ніколі на Палессі
Не забудзецца вайна.

За акном — каля тэрасы,
Як на збор каля кастра,
З усяго амаль калгаса
Сабралася дзетвара.
Хто залез на клён сукаты,
Хто прысеў на пералаз,
Абкружылі дэлегата,
Свой даюць яму наказ.
Маці шые-вышывае...
Едзе сын яе ў Маскву!
То барвенкам наплываюць
Думкі-ўзоры на канву,
То ўплятаюцца пралескай
У нявянучы букет.
Над прастораю палескай
Рэе голуб — белы цвет.

*1948*

## СОНЕЧНАЯ ПОЎНАЧ

Суткамі сонца працуе,
Неба не ведае зор.
Край безыменных азёр
Росквіт суровы святкуе.

Спелай марошкай ірдзее
Скрозь і лагчына і яр.
Ціха кладзецца загар
На берагі Енісея.

Голаў у зараслі клоніць
Змучаны спёкай алень.
— Ночка цяпер альбо дзень? —
Грае ля чума гармонік.

Нібы ў адказ на пытанне —
Дальніх краёў жураўлі,
Каб адпачыць на зямлі,
Нанач спускаюцца ў тальнік.

Верная часу прыкмета!
Тундра гасцям дарагім
Свой разгарнула кілім
З кветак паўночнага лета.

Ззяе, не знаўшы закату,
Сонца палярнага дня.
Спяць жураўлі. Цішыня
Аберагае крылатых.

*1950*

## ПЕРАВАРОТ

Па свету песня славы ходзіць,
Пяюць народы ўсіх шырот,
Як падымаюць у прыродзе
Бальшавікі пераварот.

Як для людскога дабрабыту
Савецкі просты чалавек
Змяняе клімат старажытны,
Шляхі адвеку бурных рэк.

Як смела сад зялёным шумам
І за Палярны прыйдзе круг,
Як загудзіць у Кара-Кумах
Раямі пчол мурожны луг.

Ад сэрца ў сэрца песня льецца,
Пяюць народы ўсіх шырот
Айчыну дружбы чалавецтва,
Кастрычніцкі пераварот.

*1951*

## НА ЛЕСАПАВАЛЕ

Варушацца белыя бровы тайгі,
Дыхнуў небакрай непагодай.
Не страшны ў тайзе лесарубу снягі
І сцюжы раз'юшанай подых.

Іскраць залатой завірухай кастры,
Маторы гудуць на марозе.
Сумёты раскінуўшы ў гонкім бары,
Вядзе лесавозы бульдозер.

Кладуць лесарубы сасну за сасной.
Рыхтуй такелаж, плытагоны!
Стаіць, не сціхаючы, гул над тайгой,
Дрымотнай і вечна зялёнай.

А прыйдзе ў гушчарныя нетры вясна,
Таёжныя рэкі падыме,
І пойдзе вялікай вадою сасна
Служыць сваю службу Радзіме...

*1952*

## НОЧ ЗА ПАЛЯРНЫМ КРУГАМ

Ноч на поўначы бывае
Да бязлітасці даўгой.
То галосіць, завывае
Навальніцай снегавой;
То з умельствам непаўторным,
Як дзяўчына свой убор,
Па блакіту неба ўзоры
Вышывае з белых зор;
То, нібы алень, прыляжа
На марознай цаліне,
Пад напеў вятроў бадзяжных
Сплюшчыць вочы і засне.
Сном спакойным, сном дрымотным
І, здаецца, вечным сном
Спіць, раскінуўшы сумёты,
Зорным дышучы агнём.
Месяц, два і тры мінае —
Не расплюшчыць сваіх воч.
Да бязлітасці даўгая
За Палярным кругам ноч.

*1953*

## ПЕРАДЫШКА

Снягі, змяшаўшыся з зямлёю,
Кіпяць настоем цемнаты:
Ускінь руку перад сабою —
Сваю далонь не ўбачыш ты..

Парою непагадзі гэткай
Сябры збяруцца пасядзець.
Блішчаць з-пад прыпека адсветы,
Нібы расплаўленая медзь.

Не адступленне,— перадышка.
Нам выйграць бой усё адно.
Хто ля агню чытае кніжку,
А хто гуляе ў даміно.

Хто вобраз мілай прыгадае —
Красу далёкай стараны,
Па-свойму ціха заспявае
На мове сонца і зурны.

А хто закурыць папяросу,
Заплюшчыць вочы, перад ім —
Дняпро блакітны... дружна сосны
Звіняць на беразе крутым.

Але амаль абавязкова
І нечаканасцю для ўсіх

Метр за метрам —
да нетраў
Свой прабівалі мы шлях.

Хлопцы ў мяшках кажушыных
Моцна заснулі. Пара
Даць і сабе адпачынак,
Досыць сядзець ля кастра.

Не перадумаеш думак,
Шмат іх у сэрцы тваім,—
Як над заснежаным чумам,
Плыў над палаткамі дым.

Песні начлежнага лета,
Бацькаў успомніўся кут.
Спёк бы хоць бульбы, ды гэта ж
Бульба не водзіцца тут.

Ціха. Касцёр дагарае.
Вечар. Палаткі. Прывал.
Бераг таймырскага краю —
Дальні савецкі прычал.

*1954*

## АДНОЙЧЫ Ў ТУНДРЫ

Нізка над тундрай ляцеў самалёт,
Цень самалёта чапляўся за лёд.
Бег наўздагон быстраногі алень —
Дзіўны злавіць захацелася цень.
Белыя іскры ляцелі з-пад ног,
Дапамагчы нават вецер не змог.
Здаўся алень і прылёг на сумёт.
Нізка над тундрай кружыў самалёт...

*1955*

## ХАДЗІЎ Я

Хадзіў я ў дальнія паходы,
Нібы крыніцу дум і сіл,
Твой жыватворны матчын подых
Глыбока ў сэрцы я насіў;
Ты сагравала і натхняла,
Хоць ад цябе я быў здаля,
Зямля Заслонава, Купалы,
Якуба Коласа зямля.

*1956*

## ПЕРАМОГА

У тундры я пражыў гады,
Там, помню, веі гэтак дзьмулі,
Што тэлеграфныя танулі
У снегавішчах правады.

Здавалася: ад завірух,
Ад сцюжы ветру ледзянога
Жыцця канчалася дарога,
Парой ажно займала дух.

Было, ў палатках мы жылі,
З плеч не скідаючы бушлата,
Пасля пургі мы з тых палатак
Вылазілі, як з-пад зямлі.

Стаяў туман, мароз круты.
Не пераводзячы дыхання,
Вялі мы ўпартае змаганне
З дыханнем вечнай мерзлаты.

І не прайшоў, здаецца, год,
А горда першы рудны камень,
Здабыты ў нетрах тундры намі,
Мы ўжо грузілі ў самалёт!

*1956*

## ЗІМА Ў КРЫМЕ

Зімы раз'юшаны набег
Ахутаў хмараю Ай-Петры.
Над Чорным морам кружаць ветры,
Як пер'е чаек, белы снег.

Ад нечаканае пургі
Закалаціліся прысады.
Халодны полаг снегападу
Укрыў марскія берагі.

Нібы на ўзмыленым кані,
Віхор аблётвае прасторы.
Пурга ў паветры,
Шторм на моры,
А сэрца прагне цеплыні.

*1956*

## БЕЛАРУСКІЯ ТКАЧЫХІ

Ад родных ніў, ад роднай хаты...
*М. Багдановіч*

З калгасных вёсак, з роднай хаты,
Парой юнацкае красы,
Не ў панскі двор прыйшлі дзяўчаты,
А ў завадскія карпусы;
Не для магнатаў-ваяводаў,
Не тыя ў нас цяпер часы,
Прыйшлі для простага народа
Ткаць залатыя паясы.

Агнём вясёлым ззяюць вочы,
Не гнуць за кроснамі спіны,
Не пра гаротны лёс дзявочы
Пяюць, працуючы, яны;
Ад гаспадарскай, працавітай,
Ад іх умелае рукі —
Сукно, і шоўк, і аксаміты
Ніткуюць ткацкія станкі.

А за сцяной — не замак пана —
Палац культуры... пышны сад.
Як стайкі птушак ля фантана
Шчабечуць стайкі дашкалят.
Работа спорыцца. І нітка
Звініць, як тонкая струна,
Прасторны цэх святлом заліты,
І на душы ў дзяўчат вясна.

Іх праца ў славе працвітае.
Да іх, пазбыўшыся ярма,
З Еўропы едуць і з Кітая
Сакрэт майстэрства пераймаць:
Каб на савецкі лад багаты
Ткаць і ў рэспубліцы сваёй,
Як беларускія дзяўчаты,
Узоры радасці людской.

*1956*

## ЗА СТАЛОМ БРАТЭРСТВА

Зрадніла дружба нас, браты,
Не за сталом за кубкам мёду,
Заззяў агонь яе святы,
Калі ўзнімаўся залаты
На барыкадах век Свабоды.
Дык урачыста, з пачуццём
Братэрства нашых сэрцаў,— хорам,
Браты, уславім залп «Аўроры»,
Хвалу Кастрычніку спяём!

*1956*

## МАГІЛА САЛДАТА

Ля самай плошчы завадской,
Сярод густых ялін і хвой
Стаіць магіла: пахаваны
Радзімы нашай сын адданы —
Салдат рэспублікі маёй.

Ён па разбітаму шасэ,
Па акрываўленай расе
Ішоў, натхнёны гневам лютым,
Ён знаў: збаўленне ад пакуты
У хату родную нясе.

Ён бачыў, воін малады,
Што заставалася хады
У Мінск не больш палёту кулі,
Там людзі тры гады не чулі,
Як шалясцяць лісцём сады.

Там, на зямлі і над зямлёй,
Не сунімаючыся, бой
Кіпеў пад гул агню і сталі.
І на апошнім перавале
Упаў салдат пад ялінай...

Замоўклі рокаты грымот,
Адвес і кельму ўзяў народ —
Франтавікі і партызаны:
І ля салдацкага кургана
Узняўся трактарны завод.

З тых дзён —
Курган, дзе спіць змагар,
Вясной наведвае маляр,
Разложыць фарбы асцярожна —
І на зубчатай агарожы
Заззяе бронза, як загар.

З тых дзён —
і школьнікі гурбой
Сюды прыносяць гоман свой,
Сваю любоў і шанаванне;
Пасадзяць кветкі на кургане,
Пальюць іх свежаю вадой.

З тых дзён —
На двор на завадскі
Калі прыходзяць цягнікі
Па трактары, дык машыністы
Чало схіляюць,
Урачыста
Гудуць працяжныя гудкі.

Свой адпрацуе сонца дзень,
Узыйдзе месяц-чарадзей —
Салдата сон аберагае,
На трапятлівых гуслях гаю
Іграе песні салавей.

Жыве загінуўшы герой
У светлай памяці людской,
І вечнай славаю магіла,
Як у шатры зялёнакрылым,
Стаіць на плошчы завадской.

*1956*

## ТАПОЛІ І СОСНЫ

Калісь тут быў гушчар лясны.
Як помнік старыны,
Стаяць дзве рослыя сасны
Ля завадской сцяны.
Яны, ледзь толькі стане днець,
Прачнуўшыся з зарой,
Як дзве кумы, пачнуць бубнець,
Шаптацца між сабой:
«Дрымотны, цёмны бор стаяў,
Шумеў спакон вякоў,
Ніхто тут ягад не збіраў
І не збіраў грыбоў;
Ніколі спіленага пня
Не ведаў стромкі бор,
Мы век не бачылі агня,
Апроч зарніц і зор;
Пушысты мох ля нашых ног
Ніхто не варушыў.
Жылі, не знаючы трывог,
У баравой глушы»...

Гурба тапляў маладых
На плошчы завадской,
Здзіўлёна слухаючы іх,
Ківае галавой:
«Ці ж блага вам? ці ж не стае
І сонца і расы?
Што старажытныя свае

Успамінаць часы?
Пашаны вам і ўвагі шмат,
Вас берагчы як след
Будаўнікам аддаў загад
Мясцовы райсавет.
За гмахам гмах, ушыр і ўвысь,
Расце трактараград.
А што было, было калісь,
Не вернецца назад.
Пашто маркоціцца, бубнець
Аб тым, што адышло?
Дзе мурагі таптаў мядзведзь —
Блішчыць асфальт, як шкло.
Ліецца подых веснавы,
Звон маладосці скрозь,
Дык слаўце ў радасці і вы
Вясну і маладосць!»
        Між цэхаў вуліца, як сад.
Па завадскім двары
Штодня пад воплескі прысад
Праходзяць трактары.

*1956*

## СЫН НАРОДА

Той, хто сэрцам просты,
Шчыры і адкрыты,
І сумленне воспай
Чорнай не пабіта;
Хто не голад кліча,
Не пажар, не вецер,
Чалавеку зычыць
Дабра, даўгалецця;
Той, хто гасіць іскры,
Што вайною дышуць,
Каб не знаць навісшай
Бяды над калыскай;
Хто не ходзіць з боку,
Калі ў цябе гора,
А чуеш ты локаць
Ягонай апоры;
Той, хто для айчыны
Нястомна працуе,
Будуе турбіны,
Буквары друкуе;
Хто ў жыцці не дбае
Пра ціхую прыстань,
Каго называе
Народ камуністам —
Яму ў кожнай хаце
Кут і стол гасцінны,
Яго нашы маці
Сваім лічаць сынам;

Яму ўзнагародай
Адно бывае —
Шчасце народа
І роднага краю.

*1956*

## ШТО КОРНІ ДУБА

Любоў і дружба шчасце росцяць...
Жывём шматмоўнаю сям'ёй,
Як з братам брат, сястра з сястрой.
Мы разам сеем, разам косім,
Выходзім друг за друга ў бой.
Што корні дуба, нашы лёсы
Перапляліся між сабой.

*1956*

## ГАРАЦЬ АГНІ

Кастрамі піянерскімі,
Над шахтай на капры,
На Волзе, Енісеі, Дняпры і Ангары,
Над стэпам і пустыняю,
Над тундрай і тайгой —
Гараць агні,
        распаленыя
            воляю людской.
Шырокае дыханне іх —
У гуле пабудоў,
У песнях над калыскаю,
У шолаху садоў,
На крыллях самалёта,
На мачтах карабля,
У зорах пуцяводных
        над вежамі Крэмля.
Гараць яны,
        натхняючы на подзвігі людзей,
Сузор'ем дружбы,
        ззяннем міру,
            золакам надзей.
Не зарывам пажарышчаў
Блакіт завалакло —
        агнямі камунізма
Паўнеба расцвіло.

*1956*

## СЭРЦА

Унукаў я маю, і ўжо нават двух,
Што праўда, то праўда, зусім не пярэчу:
Я дзед па закону.
А ўсё-ткі, мой друг,
Дарма ты прымаеш мяне за старэчу.
І пашпарт і выгляд мой тут не пры чым,
Галоўнае — сэрца!
Мне толькі паўвека
Яно адслужыла,
І я не старым —
Сябе я лічу маладым чалавекам!

*1956*

## ЖЫВАЯ ВАДА

Край працы, доблесці і славы партызан!
Яшчэ гарэў пажар вайны Айчыннай
І кроў цякла з тваіх глыбокіх ран,
Табе —
Масква, як маці,
на руіны
Жывой вады
З крыніц Крэмля
прынесла
і натхніла
Шырокім подыхам жыцця і перамог!
І там —
дзе гора у зямлянках галасіла,
дзе засланялі свет канцлагеры, магілы,
дзе помста ворагам не сходзіла з дарог,
Зноў сонца засвяціла.
На парог
Жыццё ступіла:
Гарады
Усталі з попелу; сады
Зашалясцелі; залаціцца
У палях адроджаных пшаніца,
Зярняты ў коласе, як тыя жалуды.
І славіць люд Маскву — крыніцу
Жывой вады.

*1956*

## РОДНАМУ КРАЮ

Дзе б я ні быў, перад вачыма
Ты, як жывы, стаіш заўжды —
Мой родны край, мая айчына,
Мае юнацкія гады.
Пяю цябе, якім ты будзеш,
За лёс якога ў дні вайны
Жыццём сваім плацілі людзі —
Твае бясстрашныя сыны.
Я сэрцам чую тыя песні,
Што заўтра горда зазвіняць.
Я бачу роднае Палессе —
Якім яно павінна стаць.
Я чую, радасцю авіты,
Як з слуцкай бэрай, дружбе ў лад,
Пераклікаецца наліты
Цукровым сокам вінаград;
Як шчодра нафта б'е фантанам
З тваіх глыбінь і як майстры
На палявых брыгадных станах
Той нафтай пояць трактары.
Народу славы векапомнай
Адкрыў ты скарб таемны свой:
Я чую — гулка дышуць домны
Тваёй расплаўленай рудой;
А там, дзе Сож на перакатах,
Дзе ў ціхіх зараслях Сула,
Як і на возеры Дрысвяты,
Я бачу фабрыкі святла.

Ты ў цвеце будзеш небывалым:
Красе няма граніц і мер!
Ты браў крутыя перавалы,
Мой родны край — Б С С Р.
Ад сэрца, горача і зычна
Пяюць твой росквіт песняры.
Ужо з вышынь камуністычных
Ляглі на шлях твой гераічны
Праменні заўтрашняй зары.
І ты з народамі, як роўны,
Пад сцягам Леніна ідзеш
Адной сям'ёю многамоўнай
Браць запаветны свой рубеж.
Ты знатны добрай гаспадаркай:
На свеце славяцца даўно
Станкі, машыны з тваёй маркай,
Тваіх калгасных ніў зярно.
Прычал будуючы даротны
Дню, што віднеецца здаля,
Ты не цураешся ні поту,
Ні на далоні мазаля...
І дзе б ні быў бы я, заўсёды
Ты, як жывы, перада мной,
Як мною пройдзеныя годы,
Як вобраз маці дарагой.

*1956*

## ДВАЦЦАЦЬ

### Лірычны пашпарт

*Маці маёй прысвячаю*

### Расказала маці

Маці мая, матуля мая,
Мінулае гора ў тваёй сівізне.
Я, схіліўшыся ў думках,
Маўкліва стаяў;
За вокнамі слаўся снег.
На сэрцы і радасць
І крыўда цяжкая,
Набегла нязнанае мне пачуццё.
Маці, матуля мая дарагая,
Мне расказала пра наша жыццё:
— Студзень. Шосты год.
Дваццатае сталецце.
Гараваў народ,
Бедна жыў на свеце.

Што было ў жыцці?
Шлях цярністы віўся.
Сіратой расці
Ты, сынок, радзіўся...

* * *

Помню той вечар,
Віхор ледзяны,
Паклалі ля печы
Цябе ў рызманы.

Болем затросся
Бацькавы твар —
Цяжка жылося,
Мацнеў цяжар.

Высахлі грудзі,
Хата, як склеп.
Добрыя людзі
Прынеслі на хлеб.

* * *

Па гораду бацька блукае штодзень.
Работы няма аніякай, нідзе.
А ў горадзе — шумна, а ў горадзе — гул.
Адны манапалькі на кожным рагу.
Быў Мінск імі ўсеян, як чорнаю воспай.
Крычалі ў тракцірах і гора і роспач.

* * *

Вясна абудзіла надзеі, —
Можа, ўдасца работу знайсці.
Але дзе ён, заробак, дзе ён?
Да каго і куды ісці?

Нявесела ў згорбленай хаце.
Грудзі точыць бяда, як іржа.
Хто ж за горкія слёзы заплаціць?
Дзе цярплівасці нашай мяжа?

* * *

Гора з бядой — за навалай навала,
Голад і холад — адно за другім.

Ой жа, не лёгка жыццё каратала,
Белага свету не знала зусім.

Колькі бялізны сцірала па людзях!
Вечна на пальцах былі пухіры.
Сілы губляла, атручвала грудзі
Флёркаю, содай...
Дый што гаварыць.

Помню, стаяла праклятая восень,
Не высыхала сляза на вачах.
Табе ўжо сабралася месяцаў восем —
Адна засталася з табой на руках.

Бацька, як вып'е, вар'ятам рабіўся.
Біцца ў тракціры аднойчы ўзяліся.
Ведама, шмат хто нажы меў з сабой.
Бацькі — не стала.
Ты — стаў сіратой.

* * *

Ворагу толькі і болей нікому
Долі такой не жадаю.
Бегчы часамі хацелася з дому.
Як пражыла? Не знаю...

Дзе ж я магла хоць падумаць часамі,
Што ўсё ж калі-небудзь лягчэй зажыву?
Ведала толькі — на сэрцы камень,
Ведала толькі — палын-траву.

Цяжка было нам, сыночак, пазбыцца
Змрочнай галечы і гора свайго...
. . . . . . . . . . . . . . . . .

Сэрца маё зашчымела, як быццам
Хтосьці знянацку параніў яго.

## Гады дзіцячыя

На Пярэспе нарачыта
Сабіралася дзятва.
І не раз і не два
У мяне была разбіта
За лаптою галава.

На магілках Старажоўскіх,
Праз крыжы і курганы,
Лазіў я па каштаны
І заўсёды неяк лоўка
Рваў картовыя штаны.

Галубоў ганяў ля дома.
А парой гурбой на сад
Зробім свой ліхі напад:
Сліў і яблыкаў нарвём мы —
І — стаіўшы дух — назад.

І гулялі кожны вечар
У «вайну» супроць паноў.
І акно — і не адно —
У гэты вечар пакалечым.
Ну, а заўтра? Заўтра зноў.

* * *

Прывучаць мяне сталі да працы,
За шавецкі ўсадзілі варштат.
Стаў я корчыцца, клеіць абсацы,
Шнураваць памаленечку стаў.

Весялей і на сэрцы ў матулі:
«Як-ні-як не байдосуе больш!»
Харашэй прыадзелі, абулі,
І ў кішэні зароблены грош.

Меў яшчэ і другі заработак,
Быў прыслужнік царквы, панамар.
З папяросаю, з глянцам на ботах
Па нядзелях хадзіў на бульвар.

І валондаўся цэлымі днямі,
Слухаў спевы катрынкі заўжды
І разглядваў сабе ў панараме
За капейку — усе гарады.

З той пары, як відаць, палюбіў я
Родных вуліц і гоман і крык.
Эх, зялёныя дні дарагія
Бестурботнай дзіцячай пары...

* * *

Я помню тыя дні, што папялішчам сталі:
Пагромшчыкі-жаўнеры ў Мінску панавалі.
Разбітых шыбаў шкло валялася наўкруг,
Вятры разносілі падушак белы пух,
Нарабаваныя у бедных хатах транты
Вывозілі цюкамі акупанты.
На плошчы, ля царквы і ля касцёла
Хадзіў, з рукой працягнутаю, голад...

* * *

Сонца адно, у аконца-акно
Пастукае, нехаця скажа:
«Настала жыццё,
Сваё лахмаццё
Вязі
    па гразі:
        Распрадажа!»

Галодны час... Старасвецкі абраз
Для глянцу алеем абмажуць.
«Самога Хрыста,
Вынось, бедната,
Крычы,
        несучы:
            Распрадажа!»

Ні сесці, ні стаць!.. Дзе ж хлеба дастаць?
Трупам на вуліцы ляжаш.

«Гарбы на плячах,
Мазалі на руках
Нясі,
        Галасі:
                Распрадажа!»

* * *

Я помню ноч, як быццам
                                        перуны,
Над горадам гарматы грукаталі.
Шалеючы,
                праклятыя паны
Пад націскам чырвоных адступалі.
Матуля бедная,
Старэнькая матуля,
Перахрысцілася,
Ўзяла з камоды хлеб.
(У сцены біліся
Чачоткай смерці кулі...)
Мы паціханьку
Паўзлі
Хавацца ў склеп.
Мінула ноч...
Не стала страляніны,
Над папялішчамі
Клубіцца дымны чад.
Пабег на вуліцу.
                Шчаслівыя хвіліны:
— Прыйшлі Чырвоныя!
Савецкія!
                ...Парад!

## Пачатак юнацтва

Дні прыйшлі другія
Новай пуцявінай.
Ад былога спадчына —
                Попел і руіны.

Дні прыйшлі другія,
Да працы вялікай —

Маладых і дужых
Край савецкі клікаў.

Дні прыйшлі другія,
Заспявала моладзь
Песні будаўніцтва,
Песні камсамола.

* * *

Інакшыя дні,
Інакшыя словы,
Вясёлкавы ў сэрцы палае касцёр.
Наперад іду я,
Шырокі і новы
Перада мною адкрыўся прастор.
Здаралася...
Часам любіў бурапеніць,
Парой нават з сонцам
Ішоў на нажы.
Даволі!
Я слаўлю сваё пакаленне,
Дарога адна
І адны ў нас імкненні —
Працоўнаму люду
Аддана служыць!

* * *

Казалі многа нам і living рознае заўсёды,
У каго і чым набіта галава:
«Ці ж вы народ, вось як і ўсе народы,
Падобна нацыі з культураю прыгоднай?
І што ў вас ёсць — адвечная дрыгва?»

Казалі многа нам, і скрозь заўсёды чулі:
«Мужык, і хам, і гад, і галыцьба...»
Як толькі ветры хціўныя ні дзьмулі, —
Дзе за сахой на пана спіны гнулі,
Дзе чалавека не сустрэнеш без гарба.

Прайшла пара пакут, пара жыцця ліхога,
Паўстаў прыгнечаны працоўнай стараны!
Жыццё змянілася — не будзе больш астрогам!
Вякі над кручаю! Святкуем перамогу!
Заплакалі разбітыя званы...

Пайшоў і я дарогай камяністай,
Пайшоў з рабочымі пад посвісты віхур.
І сёння я, пад сцягам прамяністым,
Плячо к плячу, з кагортай камуністаў
За цэглай цагліну ўкладаю ў новы мур.

* * *

Пад косамі сонца дыміцца сумёт.
Дваццаць першая йдзе вясна.
Спявай, маладосць мая,— дваццаць год!
Вып'ем, таварыш, да дна!

Дваццаць першая йдзе вясна,
Не адна — зазвініць струна.
Абуджу ў сэрцы тысячы струн,
Палятуць мае песні — угрунь
І сустрэнуць без смутку і слёз
Запаветны свой, суджаны лёс.

Дваццаць першая йдзе вясна —
Не адна —
        Заспявае струна.

*1926*

## ЦЕНІ НА СОНЦЫ

Это очень плевое дело,
если б
революция захотела
со счетов особых отделов
эту мелочь
списать в расход.

*В. Маяковский*

### *Уступ*

Як не славіць песняй сакалінай
Беларусь — рэспубліку сваю.
Краіна родная, Савецкая краіна.
Табе я ў песнях сэрца аддаю.
Ты красуеш ростам рыштаванняў,
Творчай працай гартаваных сіл.
Ты ў агні шчаслівага світання,
Быццам раніцай
на ўсходзе небасхіл.
О, сонца, ззяй ярчэй!
Звязаўшы ў вузел хмары,
Каб не цямнілі нам, —
ушчэнт іх спапялі!

Сусвет ахоплен сонечным пажарам,
Хоць і пад сонца
цені падпаўзлі...

## *Частка першая*

1

Адзін быў з Міншчыны,
Качаўся тут, узрос,
Не знаўшы ў працы поту і цяжару.
Не раз, на беразе прылёгшы ў вербалоз,
Ён марыў
Стаць уласнікам абшараў.
Гады імчаліся,
Як хвалі на рацэ.
Прыйшла вайна.
Забралі.
Абучылі.
Глядзі — ўслужыўся ён:
Стаў унтэр-афіцэр,
І брыль на сонцы,
Нос на небасхіле.
Як гром, пранёсся кліч:
— Таварыш, прэч цара!
— Далоў вайну!
— Далоў людское гора!
... Уцёк на Поўдзень ён,
І генерал-барон
Яму даў добры чын,
Даў пару звонкіх шпораў.
Цяпер... паголены,
На выгляд — іншы твар.
Жыве, як спец.
Здараецца ўжо гэтак:
Учора —
Генерал-барона сакратар,
Сягоння —
Сакратар Наркамасветы.

2

Другі герой...
Няма тае дарогі,
Дзе б ён сляды не высеяў свае.

«Ну, што зрабіць, каб стаць бліжэй да бога?
Маліцца трэба? Часу не стае!»
Усё ж рашыў. І, змрочнасцю пакрыты,
У манастыр пайшоў, прыгнуўшы галаву:
«Быць не быць! Дадуць архімандрыта,
Не, ідры-тваю, іначай зажыву».
І не далі.
І ён зажыў іначай.
Пакрыўджаны, праз тыдзень альбо два,
Стаў ездзіць па акрузе, як дакладчык,
Рваць карані, пусціла што царква.
Ён, повен злосці на прастол царкоўны,
К таварыству бязбожнікаў прыстаў
І клаў у лекцыях (за плату, безумоўна!)
На ўсе лапаткі
Чорта і Хрыста.
А ўсё ж тайком маліўся каля кварты,
І цуда цудаў здарылася тут:
Стаў божы плут
дырэктарам тэатра.
— Фрэнч далоў! Падайце мне сурдут!

3

Лагодна жыць! Як не любіць сваяцтва?
Адным — ён кум,
Другім — шаноўны сват.
А зяць яго — паэт,
мастацтва для мастацтва,
Надхмар'е ў хараstве,
Сугуччаў звонкіх чад.
Сваяцтву гімн!
Яно гняздо звівае
І вечна там, дзе пахне каравай.
Кумы, і зяць, і ўсіх знаёмых зграя —
Адной арыентацыі: «хапай!»
Не ведаў кум дарогі камяністай,
Карчы мінаючы, ішоў да мэт сваіх.
Ён земгусарам быў,
Чыноўнікам,

Міністрам
У Скарападскага *) па справах нутраных.
Прагналі з Кіева,
Падаўся ў свет бадзяга —
Да зяця ў Вільню ногі завялі.
У пошуках заробкаў перавагу
З павагай
чорнай біржы
аддалі.
Абодва хутка дух жыцця ўлавілі:
Убачылі —
Змагаецца народ,
Каб скінуць панскі жудасны прыгнёт.
І, лапы пацiраючы, рашылі:
«Тут можа быць нядрэнны умалот!
Дзе б'юцца два, там трэці рукі грэе.
Шапні — адным,
Шапні — другім —
Глядзіш:
Чубы трашчаць, шуміць завея,
А пад шумок
расце... барыш».
Няважна!
Доўга там ці каратка былі,
Зусім другое нас усхвалявала:
Салаўём лісіца заспявала
І апынулася на нашае зямлі.

4

Не ў гэтым справа, што ён з роду іерэяў,
Што меў маёнтак, быў ветэрынар.
Узняўся ён
на грабяні падзеяў
Па чарапах замучаных ахвяр.
Барацьбітоў за волю
(першы пункт праграмы)
Расстрэльваў

*) Кіраўнік буржуазна-памешчыцкага «ўрада» на Украіне ў часе нямецкай акупацыі ў 1918 г.

З кайзеравай зброі,
Пра вернасць кайзеру
Аддана
Тэлеграму
Пісаў сваёй крываваю рукою *).
Не ў гэтым справа, што сябрыняю гасціла
У тым маёнтку жонка Радзівіла,
Дапамагала «праўдаю і верай»
Ветэрынару выбіцца ў прэм'еры.
Былі часы, былі законы,
Так званай Рады быў «урад».
Вывозіў кат
        дабро прыгонных —
Прэм'ер біў кайзеру паклоны:
«Вагонаў мала? Дам загад!»
Не ў гэтым справа ўсё ж!
Было?
Звялося!
Няхай гісторыкі-марксісты разбяруць.

...Ветры лютыя. Нудой імгліцца восень.
Космы хмар па лужынах паўзуць.

Сука шызая ў палацы Радзівіла
Прынесла шызых трох шчанят.
Сялянка іх дагледжвала, расціла,
А сэрца плакала,
            як плача поле ў град.

Сваё дзіця ад недагляду сохла,
Удзень яго і ўбачыць не магла,
А тут шчанят глядзі...
        Адно назаўтра здохла, —
Лягла жалоба змрокам на палац.

«О, рукі хамскія!.. Надзець пятлю на карак!»
Княгіня выгнала пакутніцу ўначы,

*) У 1918 г. група беларускіх буржуазных нацыяналістаў у часе нямецкай акупацыі Беларусі паслала тэлеграму з прывітаннем і падзякай кайзеру Вільгельму.

Адразу вызваўшы прэм'ер-ветэрынара,
Каб і шчанят і сучку зберагчы.

Зямля агорнута халоднай цемнатою.
Ідзе пакутніца... Яна і не адна —
З дачкой маленькаю, гаротнай сіратою,
Ім свет цяпер — сасновая труна.

Шчанё аплакалі, і блізка ля тэрасы
Вырас кветкамі асыпаны курган.
А ў полі восенскім крыляўся-віўся ласа
Над паміраючай сялянкаю груган.

Наступным днём прэм'ер праездам бачыў,
Як маці мёртвую хацела ажывіць
І пацалункамі,
        І ласкамі,
            І плачам —
Сірата сялянскае крыві.

Падбегла, ўбачыўшы жывога чалавека,
Як ліст калоціцца, працягвае руку.
Ён адагнаў яе адным ударам стэка,
Як кат, скрывавіўшы дзяцінную шчаку.

**5**

Капейку да капейкі —
Збіраецца рубель.
Не скрыпку ці жалейку
Купляем мы сабе.

Імкнемся ў родным краі
Старое сцяць ушчэнт.
Машыны мы купляем,
Купляем мы цэмент.

Мы ставім рыштаванні,
Не высыхае пот.
А ёсць і шмат, як глянеш,
Нягод і перашкод.

Нам трэба будавацца.
І трэба ж весці бой.
У барацьбе і ў працы
Мы шлях цярэбім свой.

Варожай, шкоднай молі
Яшчэ хапае ў нас:
Не ўсю перамалолі,
Раззбройвацца не час!

Па кім асіна плача:
Як накіп, як нагар, —
Ён шкоднік, ён растратчык,
Ён спекулянт-ліхвяр.

Ён гад пароды п'явак,
Ён чорны цень паноў,
Ён гнёзды ўе крывавых
Антысавецкіх змоў.

Прэч слепату давер'я!
Бязлітаснай рукой
Трахнём іх, каб аж пер'е
Ляцела над зямлёй.

## *Частка другая*

### 1

Пайшоў ледаход. Затрашчалі масты.
За крыгаю крыга ўставала
І падала з грукатам, грэбень круты
Успененай хвалі ламала.

Кіпяць ручаі сіняватым агнём —
Прымаюць гасцей пералётных.
Сонца вясне прамяністым ключом
Гасцінна адкрыла вароты.

2

У браме, ад зор і да зор,
Сядзіць кучаравы айсор,
На скрынцы фанернай
Чачотку
    Чотка
        Выстуквае
            Шчоткай:
«Хочаш, ваксай,
Хочаш, крэмам
Шыку-бляску
Навядзем мы!
Не глядзі,
Што з брудам
Боты, —
Зробім цуда
З пазалотай!
Гэй, прахожы,
Блізкі, дальні,
Глянц наводжу
Дасканальны!
Ёсць і лак
І палітура.
Чыстата —
            Залог культуры!..»

3

Зяць нагу на скрынку ставіць.
Спрытнасць рук айсора славіць.
Раптам дама ў чорным плацці
Апынулася ля зяця.
Зяць, прыгладзіўшы чупрыну,
Моўчкі зрок на даму кінуў.
Дама зрок яго злавіла
І цішком загаварыла:
— Какаіну, выбачайце,
Вам не трэба?
— Дайце, дайце,
А па колькі грам?

— Раз трэба,
Дагаворымся як-небудзь,
Але тут нязручна...
Дама
Паманіла зяця ў браму.

4

Шырокая вуліца.
Гоман вясновы.
Звіняць на каменнях
Праменняў падковы.

Маляр афарбоўвае
Дахі і вежы.
Бульвар апранаецца
У цвет беласнежны.

На вуліцы шумна...
Ад грукату конкі
Ажно ледзь не рвуцца
У вушах перапонкі.

Вячоркавы шпацыр.
Хады-пераходы
Мільгаюць стракатай
Замежнаю модай.

Глядзіш і смяешся,
Пацеха дый годзе:
Усё, так сказаць,
Па замежнай методзе.

Карміць не кармі іх
Ні хлебам, ні бульбай —
Адно толькі больш ім
Анучаў адтуль бы.

І гнуцца і моляцца
Выкапні-франты

Прад кожнай заморскай
Бліскучкай і трантай...

5

Паставіўшы ў браме
Варштат-перасоўку,
Тачыльшчык
            нажамі
Арудуе лоўка:
«Нарост іржы
Уміг сатру.
Давай нажы —
Нажы вастру.
Круці, брусок,
Яшчэ разок,
Яшчэ разок —
Блішчыць лязо!
Шугай, іскра,
Бяжы,
Ляці.
Чые нажы?
Плаці!..»

6

І зяць аддаў сцізорык,
Каб навастрыць чуток.
А іскаркі, як зоры,
Бенгальскі аганёк!

Падбег знаёмы зяця,
Фатограф-рэпарцёр,
І рукі, як прыяцель,
Шырока распасцёр.

— Якія, брат, навіны? —
Пытае зяць-паэт.
— У кума імяніны,
Збірайся на банкет!

— У сне сягоння ружу
Зрываў я не дарма.
— Дый не дарма, мой дружа,
Сніць і цябе кума!

Раскрыліся б сакрэты,
Аднак у гэты міг,
Як той жаніх адзеты,
Кум падышоў да іх.

У новым гарнітуры,
Духамі аддаваў.

. . . . . . . . . . .

Ля крамкі на падмурак
Прысеў прыватнік хмуры,
Ўздыхнуў, як на хаўтурах,
І ціха заспяваў:

«Дый на сто адсоткаў
Я жыву дарма.
Згінуў заработак,
Ой, няма, няма.

Усяго патроху —
Ўсё-ткі магазін.
Гальштук ці панчоху
Збыць бы на пачын.

Хоць рубля на цуда
Мела бы рука.
Як ні глянь — усюды
Толькі Ц Р К *).

Наляцела гора,
Што ж гэта рабіць?
Давядзецца скора
Крамку зачыніць.

*) Магазіны Цэнтральнага рабочага каапературыва.

На душы скрыгота,
Ўсё ідзе тарчма.
Згінуў заработак,
Ой, няма, няма»...

На вуліцы людна, за тлумам і гулам
Хаваецца шмат
і растрат
і прагулаў.

Глядзіш, —
Бестурботна, хадой велічавай
(Партфель — у левай, а торт — у правай)
На шпацыры з цесцем
І зяць, і фатограф,
Пад сонцам,
Па бруку,
Лагодна
І добра!

7

Былі-жылі на свеце два браты,
Жылі не ў роскашы, не ў веях пекнаты.
Як дзень і ноч, знікаў за годам год,
Адзін разумны стаў, другі — наадварот.

Адзін на фабрыцы шпалернай працаваў.
Калі ж рабочы клас уладу ў рукі браў —
Ён, не шкадуючы юнацкай галавы,
Дабраахвотна стаў армейцам радавым.
Цяпер на фабрыцы каля варштата зноў...

Другі ж валондаўся штовечар па кіно
І стаў пажарным (каб у армію не йсці —
Адно выгоднае знайшлося у жыцці!).
А там і фатаграфію «Фантазія» адкрыў
І шыльдай
З сваім прозвішчам
Завулак азарыў.

На залатую жылу
 Напаў не так даўно —
Пачаў даваць рэцэнзіі ў газету пра кіно.
Пайшла пісаць губерня!..
 За першы ганарар
Таго-сяго на чарку ён запрасіў у бар.
За тостам тост салодкі,
 За каньяком — лікёр:
«Эх, голубая кофточка, весёлый разговор»...

. . . . . . . . . . . .

З тых дзён —
Сардэчным другам
 Стаў зяцю рэпарцёр.

8

Лунае над горадам зорны шаль —
Красавіковы вечар.
Дацэнт і дырэктар да кума на баль
З дамамі едуць, бясспрэчна.

Вязуць падарункі: дацэнт — сервіз,
Дырэктар — торт ананасны.
На вышку антэны узлез і павіс
Месяц, як лысіна, ясны.

На колах гумовых рамізнік па бруку
Фатографа мчыць да кума.
У жонкі ў руках дарагіх падарункаў
Арыгінальны клумак.

Потам аблíўшыся, ветэрынар
Тузіну нёс пірожных
І ўсё праклінаў гарадскі тратуар:
— Хадзіць абсалютна не можна!

Аванс атрымаўшы пад свой ганарар,
Зяць з найглыбейшай пашанай
Цесцю на памяць нясе партсігар
З надпісам вершаваным.

А сакратар пабівае рэкорд:
Другу свайму дарагому
Вязе ў падарунак і гальштук, і торт,
І кубікі хлопцу малому.

Сціхае на вуліцы зморany тлум,
Трэба й яму адпачынак.
Сягоння ўрачыста праслаўлены кум
Спраўляе свае імяніны.

9

Полымем зор
Заірдзелі нябёсы.
На вуліцы
Крык палымянны рэклам.
Шчупленькі крытык,
Пакрыўджаны лёсам,
Стаіць задуменны
Пад шыльдамі крам.
Стаіць нерухома ля яркай вітрыны,
Слязой праз пенснэ прабіваецца сум.
Ён не запрошаны
На імяніны,
Не ўспомніў пра вернага крытыка кум.
Стаіць нерухома, а думкі крыляцца,
Упёрся плячмі ў тэлеграфны слуп,
І чуе ён словы, ён чуе знянацку
З дзявочых фарбована-змучаных губ:
— Мілок, пагуляем?
Які ты самотны!..
Пад ручку ўзяла, падміргнула...
Пайшоў.
І —
Непрыкметна
У глуш падваротні
Яго прывяла
Ўзбунтаваная кроў.

— Ну, не слюняйся, плаці і не тузай!
Чаго заікаешся, печаны гад!

— Мне, бачце, скідку,
Я ж член прафсаюза,
Бачце, галёўна, выдаткаў шмат.
— Эх, ты!..
За гальштук хапіла са свістам,
Сарвала пенснэ, растаптала шкло.
Ён тупаў, злаваўся, затросся, як ліст той,
Пахаладзеў,
І —
Ўсё прайшло.

Маланкай дадому прыбег ён сярдзіты,
А ў галаве —
навальнічны шум.
Горка сягоння пакрыўджаны крытык,
Мутная помста варушыць душу.
Ён не запрошан...
А славіў у друку,
Як здатных, і кума і зяця яго.
Малітву чытаць стаў,
Сагнуўшыся крукам,
Усхліпвае цьмяны лампадны агонь.
Час прабягае...
Дасадай паколаты,
Каб забяспечыць спакойны сон,
Дастаў ён з-пад прыпека
Скрыначку золата
І смакаваў даваенны звон.

Доўга, ў пярыну зарыўшыся, думаў,
Злосцю забілася сэрца яго.
Адпомсціць рашыў ён няўдзячнаму куму:
Ад крытыкі многа залежыць, о-го!..

10

Асабняк. На прэнтах аканіцы.
Наўкол цвіце вішнёвы маладняк.
Сягоння пагуляць, павесяліцца
Сюды на радасці сабралася радня.

У кума светлыя, прасторныя пакоі.
Радні сабралася дзесятка, мабыць, тры.
Жанкі вясёлыя з узвышаным настроем,
У кожнай кроў румянцамі гарыць.

І ўжо, як водзіцца заўсёды ў гэтым доме,
Што ні куток — збіраецца гурток:
Хто разглядае фатаграфіі ў альбоме,
Хто ў плётках свой палошча язычок.

Гадзіннік стрэлкі ўгору падганяе,
Ударыў поўнач звонкі малаток.
Хто ў прэферанс захоплена гуляе,
Хто забаўляецца ў вясёлае лато.

Дацэнта жонка грае на раялі,
Прад ёй паэт пакорна стан сагнуў.
У гуках музыкі абодва ўспаміналі
Пару далёкую, шчаслівую вясну.

Яна спыталася і ціха так, таемна:
— Ты помніш Крым, каханую сваю?
— Я помню, любая...
— Калі табе прыемна,
Паслухай,
Твой раманс
Табе я прапяю:

На беразе Чорнага мора
Рассыпаў я думкі сузор'ем.
І як не маліцца прасторам
На беразе Чорнага мора.

Рассыпаў я думкі сузор'ем
І моўчкі стаю ў задуменні.
Гатоў нават стаць на калені
На беразе Чорнага мора.

І як не маліцца прасторам
Блакітнага шчасця і славы?

Кахання крыляцца праявы
На беразе Чорнага мора.

А вечар запальвае зоры
На горах, да неба узнятых.
Мне сэрца сваё аддала ты
На беразе Чорнага мора.

— Слова паэту! — выгукваюць госці, —
Прадэкламуйце...
Мы просім вас...
Просім...

Прыемна адчуць цеплыню хараства.
Паэт галаву апускае.
Адкашляўся — раз,
Адкашляўся — два,
Выняў блакнот,
Чытае:

Жывем мы сям'ёю нязрушнай,
Нам болей не ведаць напасці.
У сонечны свет дабрадушшам
Нам дзверы адчынены насцеж.

Мы дзеці багатых традыцый,
Мы служым святым ідэалам.
Нам неба агнём бліскавіцы
Дарогу жыцця паказала.

Цяжкая пара мінавала,
Шырокім дыханнем жывем мы.
Як радасна ў звоне бакалаў
Пачуць нараджэнне паэмы.

Нам любы туман над балотам,
Над хутарам ліп калыханне.
Чаму ж не маліцца пяшчотам —
Натхнённаму ўзлёту кахання!

— О, як цудоўна!
— Дзівосна!
— Брава!

Абступілі яго навакол.
А імяніннік, узрушаны славай,
Гасцей
        Запрашае
            За стол.

### *Частка трэцяя*

#### 1

Па-над завулкам
Глухім і далёкім
Вячорная зорка
        З іскрынкай у воку
Глядзіць-прыглядаецца,
Што адбываецца,
Чым вечарамі тут
        Людзі займаюцца.
Ціхая вулачка ў сонным тумане.
Месяц тужліва сядзіць на паркане,
Дзеля забавы
        бяляваю
            лапай
Драпае
        шыбіны ў вокнах,
            і раптам —
Цішу заспаную песняй вясёлай
Разварушыла рабочая моладзь.

Песня —
        душа маладосці, дыханне
Рунеючых ніў, завадскіх рыштаванняў —
Вядзе карагоды,
Гукае ў паходы —
        За новае сонца
        Без ценяў варожых
        У новай старонцы,
        Свабоднай, прыгожай.

Праходзіць па бруку маё пакаленне.
Акорды баяна плывуць па каменнях.

Як ластаўкі ў неба, з вясёлым настроем
Частушкі ўзлятаюць адна за адною.
Дрымоту прагнаўшы, сады зашумелі,
Здаецца, і зоры ярчэй заірдзелі.
Пайшла нават Свіслач бурліваю плынню, —
Юнак у каханні прызнаўся дзяўчыне.
А месяц, як бубен...
Хадой весялосці
Праходзіць па бруку вясна маладосці.

Імкліва, з трэскам-гулам
Прымчалася ў завулак
Аўто.
Каля асабняка
Раздаўся свіст гудка:
Стоп!
Хадой руплівою з аўто
Да кума ў двор — стралой,
Схаваўшы твар у паліто,
Яшчэ адзін герой.
Чакай, пастой,
Ты будзеш наш,
Раскрыем таямнічасць.
— О, гэта ты, Падхалімаж,
Знаёмае аблічча!

2

Набраклымі пальцамі хмар
Восень лісце пажоўклае рвала.
Вецер біўся, як хвалі аб скалы,
Мітульгою бурліўся, як вар.

Нявeтліва восень прыйшла.
Вісяць, як анучы, туманы.
Фурманкі дзве золакам-рана
Крануліся разам з сяла.

Паперадзе з клумкамі поп
У гімназію сына адвозіць.

Вучыць, але сэрца ў трывозе,
Сына вязе й земляроб.

Папоўскі сынок, як друг,
Залічаны быў, вядома.
А мусіў вярнуцца дадому
Сын земляроба — пастух.

3

Звычайна, як года не стане,
З надзеяй вітаюць другі.
Туга ішло навучанне,
Розум нікчэмнай вагі.

Гімназію ўсё-ткі адолеў,
У гэтым яму падмаглі
Святыя малітвы, а болей
Са звонам святыя рублі.

Жыццё мае тысячы шчылін.
Папоўскаму сыну як след
Дзверы шырока адкрылі
У сталічны універсітэт.

Маліся за здравых і мёртвых,
Дзе трэба — схіліся, падмаж.
Выйдзеш у людзі, разгортвай
Падхалімаж.

І ён — дзе падмажа, дзе зліжа,
Дзе пройдзе, а дзе падбяжыць:
Не трэба для гэтага кніжак,
Каб вызнаць, як сытым пражыць.

Нямала дарог перамераў.
У грукаце лютаўскіх бур
Заўзятым зрабіўся эсэрам —
Завадатарам авантур.

Чыннасць грамадская вабіць,
У Беларусі прыстаў
І ў павятовым маштабе
Дзеячам стаў.

4

Акупаваны
Край
Наш,
Знай,
Каля пана —
　　　Падхалімаж.
— Нех жые! — як чыжык,
Чырыкае ў друку,
Пілсудскаму ліжа
Крывавыя рукі.
У горад і вёску
Шле вязку слоў:
— Смерць
　　　войску
　　　　　бальшавікоў.
Нам край належыць,
Пакульззяюць зоры.
Успомніце межы
Ад мора да мора...

За гэту прысягу,
За гэты артыкул —
І служба, і ўвага,
І... морда не біта!

Дзе трэба — лі слёзы,
Дзе трэба — падмаж.
Помніць свой лозунг
Падхалімаж.

5

Нацпалітыкаю пана
Беларусь закатавана:

Школы, фабрыкі і клубы
Ахвяраваны на згубу.
Для пацехі, для прынады
Працу вынайшлі для Рады.
Радзе дадзены правы
Абеларушвання царквы.
На царкоўны гэты звон
Зброд ляцеў з усіх старон.
— Новы курс! Віват, ідэя!
Повен радаснай надзеі, —
«Сьвяты божа», «Ойча наш»
Пераклаў Падхалімаж.
Веру ў бога, веру ў маць
Ён пускаў пераканацъ,
Што у гэтым новым курсе —
Адраджэнне Беларусі.

6

Надбавілі злоты,
Узяў ён нагрузку:
Вярбуе маліцца
Па-беларуску.
Едзе па сёлах,
У дзень кірмашовы
На плошчы царкоўнай
Разводзіць прамовы:
«Выхавання
Маральнага
Быць не можа
Без выкладання
Закону божага.
А каб лягчэй
Успрыймалі галовы,
Мальбу пераложым
На матчыну мову»...
У дэфензіву
Заходзіць вучыцца,
Калі і якою
Малітвай маліцца.
Як раіў царкоўны

Буквар дэфензівы,
Ён дружбу заводзіць
З мясцовым актывам.
І, неўзабаве,
        на сходзе...
            з закускай —
Ён стаў
            важаком
Кулакоў беларускіх.

7

Лета.
Ліпень.
Год дваццаты.
Падсмалілі пану пяты.
Пад напорам войск чырвоных
Акупантаў легіёны
Уцякалі, руйнаваўшы
Па шляху заводы нашы.

Людзі радасцю авіты,
З хат выходзілі на мітынг.
І эсэр не траціць часу —
Мігам воўчую акрасу
У глыбі душы хавае
І крычыць што сіл хапае:
«З нашых плеч зышла гара!
Ура,
        таварышы,
            Ур-р-ра!»

8

Шляхі нашы ў сонцы і ў гуле фабрычным,
Рэспубліка сёння —
Як пляц будаўнічы,
Як сокал, што ўвысь узнімаецца, рэе,
Як дуб, што лісцём маладым зелянее.

А ёсць яшчэ людзі — мінулага цені, —
Што прагнуць —
Каб дубу падгрызці карэнні,
Каб сокала ў гордым палёце спыніць,
Каб нашага сонца святло засланіць.

### *Эпілог*

Разлівам
паводкі
за
пяцігодку —
У бой навальнічны
Партыя кліча!
Фабрыка — полк,
Цэх — узвод,
За крокам крок:
— Паход!
Гуртам
на межы,
на хутар
драпежны —
У бой навальнічны
Партыя кліча!
Фабрыка — полк,
Цэх — узвод,
За крокам крок:
— Паход!
Да светлае
мэты,
За шлях запаветны —
У бой навальнічны
Партыя кліча!
Фабрыка — полк,
Цэх — узвод.
За крокам крок:
— Паход!
Рух
машыны —
плуг
далінам!

Нетраў
сок —
электра-
ток.
Рань,
Рунь.
На твань
Угрунь!
У добры час
Красуй, калгас.
Працуй, краіна,
Б е с п е р а п ы н н а!

*1927—1930*

## НАРАДЖЭННЕ ЧАЛАВЕКА

### *Пралог*

I

Жыццё змяняецца, змяняюцца ідэі.
Расце сасна, а поруч тлее корч.
Радзіўся чалавек — звычайная падзея;
Пануе дзень, калі змаглася ноч.

Радзіўся чалавек. Імя яму — Марыля.
Нішто выдатнага не сталася вакол.
І, як заўсёды, куры па двары хадзілі,
Скрыпеў ад ветру стлелы частакол.

На ганку бацька курыць самакрутку,
На твары цень галечы і турбот.
Стомленая маці. Цішыня і смутак.
Чалавек радзіўся. У хаце лішні рот.

А дзень мінуў, сканаў у кратах змроку,
Сузор'ем ноч іскрыцца над зямлёй,
Жыццё змяняецца, цярэбіць крок за крокам
Вялікі шлях гісторыі людской.

II

Трава, нібы веер... Гурбою вясёлай
Дзяўчаты па ягады выйшлі.

Яліне накідку зялёную золак
Ружовымі ўзорамі вышыў.
Праменні лясную расу асушылі...
Пад голас птушыных жалеек,
За жменяю жменю, збірае Марыля
Суніцы... Трава, нібы веер.

Жыццё маладое... Блакітныя вочы,
Як пушча, іх погляд глыбокі.
Шумяць усхвалёвана ў сэрцы дзявочым
Кахання пяшчотныя ўсплёскі.
Як быццам кругі, калі ў возеры камень
Парушыць зацішша нямое,
Так думка за думкай плывуць ланцужкамі,
Як хвалі... Жыццё маладое.

Што зорная россып, ірдзеюць суніцы.
Марылька ў лятунках-завеях.
У сінім цянёчку, ля ціхай крыніцы
Прысела...
Трава, нібы веер.

У казачным шуме гушчарнага бору
Пачула, што стала другою.
Хлапца пакахала (яго звадь Рыгорам).
Пачатак...
Жыццё маладое.

III

Што хата — то шыльда красуе,
Што шыльда — то цэхавы ўзор.
Майстэрня. Ў майстэрні працуе
Чаляднікам слесар Рыгор.

Забруджаны рукі іржою,
Ад пылу чарнеецца твар.
А здасць, хоць і бруднай рукою,
Заказчыку чысты тавар.

Часамі ён вольнай хвілінай
Любіў, разабраўшы стар'ё,
З раскладзеных частак машыны
Штось новае скласці, сваё.

Змайструе. Руплівай паходкай
З мястэчка праз поле, праз гаць
Ідзе пра сваю вынаходку
Дзяўчыне сваёй расказаць.

Ля рэчкі прысядуць на ўзгорку:
Заўсёды шумлівы чарот,
Стаіўшыся, слухаў гаворку,
Дыханне надзей і пяшчот.

IV

А людзі блізкія дзівіліся-пыталі:
— Калі ж вяселле справіць малады?
— Та-акі хлапец! —
бабулі выхвалялі,
— Дзяўчына яг-гадка! —
выхвальвалі дзяды.

Адточыць серп Рыгорка для Марылі,
З пілы касу наладзіць. Удваіх
Парой траву балотную касілі,
Хадзіла слава добрая пра іх.

— Да пакравоў старанна папрацую,
Капейку лішнюю прыдбаю, зараблю,
Тады прыйду, вазьму, каго люблю я.
А любіш ты?
— Вось глянь, як не люблю!

І вусны злучаны, адно зайздросны месяц
Ад злосці рынуўся тарчма ў зялёны гай.
Міналі дні, праходзіў тыдзень, месяц,
Праходзілі і радасць, і туга.

. . . . . . . . . . . . .

Жыццё змяняецца, змяняюцца ідэі.
Расце сасна, а поруч тлее корч.
Радзіўся чалавек: гарыць святло надзеі.
Пануе дзень, калі змаглася ноч.

### *Частка першая*

1

Бяда навалілася на гарадок.
Пагром. Самасуд. Безуладдзе.
Пажары. Забойствы. Руіны і змрок.
Раздолле раз'юшанай бандзе.
Арудуе п'яная чорная сотня
Па хатах,
        Па вуліцах,
            У падваротнях.
            Гэй, дзеванькі,
            Перапёлачкі,
            Ні Распуціна няма,
            Ні Міколачкі.
І раптам выбух.
            Бум-м...
             Віз-з...
Слуп тэлеграфны на краму павіс.
            Гэй, птушанькі
            Лёту дальняга,
            Рэвалюцыя прыйшла
            Дасканальная.
І чуецца блізка ўжо:
            Бах!.. Бах!..
Што набліжаецца:
            Радасць ці жах?

2

Загінула ўцешная думка даўно.
Дзявочае сэрца ў надломах.
Гаруе Марылька. Чакала адно,
А выйшла зусім па-другому.
Галосіць над бацькавым целам яна.

Ад роспачы слёзы застылі.
Тлеюць руіны.
Цемень.
Адна.
Бацькі не стала.
...Забілі.
Павекі закрылі вуголле вачэй,
І рукі халодныя сталі.
Крывавыя кроплі з дзявочых грудзей
На бацькавы грудзі сцякалі.

3

І раптам па бруку
Грукат,
Як град.
Гоніцца
Конніцы
Дружны атрад.
І незадоўга,
яшчэ да святла,
Чырвоная Армія
Ў горад прыйшла.

4

Рана-рана сонца ўстала,
Глянула на горад,
Дзе пранеслася навалай
Чорным віхрам гора.

Гвалтаваў, паліў і грабіў
Кат-белагвардзеец:
Вочы — ямы, рукі — граблі,
Твар — крывёй ірдзее.

Пачарнелі камяніцы,
Дым злізаў іх фарбы.
Спапяліла навальніца
Сцены нашых фабрык.

Сказ аб гэтых ураганах
Нашым пакаленням
У раскінутых курганах,
Помніках-каменнях.

Рана-рана сонца ўстала,
Глянула на горад,
Дзе пранеслася навалай
Чорным віхрам гора.

Сонца, сонца, ты скажы нам,
Чуеш, адзавіся,
Дзе падзелася дзяўчына,
Звадь яе — Марыся?

5

Вецер промені палошча
У рачулках на зары.
Белы дом стаіць на плошчы —
Лазарэт, Чырвоны Крыж.

Ля акна, уся ў бяссіллі
(Нары № 23),
Быццам труп, ляжыць Марыля,
Сіні колер твар пакрыў.

Дыхаць цяжка, грудзі ўспухлі,
Точыць смага, прага піць.
Толькі вочы не патухлі —
Зіхацяць жаданнем жыць.

Заглядзеліся на неба,
Дзе сузор'е ўе вянкі.
— Раскажыце мне што-небудзь,
Залатыя аганькі.
Ціха... Што? Няма нікога?
Разлучылі? Разам? Не!
Што? Крываваю дарогай
Смерць ідзе забраць мяне?
Во, ўжо блізка... Шаль на твары...
Па маю ідзе душу.

Я іду... іду.
— Таварыш,
Будзь спакойнаю, прашу.
Не хвалюйся, калі ласка,
— Дзе я?
— Сцішся, добрай стань.
Зараз зробім перавязку,
Ўжо развеялася здань.
Вось, пакуль што, чаю кубак
І пасылачны сухар.
— Шчыра дзякую за любасць
Вам, таварыш санітар.
— Не турбуйся, добрай ночы.—
Коўдру хворай пераклаў.
Погляд стомлены дзявочы
У яго душу запаў.

6

Узняўся дзень узлётам сакаліным,
Прагнаўшы змрок халоднае начы.
Марыля ўстала.
Кволая дзяўчына,
Як ёй гора горкае змагчы?
Адзінокая
Глухім завулкам крочыць.
Колькі гора вызнала ў жыцці!
Хто пачуе шолах дум дзявочых?
Хто паможа шчасце ёй знайсці?
Знянацку задрыжала палахліва.
Яе спыніў, нагнаўшы, санітар.
— Куды напрамак ваш?
Яна стаіць маўклівай.
— Хадзем са мной,
Прыміце гэты дар.
Знайшоў гасцінны вам
Прытулак у знаёмых.
Чаго блукаць завулкамі, бяздомнай?
Схіліла галаву.
Слёзы наплылі.
Пайшлі.

7

Санітар Аўзор Дарубашвілі
Жыве багата ў гэткі трудны час.
Аб ім шапталіся, казалі, гаварылі:
«Нешта ёсць», — насілася не раз.
Адны жывуць з пайка, і гэткіх многа,
Сядзяць без хлеба і не адзін дзянёк.
А ў Дарубашвілі — хлеб, штодня бефстроган
І для апетыту — каньячок...

8

Жыла не ў роскашы,
З дзіцячых год прывыкла
Заўсёды ў працы час праводзіць свой,
І на дванаццаць вушак
Лапці з лыка
Яна насіла летам і зімой.
А тут... Жыццё пад спевы грамафона,
Здавалася ж, і весела і сытна.
Марыля думае:
«Як вырвацца з палону?
К чужому берагу
Жыццё маё прыбіта!»

Навакол руіны. Прагаладзь пануе.
За кавалак хлеба глумныя чаргі.
Іх яна не ведае.
Чулым сэрцам чуе:
Не Аўзор ёй пара,
Ой, другі, другі...
Ля акна Марылька томіцца ў палоне.
Бліснулі павекі, як расой трава.
— Эх, жыццё праклятае! —
І на падаконнік
Дзявочая павісла
галава.

9

Вячорная ціша. Аўзор і Марыля
Па вуліцы крочаць за горад.
На ўскраіне моўчкі яны павярнулі
На могільнік брацкі зарослы.
Аўзор зняў шынель, ля магілы паклаў.
Марыля заплакала горка:
Па бацьку ручыліся слёзы яе,
Па жыццю па свайму сіратліваму.
Аўзор супакойваў, ледзь ціха казаў:
— Не трэба ўбівацца, дарэмна.
Мы будзем шчаслівыя, будзем удвух,
Згаджайся, любоў мая ясная.
Марыля ўздыхнула. Лісцё на кустах
Ад ветру, як шоўк, зашуршэла.
— Слухайце доўгую казку жыцця,
Слухайце і зразумейце:
Я помню, вайна к нам у вёску прыйшла.
У агні саламяныя стрэхі.
Скарб свой пакінуўшы, вёскай усёй
У свет ратавацца ўцякалі.
Доўга блукалі. Ні хлеба, ні працы.
Голад, як цень, неразлучан.
Бежанцы, бежанцы! З торбай жабрачай
Колькі іх згінула ў свеце!
Жыццё маёй маці ў дарозе забраў
Бязлітасны тыфус. Нядаўна
Забіты быў бацька. Цяпер я адна.
Адна, як гарох пры дарозе.
Жыву толькі ўцехай, надзеяй адной,
Што ўбачу Рыгора каханага.
Яму прысягала, ён мне прысягаў,
Калі забіралі ў салдаты.
Я чула нядаўна, што служыць цяпер
Ён лётчыкам недзе ў чырвоных.
— Марылька, цябе я люблю як ніхто!
Нам будуць зайздросціць, згаджайся.
— Люблю я Рыгора,
        ён верны мне,
Чакаць яго буду да смерці...
А вы не крыўдуйце, вы добрай душы,

Я ўдзячна вам буду...
— Марыля!
Ты будзеш маёю! — І, як непрытомны,
Абняў яе раптам гвалтоўна.
Яна ўсёю сілай рванулася з рук
І глянула гнеўна і люта.

10

Аўзор і
Джон Кейтан
(па пашпарту Довыч,
тутэйшы настаўнік англійскае мовы)
Выйшлі абодва... На вуліцы цёмна.
Ссутуліўся Джон, акуляры працёр.
— Дружа, часамі здаецца, жыццём нас
Абгоніць сучаснасць? Чаму так, Аўзор?
Багаты я сілаю волі і сродкаў,
Але вось надоечы ў сэрцы, на дне,
Пачуў, што ўстаяць перад валам паводкі
Цяжка мне.
Заўсёды я быў, так сказаць, запявалай,
Цяпер выканаўца і нават слабы.
— Усё гэта нервы... А вы, як бывала,
Умела цярэбіце шлях барацьбы.
— Ну вось вам, шаноўны (размахвае стэкам),
Трэба нам пошту даставіць — бяда:
Не маем надзейнага мы чалавека;
І грошы ідуць і людзей не відаць.
Таму і настрой неастоісты гэткі.
А пошту нам трэба даставіць ці не? —
І замільгалі трывогай павекі.
Аўзор, схамянуўшыся:
— Ёсць у мяне
Дзяўчына. Яна завязе гэту пошту.
Бліскучая думка, ніхто — як яна!
Будзьце спакойны, таму й танным коштам
Камандзіроўка абыдзецца нам.
Кейтан пачухаў сваю эспаньёлку,
Спытаў недаверліва шэптам сухім:
— Праверана добра? А мо' камсамолка?

Жанчын не люблю я. Не веру я ім.
Аўзор загарэўся раптоўна ідэяй.
— Быць ці не быць, — нібы Гамлет, сказаў.
Зайшоў Джон у школу (у школе жыве ён)
І вынес пакет і Аўзору аддаў.

II

У альтанцы, аплеценай хмелем,
Аўзор і Марыля сядзелі.
— Як хораша тут!
Хто жывы, малады,
Прагна той сваё шчасце шукае.
Марыся, ідуць за гадамі гады,
Дарма сябе смуткам караеш.
Згаджайся, пашто прымушаеш прасіць,
Інакшай, шчаслівай ты станеш.
— Не трэба...
Не дам я ў душы загасіць
Агні маёй веры, кахання.
— Наіўная вера... У добры час
Паслухай мяне і згадзіся.
Паедзем удвух на далёкі Каўказ,
Там сонца, там горы... Марыся,
Мяне не цурайся.
Глянь ветла мне ў вочы.
Тугу непатрэбную кінь, адгані.
Табе, надаронай красою дзявочай,
Адно толькі ведаць вясёлыя дні.
— Няпраўда, не думаю вас я цурацца,
Але, каб не гнуцца мне болей бядзе;
А я ўжо акрэпла, дастаньце мне працу,
За працай усё па-другому ідзе.
— Знайду, безумоўна,
Цяпер, калі хочаш
Рассеяцца крышку, пабачыць людзей,
Ты з'ездзі ў сталіцу, для уцехі дзявочай,
Удружыш і мне, і сабе весялей.
З сабою табе дам пакет для знаёмых,
І ўсё даручэнне — прыедзеш, здасі.
Ці ж блага табе я жадаю? Вядома,

Як хочаш,
не буду ўгаворваць, прасіць.

Яна адмаўлялася, ўсё ёй не міла.
Дый светлая думка яе азарыла:
«Сталіца... Сталіца... Чаму не згадзіцца,
Мо' я пра Рыгора пачую ў сталіцы!..»
І згоду, глыбока ўздыхнуўшы, дала.
Здавалася, сцежку да шчасця знайшла.

### *Частка другая*

1

Поруч з Марыляй
...Грукат кол...
Таварыш у фрэнчы.
...Душна ў вагоне...
Змрокам авіты бяроз частакол
Вецер за вокнамі клоніць.

Хвалюе Марылю
...Народу шмат...
У сэрцы надзея.
...Цяплушка...
Пад гукі гармоніка, ўсеўшыся ў рад,
Пяюць пасажыры частушкі.

Поруч з Марыляй
...Сцелецца змрок...
Таварыш у фрэнчы.
...Ахутвае змора...
— Далёка сталіца яшчэ, землячок?
— Раніцай заўтра, скора.
— Хачу запытацца...
...Раздаўся свісток...
Чаго ні здараецца.
...Блiснулі вочы...
— Мо' чулі часамі Рыгора Клумок?
— А хто ён?..— Ён лётчык.

— Штосьці не чуў.
...У вагоне храп...
Разгаварыліся.
...Свечкі чадзілі...
— Весткі аб ім можа выдаць штаб,
Дзе і ў якой эскадрыллі.

Ноч. Летуценням шырокі прастор.
Праявы жаданай сустрэчы.
Штаб. Пакет. Рыгорка. Аўзор...
Поруч таварыш у фрэнчы.

2

Вось і станцыя. Ледзь золак румяны
Над горадам сонным прыветліва глянуў.
Бязлюдна... Часамі праедзе падвода.
А на вакзале жыццё поўным ходам:
Кожны спяшаецца, кожнаму некалі —
Адны выязджаюць,
другія прыехалі.

Рана яшчэ. Спіць гоман людскі.
На крамах, складах іржавеюць замкі.
Сонейка глянула скоса з-за стрэхаў,
З праменнямі шэпчацца: «Нехта прыехаў»...
Праменні Марылю цалуюць у твар,
Узялі за рукі, вядуць на бульвар.
Ўсадзілі і ліпнуць, як мухі на мёд.
Ну што ж, і праменні шукаюць пяшчот.

3

У сэрцы Марылiным б'юць малаткі,
Наўкол абуджаецца гул гарадскі.
Ларкі,
Магазіны
На кожным рагу.
Жанчыны
Бягуць
Па харчы у чаргу.

Другія рыхтуюцца —
Хаты ўбіраюць:
Заўтра —
        На вуліцу! —
Першае Мая!

4

За горадам — аэрадром.
На аэрадроме страі самалётаў.
Марыля прыйшла. Разглядае кругом.
Пілоты праходзяць, не бачна яго,
Любага сэрцу пілота.

Найшло дзетвары, паналезлі на плот,
Снуе і Марыля ля плота.
За самалётам ляціць самалёт.
Дзецям — цікава пабачыць узлёт,
Дзяўчыне — убачыць пілота.

На аэрадроме, як шоўк, трава.
За аэрадромам — балота...
«Ці праўда? Няўжо?». І ў трывозе развал
Убачыла... Ён!.. Баіцца пазваць
Любага сэрцу пілота.

5

Зусім стаў інакшым!
Нашто разлучылі?
Пазнаць нават цяжка,
Змяніўся зусім.
І страх за каханне
Прачнуўся ў Марылі.
«Змаўчаць?.. Ой, чаму?
Я павінна быць з ім!»
— Рыгор!.. Ры-гор-ка!
        (Абодва застылі...)
— Ці праўда?
Адкуль?

Гэта ты?
Марыля!
Адзін да другога падбеглі,
І слоў
Не стала,
Шуміць усхвалёвана кроў.
Успыхнулі вочы
Так міла і проста,
Абняў лётчык
Дзявочую
постаць.
І быць не магло,
Не магло быць іначай:
Злучыў пацалунак
Гарачы,
гарачы...

6

Сонца залівала
Рабочыя кварталы.
Лозунгі, плакаты,
Сцяг над кожнай хатай.
Песнямі радуе
Майскае радыё.

Доўга хадзілі...
Прыемна было.
Шчасце ў вачах расцвітала.
Усё расказала,
І ўсё прайшло,
І лёгка на сэрцы стала.

Здаецца цяпер, што балючы такі
Той час пякельнай разлукі,
Яго не было... І, нібы юнакі,
Перапляялі свае рукі.

Доўга хадзілі.
У горадзе гоман,
Святочны настрой, узнятасць.

— Дзе ты спынілася?
— Дзе? Вядома,
Поруч з табой мая хата.
— Па справах мне трэба на аэрадром
Ваенная, брат, дысцыпліна.
На аэрадром
Ты прыйдзі вечарком,
Прыблізна а шостай гадзіне.
Нядобра выходзе, але выбачай.
— Нічога... Раз трэба — ідзі, не зважай.
— Да хуткай сустрэчы!
І ён казырнуў.
Пайшоў. Павярнуўся. Рукою махнуў.

Марыля рашыла (тут блізка якраз)
Занесці пакет, развязацца...
«Затым назусім,
На жыццё, на ўвесь час
З любым Рыгорам застацца».

Дастала пакет.
Вясёлай глядзіць,
Як дробна алоўкам напісана:
Садовая вуліца, 21,
Марку Пятровічу Рысіну.

7

Дваццаць адзін.
Невялічкі будынак.
Перад будынкам — аўтамашына.
Падбегла.
Стукнула.
Скрыпнулі дзверы.
У пакоях, як пер'е,
Кавалкі паперы.
Паадчыняны
камоды
і столікі.
Людзі ўзброены.

Што тут такое?
Простая рэч:
Вобыск — і толькі —
У белагвардзейскіх пакоях.
— Хто вы? —
Спытаў чалавек незнаёмы.
— Тут
Дваццаць першы нумар дома?
Ці, можа, памылка?
У мяне пасылка...

Ружовы пакет
Узяла рука
Прадстаўніка
ЧК.
Пакет абарваў
І толькі глянуў,
Сказаў:
— Вы арыштаваны.

Марыля заплакала, рукі ламае,
Просіцца, ў роспачы кленчыць.
Чэкісты паперы ў партфелі складаюць,
Зайшоў і таварыш у фрэнчы —
І праз хвіліну
Усадзілі ў машыну
Усіх адразу
І разам —
Марылю.
Час невялікі
Прыйшлося чакаць:
— Шафёр
за стырно!
Шпіёны —
ў ЧК.

8

Вільгаць і змрочнасць. На сэрцы шквал.
Марыля ў ЧК ў сутарэнні.
За вокнамі весела, там карнавал —
Снапы каляровых праменняў.

Над горадам прозалаць вольных зор.
Марылю туга спавівала.
З трывогай на вуліцы ходзіць Рыгор.
На вуліцы — гул карнавала.

### *Частка трэцяя*

1

Вечар. Як воблака, дым папярос
Клубіўся над чубам шпіёна.
Следчы праводзіў чарговы дапрос
Настаўніка Кейтана Джона.
— Вашай рукой напісаны ліст?
— Як вам сказаць, дыктавалі...
— З чыёй дапамогаю, дзе і калі
Гэтыя весткі збіралі?
Кейтан маўчыць, апусціў галаву.
— Гуляць у маўчанку не раю.
Не помніце? Я памагу вам, завуць
Сараеў Нікодзім?
— Сараеў.
— Вы пасылалі з лістом у пакеце
Рысіну банкаўскі чэк?
— Але ж у мяне, бачце, жонка і дзеці,
Змілуйцеся, я ж чалавек!
І страх раз'ядаў, а ён солі вастрэй,
Нахлынуўшай роспачы раны.
Шчаціняцца заразлі чорных брывей,
Ссінелыя губы скусаны.
Вядуць у падвал.
— Правал... О, няўжо —
Згнію тут... На нарах сканаю.
А дзеці?.. Як страшна!
І Кейтан Джон
Шаптаў ідучы:
— Расстраляюць!

2

Горад.
Пры горадзе — прыгарад.

Вуліца і
З канца —
Хаціна, як быццам прыгарак,
Кватэра шаўца.
Дзверы, як сіта, расчыніш —
У цэнтры, як пень, варштат.
Над ім, як дрот, павуцінне
Запелянала Хрыста.
Двухпавярховы ложак.
Тры чалавекі сям'і.
Дратваю стол стрыножан,
Ледзь стаіць.
Крэслаў няма — скрыпя,
А ў скрыні — бежанскі скарб.

На рынку з паўдня гаспадыня,
З ёй і гаспадар.
Сын у іх — рухавы,
Старанны юнак.
— Выйдзе ў людзі Павал,
Ходзіць на рабфак,—
Гэтак гаварылі
Бацькі між сабой.

За сталом Марыля,
Павал поруч з ёй...

3

Марыля ўздыхае:
— Ганебная справа,
Бач, як складаецца лёс.
Дапамажы мне, Павал!
Павал Марылю за плечы патрос:
— Пройдзе, усё перамелецца, знаку
Нават не стане ад гэтых падзей.
Знойдзеш работу, а там на рабфаку
Будзем вучыцца... Чаго ж, весялей!
— Не знаю... мне цяжка...
— Не трэба больш мокнуць,
Слёзы зусім не патрэбны цяпер.

Змоўклі.
Кот з падаконніка скокнуў
На ложак (другі паверх).

... Пад сэрцам хавала Марыля
Кахання разбітага крыллі.
А думкі, адна за адною,
Маўкліва ішлі чарадою:
«Рыгор!.. Ім жыла... Адшукала...
Цяпер і надзеі нястала.
Пыталася ў штабе, сказалі,
Рыгор на далёкім Урале.
Я адрас прасіла. Не знаюць...
Чацвёрты ўжо месяц мінае.
Ці ўбачымся болей, мой мілы?
Сама вінавата. Згубіла».
Так думкі, адна за адною,
Маўкліва ішлі чарадою.

Прыйшла гаспадыня: — Дзе ён?
Бацька не быў?.. П'е.
Да часу жанчына сівее,
Праклінаючы дні свае.
Ведаць ёй толькі клапоты.
З ранку прыйшла і зноў
Змушана стаць за работу
Ля варштата і ля гаршкоў.

Гора матчына Паўла змарыла.
Але як памагчы? Але чым?
Выйшаў на двор.
Марыля
Выбегла ўслед за ім.

Дзіўны вечар,
Вечар жніўны.
Прыселі на лаву
Пад вязам
Марыля і Павал
Разам.

Сядзелі.
Маўчалі.
Спявалі-звінелі,
Як струны, без слоў,
Вішнёвыя каруселі
Садоў.

4

— І сёння і ўчора, і гэтак штодзённа,
Узнімецца сонца і зойдзе.
Здавалася, так аднастайна, нязменна
Жыццё па калдобінам бродзіць.
Дзень загарыцца, праходзіць марудна.
Стамляюцца вочы і рукі.
А пройдзе — не верыш, дагнаць яго трудна!
Шкадуючы, скажаш: як хутка!..

Помніш, пакінулі родныя гоні,
Разам ад немца ўцякалі.
І сёння, здаецца, мяне нехта гоніць,
Як непагадзь трэску на хвалях.
Радасць на момант, нібы бліскавіца,
Ўзаўецца і следам знікае.
Ці знала, што ў вас тут
Змагу прытуліцца?
Што вас тут, як родных, спаткаю?
Знаёмых нікога... А горайка гоніць
Бязлітасна з горада ў горад.
Помніш мястэчка?
— Як на далоні.
— Магчыма ты помніш Рыгора?
— Якога?
— Клумок, местачковы слесар.
— Нешта не помню, забыўся.

Зноў успаміны сарвалі завесу,
У цярновы вянок завіліся.
Марыля хацела яму таямніцу
Сваю расказаць, пачынала
І змоўкла...

Каля камяніцы
Бярозка ў цішы засынала.

5

На сэрцы заўжды спакайней,
Калі чалавек за работай.
Стала Марылі лягчэй —
Працу знайшла ў пераплётнай.

Сшываючы аркушы кніг,
Іголкаю пальцы калола.
А ў думках наступныя дні
Ўстаюць перад ёю, як золак.

— Папасці бы мне на рабфак,
Той дзень я лічыла б за свята.
Ды ўсё не забыцца ніяк:
Мінулага моцныя краты.

Калі ж гэта пропадам згіне,
Не будзе дакорам труціць
У новым, інакшым жыцці
Падзеяў былых павуцінне?..

Такіх вось пытанняў нямала
Ўзнімала Марыля не раз.
І часта шукала адказ
У кнігах, што пераплятала.

6

Яны ўдваіх... Пакой, як скрыня.
Дым вісіць дугою.
Тут гандлюе гаспадыня
Чыстаю ханжою.
П'юць сівуху-саматужку:
Бацька Паўлы з другам,
Друг той — стрэленая птушка —
Клемусь-валацуга.
Яны ўдваіх...
— Як я сумленны,

Пашукай, не знойдзеш.
— А па-твойму, я ўжо дрэнны,
Валацуга, злодзей?
Што, галоту абдзіраю?
П'ю не за свае я?
— Братка Клемусь (налівае)
Мазаны алеем.
Рукі — спрыт і не фальшыва
Робяць тое-сёе.
— Эт, разводзіш...
— Будзем жывы!
— За тваё здароўе!

Клемусь — хлюст.
Пільнуй кішэні!
Бокам ледзь прыкіне,
Неўпрыкмет штурхне, адсценіць —
І... бывай гадзіннік.
А другі...
Вось так жывецца,
Ад ханжы ад горкай,
Абадраны, хоць шавец сам,
На нагах апоркі.
І не раз чураўся Павал
Гэтакага бацькі.
Што ж чурацца?
То расправа
Над жыццём жабрацкім.

Гаспадыня паглядае
У акно, на дзверы.
Страшна, сэрца прадчувае
Міліцыянера.

— Братка Клемусь, дык кажу я,
Будзе лепей разам.
Дай цябе я пацалую,
Рыжая зараза.
На сябе зірні, бяздомак,
Загрызе дасада...

Небагатая, то праўда,
З бежанцаў, вядома.
— Будзе хата, будзе ў хаце.
З добрай галавою
Дык падружыць і багацце.
— От і я пра тое.
Будзе жонка — будзе лава.
Што ад тога скарбу?
А што баба — то, ей-права,
Залатая баба.
Возьмем кварту саматужкі,
Агурка якога,
Вып'ем! Дам табе падушку,
І кладзіся з богам.
Як жа, згодзен, Клемусь, братка?
— Едзем заўтра ў сваты.
— О-то й добра... Не дзяўчына —
Проста мёд пчаліны.
Ну, і ты хлапец руплівы,
З спрытнай галавою.
— Дык жа вып'ем.
— Будзем жывы!
— За тваё здароўе!
А ханжа атрутнай сілай
Шаўца атруціла,
І гатова,
Больш ні слова,
Здаўся канчаткова.
— Сын твой, Павал, от зануда,
Лезе ў камісары.
Каб падмазацца, усюды,
Як сабака, шарыць.
У міліцыю данёс там,
Што Ігнат Залтушка,
Што ж такога? Дужа проста —
Гоніць саматужку.
Так Залтушына і спляжыў
Без якой прычыны.
От дзе зубы ўжо пагладжу
Сукінаму сыну.
Што, заснуў?

А гаспадыня:
— Клемусь, так пакінеш?
Ці ж не сорам перад сватам?
Завядзі дахаты.
А то зможа і засыпаць,
П'яны ж нагарэзіць...
— Што ты скажаш, от задрыпа,
Ў камісары лезе!

7

Яшчэ і не позна, а цёмна зусім.
Холадна. Вецер галосіць.
Пад шум лістапада туманам густым
У свет выбіваецца восень.

У хаце нікога. Марыля адна.
Дагарае астатняя газа.
— Няхай бы прыйшоў...
Так хацела яна
Ў гэты вечар быць з Паўлам разам.
Яшчэ і не позна, а цёмна... Імгла.
Пад сіплыя ўсхліпы газніцы
Кнігу ў шуфлядзе Марыля знайшла
І кнігай магла захапіцца.

Скрыпнулі дзверы.
Павал прыйшоў.
Газніца. Змрок. Марыля.
І сэрцы, здаецца, у сто званоў
У абодвух раптам забілі.
— Марыля!
— Паўлік!
— Чытаеш?
— Але!
Зноў маўклівасць з хвіліну.
Газніца міргае, сіпіць на стале.
На сценах цені стынуць.
— Марыля, ты ведаеш, бацька казаў,
Збіраюцца ў сваты прыехаць.
Відаць, малайца-жаніха падшукаў?

— І што ж? (Адказала для смеху.)
Ці ж мне не пара?
О... Які ж ты дзівак...
— Разумная ты ўжо занадта.
А ўсё ж не зашкодзіць пайсці на рабфак,
Мазгі свае трошкі падлатаць.
— Ну-ну, ты не злуйся,
А бацьку скажы,
Што мы і без помачы ўладзім.
Які ты гарачы...
Не трэба тужыць.—
Паўлавы бровы гладзіць.

8

У смутку Марыля штоноч цыравала
Нядоляй працёртыя дні.
Парою душа бунтавала і звала
Сваю маладосць бараніць.
— Каго ні пытала, куды ні хадзіла,
Няма яго... Што мне рабіць?
Няўжо гэтак будзе? Дзе ж дзелася сіла?
О, як мне былое забыць!
Бязлітасны лёс. Спаткаліся. Разам.
Жартуючы шчасце кране...
Чаму мне Рыгор пра вайну ўсё расказваў,
Пра справы свае на вайне?
Чаму не сказаў (мо' ён любіць другую?),
Ці любіць мяне, як раней?
Шукала. Знайшла. А ці болей знайду я?
Ці варта шукаць далей?
Навошта ўспаміны ўчыняюць расправу,
Так востра шчымяць, як імгла?..
У летуценнях выростае Павал.
Не спіцца.
І ноч прайшла.

9

Рэжам, клеім і сшываем,
І пад прэсам выпрамляем.
Так з старой, падранай — мігам
Робім новенькую кнігу.

— Весялей, калі працуеш.
Між сяброў, пароюў,
Многа новага пачуеш
Пра жыццё людское.
І само жыццё людское
Мне другім здаецца.
Праўду кажуць,— з грамадою
Весялей жывецца.

Пазваніў з ЧК ёй следчы,
Каб прыйшла і хутка.
Не марудзячы, на плечы
Накінула хустку;
Брыгадзіру штось сказала
І пайшла руплівa.
Дзённым гулам бушавала
Вуліца бурліва.

Каля клуба, на вітрыне
Навіна такая:
Хто праходзіць — вокам кіне,
Стане, прачытае.
І яна з здзіўленнем стала
Адгадаць загадку.
Два разы перачытала
Да канца з пачатку:

*ПАВЕДАМЛЕННЕ*

*Сёння*

Літаратурнае выступленне.
Будуць чытаць паэмы
На розныя тэмы
Купала, Чарот, Гартны.
Уваход бясплатны.
Не пазніцца просім.
Пачатак роўна ў 8.

— Ой, пайду абавязкова,
Быць я там павінна,
Каб пачуць жывое слова
Песняроў краіны.

10

— Хай яны пропадам згінуць, не дбай,
Мала чаго нагаворадь.
Але сцеражыся, бывае, бяда
Знянацку абкруціць аборай...
Прашу, сцеражыся, паслухай, змаўчы.
Хай сабе хоць і Залтушын,
Спаткаешся з імі, як тыя сычы,
А ліха ўсяму — саматужка.

Матчына сэрца трывогу і гнеў
Першае з болем адчула.
— Прашу, не кратай іх, хоць дзеля мяне,
Дажыць дай без гвалту і гулу.
— Пакінь, не турбуйся, падумай сама,
Людзі без хлеба, як цені.
А сальнік Залтушын — яму дарма,
Не ветрам набіты кішэні.
На бацьку зірнеш, ён не вып'е і жыць
Не можа, яму не цікава.
— То ж праўда, сынок, але точаць нажы,
З багатым не выйграеш справы.
— Нічога, закон ёсць. Савецкі урад
За гэткія справы бароніць!

Бацька вярнуўся. Прысеў за варштат.
Калоцяцца рукі і скроні.
Спачатку маўчаў, пазіраючы ў столь.
— Чытаеш?
— Залікі рыхтую.
— Рыхтуеш? Рыхтуй! Хто шкодзіць? Ніхто!
А ты чаго ўсюды блазнуеш?
Гоніць? Хай гоніць! Не ўмеў бы, не гнаў.
Табе што? Утрата? Патрава?

— Чаго прыстаеш, авадзень, сатана,
Стлеў бы даўно, каб не Павал.

Ці ж Паўлу прыемна выслухваць грызню?
За шапку і выйшаў за дзверы.

Пакорна схіліў верасnёваму дню
Чало сваіх думак і веры.
Балюча, і крыўдна, і шкода бацькоў,
Жыццё завірухі скруцілі.

У пераплётную ціха пайшоў —
Жаданне спаткацца з Марыляй.

### *Частка чацвёртая*

1

Людская злосць! Няма ёй меж і форм,
Яна гатова выбухам шалёным
Прабіць сцяну грудзей
 і вырвацца ў прастор,
Пасеяць буру, гора і праклёны...

Яна, як спадчына, прыйшла у нашы дні,
Атрутай налівалася вякамі,
Свае змяіныя пусціўшы карані,
Яна ляжыць за пазухай, як камень.

Няўдача — будзіць крыўду,
Крыўда — будзіць злосць,
Затым пакажа помста
 нораў страшны.

У горле Клемуся засела помсты косць,
І выкінуць яе гатоў крывавы кашаль.
Ён у карчму сабраў сваіх сяброў,
Ён крыўдзе вочы хмелем затуняе.
Ён злосць сваю, разгневаную кроў
Пераліваe
 ў жылы сваёй зграі:
— Задзёрла нос... Падумаеш, княжна!
Мадам Мар'ё — бязродная галеча.
Знайду я сотні гэткіх, як яна,
А гонар ёй, што сук, пара падсекчы.
Дый Павал, сукін сын, усюды нос уткне.

Каторы раз... Як корч той на дарозе.
Ой, рук маіх, ідаць, ён не міне! —
І кулакамі выказаў пагрозу.
А хэўра ўторыла:
— Падумаеш — княжна!
— Пад ногаць іх!
— Пачвара, а не жонка!
— Браценікі,
за Клемуся да дна!..
...Пазамуціла вочы самагонка.

2

Ходзіць Павал задумлёны
Каля крам па тратуары.
Ападае лісце з клёна,
Мые космы ў лужах хмара.

Ходзіць Павал, думкі роем.
Неспакойна б'ецца сэрца.
— Дзе ж Марыля? Што такое?
Абяцалася сустрэцца.

Кажуць, выйшла на гадзінку,
А ўжо трэцяя мінае.
Што такое? Дзе дзяўчына?
Набягае думка злая.

Першы раз, балюча нават
На чало ляглі маршчыны.
Распазнаць імкнуўся Павал
Псіхалогію жанчыны.

— Што ж, няхай няўдзячна гэтак
За сваё дабро трываю.
Пэўна, ўсе ў жыцці кабеты
След гарэзны пакідаюць.

І настрой чарней ад ночы.
Як змяняюцца настроі!

Зноў рупліваю хадою
Ў пераплётную ён крочыць.

— Не, няма. Не прыйдзе сёння.
Бач, канчаем працу скора.
Вечар ветраны палоніць
Хмарай восенскаю горад.

Што рабіць? Ісці дадому?
Да чаго нясkладны вечар.
У завулак, як бяздомак,
Павярнуў, сагнуўшы плечы.

Замільгалі ў сутарэннях
Аганькі газнічак змрочна.
Бачыць Павал, нібы цені,
Гурт людзей па бруку крочыць.

Вось ужо выразна чуе
Голас Клемуся п'янога.
Хай іх чорт, перасцярога
Ад бяды парой ратуе.

Каб раней вярнуўся крышку,
А то ўгледзела арава:
— Наша вам... Здароў, бр-рацішка!
— Жаніху прывет і слава!

Самасуд устаў на ногі,
Паспрабуй абараніцца!
Нібы гром у навальніцу,
Пракаціўся гул трывогі.

Шчасце Паўла, хтось з аравы
Закрычаў перапалохам:
— Глянь, міліцыя!.. Аблава!
...Зашумела суматоха.

Карыстаючыся крыкам,
Клемусь хітра вокам змераў,

З-за вугла падбег і фінкай
Раніў
Міліцыянера.

3

— Не, таварыш следчы,
Я ж ў тым нявінна,
Што Аўзор шпіёнам,
Дыверсантам быў.
Верце, я не ведала.
Прыманіў скарынкай,
Думала, ён шчыра
Ласку мне рабіў.
— ...?
— Я не атрымоўвала а-ні-якіх грошай.
— ...?
— Кажаце, развозіла нелегальна пошту?
Так, пакет я везла.
Я ўжо гаварыла,
Я, нібы сляпая, па зямлі хадзіла —
Уздыхнула, глянула
На пакет памяты,
Што, ў сургуч заплямены,
На стале ляжаў.
І ад хвалявання,
Ад трывогі ўзнятай
На дзявочым твары
Запалаў пажар.
— ...?
— Вы ў мяне пытаеце, што каму спрыяю?
Адкажу вам проста:
Не хачу спрыяць!
Я хачу, як людзі, працаваць,
я знаю —
Хай сягоння сіла кволая мая,—
Мне акрэпнуць трэба,
Трэба мне вучыцца,
Я, між іншым, думаю на рабфак пайсці.
— Правільна.
За лёс свой мусім мужна біцца,

Верную дарогу выбраўшы ў жыцці.
Што ж, на гэтым скончым.
        Справу ліквідуем.
Зычу вам здароўя, жыць і красаваць!
— Дзякую вам шчыра... Як жыццё муштруе!
— Не муштруе, кліча шчасце будаваць.
Пауза.
Маўклівасць.
Невымоўнай сілай
Зашчымела сэрца.
        Радасць тут ці страх?
Радасць, хоць слязою твар і арасіла,
Але радасць, радасць
        Цепліцца ў вачах.

. . . . . . . . . . .

Дзіця маленькае адкрыла вачанятні
І ў першы раз убачыла святло.
Затым — пазнаць магло
З усмешкай постаць маткі,
А там — вітаць яе
        Сугуччам першых слоў.
Вось і Марыля так
        Упершыню пазнала
Зямлю, і свет, і шлях свайго жыцця.
        І гэтак лёгка ёй на сэрцы стала,
І засмяялася, раптоўна, як дзіця...

. . . . . . . . . . .

— Цяпер я вольная?
        Хадзіць не трэба болей
Сюды ў ЧК?
— Закончаны разгляд.
— Бывайце, дзякую...
— Бывайце...
        І да болю
Руку пацісвуў ёй,
        Як добры друг і брат.

* * *

Вечар хутка сплюшчыць вочы,
Змрок ахутае зямлю.
Сёння вечар для рабочых,
Не спазніцца сёння ў клуб!
І бяжыць, бяжыць дзяўчына,
Каб, пазваўшы Паўла, зноў
Бегчы ў клуб на вечарыну
Беларускіх песняроў.

4

Горад.
Пры горадзе — прыгарад.
Вуліца і
З канца
Будынак, як быццам прыгарак,
Кватэра шаўца.

Прыбегла Марыля.
— А дзе ж гэта Павал?
Маці праз слёзы:
— Пабілі.
Расправа.
Марылька, ў бядзе мы...
— Якая расправа?
— У міліцыі Клемусь
І Павал...

. . . . . . . . . . . . . .

Марыля ў міліцыі ўбачыла Паўла.
Міліцыянеры наўкол.
Старанна рука вартавога пісала
Сутнасць падзей — пратакол.
— Кажаце, вам пагражалі за тое,
Што сальнік Залтушын сядзіць у турме?
— Старым не давалі яны супакою,
Не толькі мне.
— Таварыш,— яна да стала падбягае,—
У гэтым разбоі не Павал віной.
Я ў іх кватарую... Тут справа такая,

Клемусь хацеў пажаніцца са мной.
А я адвярнулася. Што мне з бандытам
Адною дарогай?.. Таму вось яны
Яго прылавілі...
        І глянула скрытна
На Паўла,
А Павал, сярдзіты, стаяў ля сцяны.

* * *

Хай ноч, як смала.
Вецер.
Імгла.
Маўклівая радасць дамоў іх вяла.

5

І ноч прайшла.
І прайшла
Імгла.
А была
Імгла
Вастрэй ад шкла.
Марыля прачнулася. Ціха ў пакоі.
Ціха і душна.
        А ўсё-ткі лягчэй
        І грудзі ўздыхаюць,
        І кроў ужо тчэ
Румянцы вясёлых настрояў.
Ціха ў пакоі. Душна і брудна.
А лёгка на сэрцы,
        вось быццам —
Аб пройдзеным-згубленым
Споведзі нуднай
Шчасліва ўдалося пазбыцца.
Душна ў пакоі. А сэрца на волі.
Узлёты дзявочых мар.
Устала. Збірае ў ляжанцы вуголле.
Распальвае самавар.

Выйшла на двор.
Зусім яшчэ рана.
Намаразь.
Нікога няма.
З неба далёка-далёка загнаны
Ветрам барашкі хмар.

...Спелай рабінай красуецца раніца,
Сонечным золакам неба румяніцца.
Пройдуць-загінуць нягоды-напасці,
Светлай мне суджана сцежкай ісці.
Буду мець шчасце,
Шчасце мець буду,
Буду мець шчасце
У жыцці.

Песня гаротная, песня сірочая —
Доля самотная, доля дзявочая.
О, каб на крыўду мне больш не напасці,
Суджанай светлаю сцежкай ісці.
Буду мець шчасце,
Шчасце мець буду,
Буду мець шчасце
У жыцці.

. . . . . . . . . . . . . . . .

За шклянкаю чаю Марыля і Павал
Крыляцца ў лятунках чаруючых так:
Яны напісалі сягоння заяву,
Просьбу прыняць на рабфак.

З-за прыпека глянула маці старая,
Міргнула старому: — Зірні,
Бачыш, на шыю руку ён паклаў ёй.
Хай сабе...
Цсс...
Не крані.

6

Ажыўленым гулам свае абавязкі
Горад пачаў, як штодзённа.
— Буду прасіць, не адмоў, калі ласка,

Заяву аддай у Праўленне,
Іначай гатова ў майстэрню спазніцца.
— Раз абяцаю — квіта!
Позірк Марылі зарніцай іскрыцца,
І Паўла зарніцай спавіты.

7

Дружна спорыцца работа,
Шыем, клеім пераплёты,
Том за томам, нібы горы,
Вырастаюць зборы твораў.
Стомы пальцы рук не чуюць,
Клеюць, рэжуць, брашуруюць.
Узлятае песня гучна
За работаю кіпучай.

8

Перапынак. Роўна поўдзень.
Паўгадзіны адпачні.
Так праходзілі, праходзяць
Чарадой за днямі дні.

Але дзень інакшы сёння,
Не падобны на другі,
Ён тугою не палоніць,
Ён не ведае смугі.

І Марыля так ахвоча
Пра сябе, упершыню,
Сказ вядзе сябрам, а вочы
Поўны палкага агню.

9

Узнімае горад гул:
— Цесна мне, я не магу.
Я рэспублікі сталіца,
Не ў старых мне быць граніцах.
Камяніцамі расту я,

А жыве ў іх — хто працуе.
Цесна мне, хачу прастораў:
Я — савецкі, новы горад!

Тут газетчык, хлопчык потны,
Пад акном ля пераплётнай
Закрычаў што сіл хапае:
— Зноў буржуі наступаюць!
— Небывалы ўчынак гэткі!
— Пяць капеек!
— Вось газеткі!

Што магло такое стацца?
На хвіліну сціхла праца.
Падышла бліжэй Марыля,
Каб паслухаць навіну.
Ліст газеты, быццам крыллі,
Пераплётчык разгарнуў:
*«Класавы вораг падняў галаву:*
*Варожая агентура.*
*Новая вылазка.*
*Скасіць, як траву!*
*Паведамленне пракуратуры»...*
Марыля пачула, што справа —
Пра Клемуся-злыдня араву,
І стала на сэрцы ёй горка
Ад гэтай газетнай гаворкі.
. . . . . . . . . . . . . .

З комінаў фабрык
над горадам
кругам
Ходзіць
дымам
данецкі вугаль.
. . . . . . . . . . . . . .

Рабочы дзень канчаецца... Гудок
Ускалыхнуў густы асенні змрок.
А Павал дзе? Казаў, праз дзве гадзіны
Будзе вынік. Што ж яго няма?
А... вось і ён, як лёгкі на ўспамінак.

А я злавалася. Заўсёды так дарма.
— Што добрага?
Хутчэй кажы, прынята?
Маўчыш? Адмовілі рабфак?
(Нахмурыў бровы, як ад цяжкай страты)
Чаму?
Прычына?
Як?
. . . . . . . . . . . . . . .
— Не было камандзіроўкі, а заяў багата.
Механічны падыход...
— Значыць, не прынята?

### *Частка пятая*

1

Ад варштатаў, ад машын
Дэлегаты краю.
Даклад.
Увага.
Пачынаем:
— Пад сонцам
Два варожых светы:
Малады наш
Край Саветаў
І другі,—
Дзе разнята
Зямля на краіны,
Краіны пабіты на штаты.
Па штату
Краіны
Там мець павінны
Бронемашыны
І казематы.
«Сыты галоднаму
Не спагадае» —
Векавая
Пагаворка.
Церпяць рабочыя
І ў Шанхаі,
І ў Берліне,

І ў Нью-Йорку.
Сокалу крыллі абрэзаць —
Сокал не будзе лётаць.
Не стрымаць
пралетарскага ўзлёту
Ні мільтраезай,
Ні кулямётам.
Ад зор і да зор суткі —
Дваццаць чатыры гадзіны.
Дзяржавы на захадзе,
Як прастытуткі,
Прабіваюцца на рынак.
Рабочы без працы.
Чуеш,
У муках народзіцца радасць.
Галодны паход будуе
Рэвалюцыйныя
барыкады.
Якая розніца?
Адна бяда-пакута
У ткачоў і Беластока
І Ліёна,
І Калькуты.
Якая розніца?
(Хоць шлях жыццёвы свой там)
Ці токар з Токіо,
Ці з Вены,
Ці з Дэтройта.
Адным агнём гараць,
Агнём змагання вочы.
Ніякай розніцы! І там,
І там —
Рабочы!
Таварышы!
Надыдзе гэткі час —
І скіне путы
Увесь рабочы клас,
Уся зямля жыць будзе
Светлым ладам.
Няхай жыве Савецкая улада!

2

Прамова скончана.
У зале
Выбух воплескаў, як шквал.
Усталі,
Дружна заспявалі
«Інтэрнацыянал».
Вялікі сход. Рабочых шмат.
Пытанне важнае без краю.
Пра міжнароднае становішча даклад,
Канферэнцыя агульнагарадская.
Вялікі сход. Рабочых шмат,
Няма, здаецца, вольных шчылін.
З сярпом і молатам мандат
Падняла, галасуючы, Марыля.

Як многа перамен!
Упэўненай хадой,
Пад сцягам Леніна,
Пад сонцам прамяністым,
Плячо к плячу з рабочай грамадой
Яна ідзе —
душой і сэрцам чыстай.

3

Быў дзень — як вір паводкай веснавою,
Быў дзень — як полымя пажараў над
зямлёю,
Быў дзень — як волат, бурай гартаваны,
Быў дзень — як радасць творчасці
прызнанай,
Быў дзень — як дар святла і цеплыні.
Былі такія дні!

* * *

І кожнай раніцай краіна маладая,
Каб не падкраўся хціўны вораг з боку,
Свае дарогі пільна аглядае

Гаспадарскім
Шматмільённым вокам.

І кожнай раніцай,
Ледзь гулкія ўскрыляцца
Гудкі фабрычныя ў блакітныя нябёсы,—
З усіх куткоў ідуць,
Спяшаюцца на працу
Гаспадары жыцця свайго і лёсу.

4

Вечар марозны. Людской
Сумятлівасцю дыхае горад.
Нябачнаю, мяккай рукой
На вокнах распісаны ўзоры.

Разбіўшы сутонную муць,
На крыллях сцюдзёнага ветру
Коўзаюцца і плывуць
Гарачыя гукі аркестру.

Сівы запалонен прасцяг;
У парку, на лёдавых сцежках,
Звіняць маладосцю жыцця
Жвавыя канькабежцы.

Распаленых снежаньскай сцюжай,
Праз цені абеленых ліп,
З катання — вясёлых і дужых —
Іх двое дадому ішлі.

Іх двое — Марыля і Павал,
Іх двое, як лунь, сівых.
А месяц абуджваў праявы
У каруселях снегавых.

Імкліва, наперагонкі,
Услед за ступой ступа.
Марыля адстала — і звонкі
Смех акунаецца ў пар.

На скрыжаванні вуліц
Развіталіся і
Абое ўхмыляліся, чулі,
Як штось затрымоўвае іх.

— Яшчэ і не позна, дадому
Звычайна прыходзім пазней.
Мо' зойдзеш пагрэцца на момант?
Мо' зойдзеш да мяне?

І за рукаў пацягнула...
Сустрэў іх утульны пакой.
Вялі пра сяброўства і чуласць
Гаворку яны між сабой.

Нясмела руку сваю Павал
На плечы Марылі паклаў.
У гэту хвіліну ён нават
У думках яе цалаваў.

На хлопца яна паглядзела
Так ласкава ў першы раз.
І... як на ліха, якраз
Лямпачка перагарэла.

5

Горы лістоў навакол.
Аўтары ходзяць, як здані,
І кожны на кожны стол
З надзеяй трывожнаю гляне.

Патыліцу паскрабе,
Шугае ў кантору мігам:
Работы нястрымны разбег,
Яго ж марынуецца кніга.

Пакуль надрукуюць, затым
Пакуль і сфальцуюць і сшыюць —
Дум паэтычных уздым
У выдавецтве зломіць шыю.

Марыля чацвёрты дзень
Ужо ля качалкі, што дротам
Кнігі сшывае. Ідзе
Хутка і спорна работа.

Сягоння яна ўпершыню,
За працай, у гуле вытворчым,
Не заўважала, як дню
Цярушыцца вечар у вочы.

6

Змрочна і гулка. Подых завей
Клаўся на шыбы стынню.
Хмары, як зрэб'е, вецер рве.
Снег ад змроку сіні.

Выкрыкам сіплым змрок раскалоў
Белы, як лунь, газетчык.
Клопатам горада, як і было,
Вуліцы гнулі плечы.

На многалюдным шумлівым рагу,
Вокам яго не акінеш,—
Згубілася, і адшукаць не магу,
Марыля, мая гераіня.

Дарэчы — сягоння чацвер.
Гурток палітычны а пятай.
Напэўна, Марыля цяпер
Спяшаецца на заняткі.

Іду па Савецкай уніз.
Дзеці на санках і лыжах.
Ад сцюжы ў вітрынах агні
Калоцяцца водбліскам рыжым.

7

Дарэмна дарогай здагадкаў
Спакой сабе сэрца знайшло:

Учора ў гуртку на занятках
Марылі зусім не было.

А сёння чамусь за машынай
Густая шчаціна павек
Зліпаецца,
        і штохвіліну
Клоніцца сну чалавек.

Спачатку сябе намагала,
Затым і зусім не відно,
Што сёння Марыля не спала
Навылет цалюткую ноч.

Павел хварэе, а дома
За хворым каму даглядзець?
Учора ён страціў прытомнасць,
Не пазнаваў людзей.

У клопатах, у турботах
Мінула трывожная ноч.
Снагліцца жаданне адно —
Хутчэй бы закончыць работу!

8

За горадам верацяніцай
Будынкі сталічнай бальніцы.

І ноччу і ў холадзе дня
Трывожная цішыня.

Прыйшла з перадачай Марыля,
Марылю ў барак не пусцілі.

На сэрцы трывога імгліцца —
...Павал ляжаў у бальніцы.

9

— Нашу шэфскую нараду
Мы пачнем без лішніх слоў.
Набліжаюцца каляды,

Трэба вылучыць брыгаду
Для пасылкі на сяло.

Як вядома, сход фабрычны
Шэфства ўзяў над вёскай Пні.
Там мясцовасць — пагранічча,
А зрабілі што практычна?
Як ні сорам — а-ні-ні.

— У мяне,— Марыля просіць слова,—
Пра-па-но-ва:
Выбраць з нашага актыву
Трох таварышаў руплівых.
— Так,— дадаў клішар,— пры гэтым
Даць з сабой бібліятэку.

— Мы ў ячэйцы талкавалі
Пяць таварышаў паслаць.

Пагадзіліся і сталі
Кандыдатаў называць.
Час не доўга марнавалі,
Лепшых прозвішчы назвалі,
У тым ліку і Марылю
У брыгаду уключылі.

— У мяне нагрузкі досыць.
Хай другі...— Марыля просіць.
Просьбу гэту адхілілі.
— Ехаць прыйдзецца, Марыля!

..Ехаць нават і цікава,
Гэта праўда, толькі... Павал,
Іскры думак мільганулі
І пагаслі
ў дымным гуле.

**10**

Вецер
сваім беласнежным крылом
Пастукаў у шыбы палаты.

Паўлу здавалася, што пад акном
Яна, а не вецер крылаты.
Ён ведаў, што заўтра,
Ледзь зоймецца дзень,
Марыля у вёску паедзе.

. . . . . . . . .

Хай позна,
Марыля ў бальніцу ідзе
З надзеяй
Паўла ўгледзець.

. . . . . . . . .

* * *

Стаіць ля бальнічных варот,
Як ветрам нагнаны сумёт,
Хатка (былая капліца)
Вартаўніка бальніцы.

Марыля прыйшла. У жарыльні
Тлее малінавы прысак.
Просіць старожку Марыля
Да Паўла занесці запіску.

Старожка
бурчлівым скрогатам:
— Дню не хапае вам! Што гэта...

Марыля старожку прасіла,
Быць добрай і чулай прасіла.
Як родную маці прасіла,
Здароўя і шчасця жадала.

Марыля прасіла старожку,
Слязамі маліла старожку,
Марыля скарыла старожку,
Старожка запіску узяла.

## *Пралог*

Стромкая гара. Ля падножжа гары ледзяное поле. Вечарэе. Ідзе снег. Моладзь завода катаецца на санках, каньках. Паступова запальваюцца шматкаляровыя агні. Дзяўчаты закідваюць снежкамі Чыжа. З боку стаіць Радзецкі.

Чыж *(да дзяўчат).*

Эх, ідры-тваю качалку,
Сып, надбаў, давай закалку!

Дзяўчаты.

Бач, куражыцца. Няхай
Стане на калені.
Замарозім!

Васіліса.

Лепш давай
Прасі прабачэння.

Галька.

Раскажы нам, што майструеш,
Мы тады табе даруем.

Васіліса.

Ты сяброўствам даражы.

Дзяўчаты.

Раскажы нам, раскажы.

Чыж.

Расказаць? Ну, што ж, магу,
Тайны я не берагу:
Я працую над машынай,
Ўсё прадумана як след.
Ашчаслівіцца краіна,
Што краіна, цэлы свет
Адратую назаўсёды
Ад пакуты векавой,
Ад няшчасця, ад нягоды,
Ад людской пароды злой.

Дзяўчаты.

— Малайчына!
— Вось яна!
— Вось машына!
— Навіна!

Чыж.

А прызначан апарат
Справе нашай, роднай —
Каб... зрабіць усіх дзяўчат
На людзей падобных...

Дзяўчаты *(кідаюць у Чыжа снежкі, прыгаворваючы).*

Ах ты, чыжык... Ай-яй-яй...
Мудрае стварэнне.
Хоча жыць яшчэ,— няхай
Просіць прабачэння!
Сып, дзяўчаткі!

Чыж.

Пашкадуйце,
Больш не буду я, даруйце!

*(Уцякае, дзяўчаты гоняцца за ім. Васілісу затрымлівае Радзецкі.)*

Радзецкі.

Васіліса!

Васіліса.

Што?

Радзецкі.

Чакай!
Быць з табой хвілінку дай.
Я хачу, каб зразумела,
Зразумела ты мяне
І каб ласкава і смела
Паглядзела ў вочы мне.

Васіліса.

Мой харошы, ай-яй-я,
Песня гладкая твая.
А мая — не так багата,
Нават крышку сукавата:
Кінь сваю круціць катрынку,
Будзь прасцейшы, не... нудзі.

Радзецкі.

Васіліса, стой хвілінку,
Зразумей мяне, не йдзі.
Я сузор'ем шлях усею,
Зоры век не згаснуць, не.
Сэрцам чую,— зразумееш,
Зразумееш ты мяне.

Васіліса.

Я дзіўлюся, глянеш — сталы,
Малады, перадавы.
А калі такое стала,
Што ён стаў без галавы?
От, давай прасцей, як людзі,
Без такіх салодкіх слоў.
Хочаш, мы сябрамі будзем?
Ну, чаго ж ты раптам змоўк!

Радзецкі.

Чую я, што шчасце блізка,
Лепшых дзён не хочу знаць.
Васіліса, Васіліса,
Не магу я больш маўчаць.
Будзь жа чулай, прытуліся,
Сэрца я тваё малю.
Васіліса, Васіліса,
Я люблю цябе, люблю...

Прыходзіць Мішка Пачын у чырвонаармейскім шынялі, шлёме, за плячыма ранец. Ён не заўважае, як катаюцца на коньках Васіліса і Радзецкі.

М і ш к а.

Цішыня... Нікога не відно.
Будынка гэтага як быццам не было?
І часу не багата праплыло,
А ўсё змянілася... Яно
Здаецца, можа, мне?
Збудаваны. Раней не бачыў, не.
Ішлі дзянёчкі, год за годам...
Дзе ж людзі ўсе?.. Аднак...
*(Убачыў Васілісу і Радзецкага.)*
Таварышы, вы з гэтага завода?
Вечар добры.

В а с і л і с а і Р а д з е ц к і.

Добры вечар.

Р а д з е ц к і.

Та-ак...
Каго знаёмага шукаеце, ці як?

М і ш к а.

Ды я, сказаць вам, сам мясцовы.
Мне ўсё вакол здаецца новым.

В а с і л і с а *(пазнала Мішку)*.

Мішка, Мішанька, бадай
Цябе адразу й не пазнаеш.

М і ш к а.

Васіліса?.. Лісанька-лісічка?
Вырасла, хоць замуж аддавай.

В а с і л і с а.

Ой, Мішка, ты?

М і ш к а.

А можа, і не я, не знаю.

В а с і л і с а.

Расказвай, брат,
Расказвай, дзе быў,

Як змагаўся, што рабіў?
Знаёмся — наш — Радзецкі Ян,
Тэхнік, — значыць, практыкант

Вітаюцца.

Васіліса (*з жартам пяе*).

Вас пабіць, пабіць хацелі,
Вас пабіць стараліся.

Мішка.

Мы таксама не сядзелі,
Мы падрыхтаваліся.

Васіліса хапіла Мішку за рукі і коўзаецца з ім па лёдзе.

Радзецкі (*злосна ўбок*).

Мне праясняецца... Эх, людзі...
Ну, што ж, спявай, а плакаць будзеш.

Уваходзіць грамада моладзі: хто на лыжах, хто на коньках. Праляцелі з гары санкі. Грамада здзіўлена паглядае на Мішку, не пазнае яго.

Васіліса.

Чаго ж вы збіліся у клін?
Гэта ж Мішка, наш Пачын!

Галасы.

О, далёкаўсходні госць!
Здароў!
Як жыў?
Як маешся?
Здароў!
А вырас...
Дужым стаў.
Пахарашэў...
Кажы, як маешся?

Мішка.

А от... Як бачыце,
Акрэп і пасталеў.

Чыж.

Эх, качай тваю качалку,
Жыў-здароў, маё, Міхалка!
*(Працягвае руку. Вітаюцца )*

Мішка.

Малайчына, брат, гарыш...
*(Да ўсіх.)*
Добры вечар вам, сябры.
Што чутно ў вас? як завод?
Як жыццё?

Чыж.

На поўны ход!

Мішка.

Бачу, бачу...

Чыж.

І... няйначай.

Мішка.

Хлопцам вырас ты харошым.

Чыж.

Хлопец — во! — на самы большы!

* * *

Мост. Праходзяць Зарэмба і Крот.

Крот.

Кажуць... вас праверыць трэба.
Так і чуў: — пусціць пад гэбаль.

Зарэмба.

Кажуць, кажуць...
Хай гавораць.
Гутарка — што вецер.
А ярчэй пасля віхору

Сонца нам засвеціць.
(*Іранічна.*)
Сходы, мітынгі, нарады.

К р о т.

Кожны дзень!

З а р э м б а.

Рэйд, налёт, абход брыгады.

К р о т.

Кожны дзень!

З а р э м б а.

І фабкомы і парткомы.

К р о т.

Кожны дзень!

З а р э м б а.

Усе — ударнікі, вядома.

К р о т.

Кожны дзень!

З а р э м б а.

Самакрытыка да поту.

К р о т.

Кожны дзень!

З а р э м б а.

Вось і ўся яна работа.

К р о т.

Кожны дзень!

* * *

Снежная гара.

М і ш к а.

Як прыемна ўбачыць зноў
Свой завод, сваіх сяброў.

Б а з ы л ь.

Адказны час цяпер у нас,
Пара гарачая, Данбас
Прыслаў вялікі нам заказ.

Галька.

Рабочых скупа ў нас тым часам.

Мішка.

Дык значыць, я ў пару прыйшоў?

Васіліса.

Завод наш мусіць даць Данбасу
Стандартных тысячу дамоў.

Галасы *(як водгулле)*.

Стандартных... тысячу... дамоў...

Базыль.

Рэспублiцы патрэбен вугаль.
І пад зямлёй, ад зор да зор,
За зменай змена, ўдарным кругам,
Шахцёра зменьвае шахцёр.
Пасля напружнай цяжкай працы
Кватэра ўдарніка — барак.

Васіліса.

І мы, што сіл, павінны ўзяцца
Будынкі выслаць! Толькі так!

Галька.

Мы маем зрух!

Базыль.

Варушыцца работа!

Чыж.

Калі абед з кампотам...

Базыль.

Аднак пакуль парадкам
Турбот і перашкод.
Дарогаю нягладкай
Ідзе яшчэ завод.

Васіліса.

З сушылкаю пагана.

Галька.

Нямала перашкод.

Чыж.

Якія капітаны,
Такі і параход!

Прыбягае Стрэльбін.

Стрэльбін *(убачыўшы вясёлую грамаду, абурана)*.

Сабраліся, аллё... Час марудзіць?
Ноч, глядзіце, стукаецца ў грудзі.
Растрачваеце сілы?.. Раніцою
На работу позніцеся, — гер-ро-і...
*(Бачыць, што крыкам не ўздзейнічаеш, просіць.)*
Разыходзьцеся...

Галька *(жартам)*.

Максім,
Глядзі, я высахла зусім...

Васіліса.

І мне ты сэрца так параніў...

Стрэльбін.

Я... я... ні я... Даволі! Я пытанне
Аб вас пастаўлю на бюро!

Мішка.

Стрэльбін, што з табой? Здароў!

Стрэльбін *(угледаецца)*.

Аллё... у парадку спрэчак — госць!

Галька.

Максімка, зжалься, сэрца ў ранах...

Стрэльбін.

Ну, як пчала на мёд...

*(Расказвае Мішку.)*

Удар-ні-кі, аллё,
А не хвалюе іх праблема прамфінплана.
За працай — вохкаюць,
А як гуляць — гарой!
Пытанне я пастаўлю на бюро.

Ідучы з палявання, падыходзіць Клім, чуе скаргу Стрэльбіна.

Клім.

Адразу й на бюро? Няйначай?
А справа важная? Каго?

Стрэльбін.

Таварыш Клім, я знаю, я гарачы,
Але я ўсіх, усіх да аднаго.

Мішка.

Добры вечар, з баявой пашанай!

Клім.

А... маё, вітаю. Госць жаданы.
Зусім?

Мішка.

Але.

Клім.

Вітаю, брат, вітаю.
Работы ў нас...

Мішка.

Расказвалі, я знаю.
І вы баец, са стрэльбаю...

Клім.

Парой —
Люблю ў ляску са стрэльбай патаптацца.
Успомніш, як з вінтоўкай баявой
Даводзілася мне пасябравацца.
І дзень і ноч, бывала, так гады, —
Вінтоўка з рук не сходзіла ніколі.

Хадзілі ў бой за сёлы, гарады,
Я з ёй не разлучаўся і ў падполлі.
Мы гналі ворага, вяла нас песня ў бой,
Гучала водгулле: «У камуне астаноўка!»
Мы гналі ворага навалай штурмавой,
І неразлучная — ў руках твая вінтоўка.
І вось цяпер, каб не адвыкла вока,
Часамі ў свой выходны дзень
Іду ў лясок, знайду сабе мішэнь
І, як калісь,— у лоб на 300 крокаў.

Галасы *(здзіўлена)*.

У лоб — на 300!
Вось страляе!..

Клім.

Бывае,
Часам зайчыка прыдбаю.

Стрэльбін.

Я на бюро!.. Аллё, браточкі,
Даволі, хопіць, заўтра ж дзень рабочы.
За нас ніхто не будзе працаваць.

Мішка.

Працаваць — умова важная, вядома,
Але й на лыжах часам маладому...

Стрэльбін.

Я... на бюро!

Клім.

Чакай, якраз наадварот,—
Гуляць павінен ты, расці павінен дужым,
Байцом гартованым, як сталь, павінен быць.

Васіліса.

Само нек па сабе,
А выйшаў мітынг дружбы.

Галасы.

Мітынг дружбы,
Росту,
Барацьбы!

Усе *(пяюць)*.

Здымем адвечную цвіль,
Здымем вякоў павуціну.
Поступам нашым нястрымным
Новыя тысячы міль
Браць мы штодзённа павінны,
За шчасце людское выходзім мы біцца —
У бой
        Грамадой,
                Маладой,
                        Бальшавіцкай!
Хто ў нашы дні перамог
Поступу нашаму шкодзіць,—
Бурным разлівам разводдзя
Змыем мы з нашых дарог
У нашым вялікім паходзе.
За шчасце людское выходзім мы біцца —
У бой
        Грамадой,
                Маладой,
                        Бальшавіцкай!
Гукнем наступнаму дню —
З гонарам на рыштаваннях:
Наша жыццё, што ўсход світання,
Яго веснавому разліву-агню —
Слава і песні змагання.
За шчасце людское выходзім мы біцца —
У бой
        Грамадой,
                Маладой,
                        Бальшавіцкай!

## АКТ ПЕРШЫ

### *Дзея I*

Кватэра бракёра Зарэмбы. Зарэмба і Кандраль п'юць чай. Пыхціць самавар. Ля камоды сядзіць жонка Зарэмбы — Юзэфа, разглядае віды-паштоўкі.

Зарэмба.

Яшчэ, яшчэ, швагруська, налівай.

Кандраль.

Ды ўжо ж, чаго-чаго, а ёсць вады.

Зарэмба.

Фруктовы толькі чай.

Кандраль.

Такой бяды.

Шклянка трэскаецца.

Трэснула... ну, й шкло пайшло.
Ці ж гэткае раней у нас было?

Зарэмба.

Ды гэта брак, адкід, а не тавар.

Кандраль.

Які тавар, такі і гаспадар.
Крута...

Зарэмба.

Воблаю падкормліваюць гуту...
Гэ, Кандраль, з вялікага палёту
Нізка сядуць...

Кандраль.

Бітымі ў балота.

Зарэмба.

Ведама, дзе ж дзенуцца?

Кандраль.

І скора.

Юзэфа (*разглядваючы паштоўку*).

А во — Берлін. Вось гэта горад!
Мужчыны, гляньце, тут пажыць —
За дзень і год аддаць не шкода.

Зарэмба.

О-го, і год...

Кандраль.

Ну, што там, пакажы?
*(Падыходзіць да Юзэфы, разглядае паштоўку.)*

Юзэфа (*да Кандраля*).

А колькі тут жыццёвай асалоды!..
Яно хоць крышку тут пабыць.

Зарэмба.

Пабудзеш, дзе-небудзь пабудзеш.

Кандраль.

Маліся, выпрасі канчыну галыцьбы,
Маліся — зноў
Пад богам будуць людзі.

Зарэмба.

Маліцца, ведама...
Але адной мальбой
Не справіцца з бязбожнай галыцьбой.
А сціхам трэба, мірна і з падходцам,
Узяць к сабе, бліжэй, вось гэтак, хлопцаў.

Кандраль (*мацае самавар*).

Халодны ўжо...

Зарэмба.

Астыў? Юзэфа, падагрэй.

Мы зробім... з гнілак і фанеры,
Каб неўстаяў адной зімы.
Раз — хата дрэнь, раз — вецер шорыць,
Дык менш вугля дадуць шахцёры.
А менш вугля — дык з кожным годам
Усё больш зачыніцца заводаў.
Заводаў зменшыцца — затое
Пачнецца болей беспрацоўе.
Ці ж мы нячулыя з табой?
Пілі сучкі, Кандраль,
Падпільвай прамфінпланы.

Кандраль.

А галава ў цябе разумная, што ў пана.
Галовы гэткія бывалі да вайны.
Разумна кажаш... Сукіны сыны,
Не дзецца ім нідзе, не дзецца ад труны.

Зарэмба.

Не трэба змовы, не, не трэба,
Я сам сабе, а ты сабе...

Кандраль.

З божай ласкаю як-небудзь
Іх... з зямелькі саскрабем.

Зарэмба.

Баяцца, што? — Наадварот!
Цяпер рабочых недахоп.
А сціхам, мірна і з падходцам
Падлівай у сэрца воцту.
Змоў не трэба, не, не трэба —
Ты сабе, а я сабе.

Кандраль.

Сведкай будзе толькі неба
У гэтай нашай барацьбе.

Юзэфа прыносіць самавар, следам уваходзіць Крот.

Крот *(страсае снег, расціpae вуха).*

У-ух жа скруха-завіруха...
Мабыць, вымаразіў вуха.
Добры дзень.

Кандраль.

А ўжо ж, нішто.

Юзэфа.

Распранайце паліто.

Зарэмба.

Прашу... Мірон Саўкавіч Крот.

Крот.

Не Мірон жа я, а Нэррон,
І не Саўкавіч, а Саулавіч,
І не Крот-тэ-тэ, а Крод-дэ-дэ:
На заводзе старшы справавод,
Нэррон Саулавіч Крод-д.

Юзэфа *(углядаецца ў акно).*

А снег ідзе, ой... сыпле.

Зарэмба.

Гарбаты шкляначку выпі.

Юзэфа.

Грэйцеся.

*(Паказвае на вуліцу.)*

А круціць заўзята.

Крот.

Дзякую.

Юзэфа падае цукар.

Далікатна.

Зарэмба.

Паспееце дзякаваць.

М і к о л к а.

Ты не дуры...
Вымай свой кіцель.

К л ы ч *(дастае запалкі).*

Магу ўдружыць вам аганьком...

К а н д р а л ь.

Дый ці ж я вам распрадзяліцель?
Няхай махоркі дасць заўком.
Вы што, працуеце? Агулам
Сацыялізм прыйшлі рабіць?
Няхай бы ўласць пра вас пачула
І вам прыслала закурыць.
Пакуль там тая пяцілетка —
У галаштанніцу абернецца народ.

М і к о л к а.

Не загаворвай, на газетку.

К л ы ч *(бярэ газету).*

Дымок падпусцім пад... завод!

Рвуць газету на роўныя кавалкі. Кандраль дае тытунь. Закурваюць.

К а н д р а л ь *(задуменна).*

Жыццё падмочана...

М і к о л к а.

Тым часам,
А ў нас там плодзяцца калгасы...

К а н д р а л ь.

Дый не! Не з гэткіх я! Ой, не!
Мяне калгасам не кране.
Глядзі, густы ўсплывае дым,
Увысь, увысь, глядзі, — ўсплывае.
Але... як і туман
Над поплавам заўжды —
Узнімецца, затым і асядае.
Вось гэтак і жыццё,

І край,
І наша ўласць —
Ішла ўгару,
Цяпер садзіцца ў гразь.

Міколка (*выпусціўшы дым цыгаркі*).

Клубком пайшоў, а ніцам,
Рассыпаўшыся, — во —
Садзіцца, — во — садзіцца...

Кандраль.

Куды б жыццё ні йшло,
Яно к магіле прыйдзе.

Уваходзіць Мішка.

Мішка.

Добры дзень, таварышы.

Галасы.

Дабрыдзень.

Мішка.

Як бачу, курыце?

Міколка.

У зацяжку...

1-ы сезоннік.

Перадышка ў працы цяжкай.

Клыч.

А-а... дзень добры, шматтыражка...

Мішка.

Закурыць — не ёсць памылка,
Але ў свой час.

Клыч.

З вусамі самі...

Кандраль.

Былі, бывала, чышчаныя жылкі,
Тады й закурвалі часамі.
А цяпер...

Міколка.

Рады ў гады...

1-ы сезоннік.

Зацягнем самасею.

Клыч.

Што ж, пацерпім...

Кандраль.

Ад бяды
Курыць навучылася Расея.

Клыч.

Дзе ж набрацца ўсім?

Міколка.

Не дзіва.

Кандраль.

А народ мы церпялівы.

Мішка *(да Кандраля).*

Барада, ты хітра гнеш,
Другое ў розуме трымаеш.

Кандраль.

Не гну і не ганю... А мне
Не закурыць — радзіны праклінаю.

Мішка.

Не за-ку-рыць!.. Куры!
Ці ж не стае махры?

Міколка.

Зусім няма ў нас.

Мішка.

Як?

Галасы.

Няма.
Уг-га...
Даўно не выдавалі.
Дзярмо жыццё!

Клыч.

Чарней дзярма!

Мішка.

Як бабы, от, засакаталі.
Мне ясна ўсё... Братва,
Ці ж на плячах у вас не галава?
Ці ж кожны з вас малы?..
Вы гляньце — там працуюць, як валы!
Эх, вы, работнічкі, сычом
Сакочаце — махры няма, што куры.

Кандраль.

Брацця, звярні яму
Махры, няхай закурыць.

Клыч.

Магу ўдружыць вам... аганьком!

Мішка.

Не забывайцеся!.. за працу!

Кандраль.

Не пужай!

Клыч.

Таварышу рэдактару — з рабкораўскім
прыветам!

Мішка.

За працу, хлопцы! Што ж, давай, давай.
З прарываў ганьба нам не вылезці дагэтуль.

Кандраль

Бывала, помню, да вайны,
Нас не ганялі так паны.
А цяпер —
І шкоднік-інжынер
Зрабіўся камісарам.

Мішка.

Барада, не дарам
Ты, як звер,
Чакаеш нашай згубы.
Ой, глядзі, паломіш зубы...

*(Выходзіць.)*

* * *

Мост. Прыходзяць дырэктар завода, сакратар парткалектыву і інжынер. Унізе працуюць сезоннікі.

Дырэктар.

Расцём, Аркадзі Карлавіч, расцём.

*(Паказвае на груды лесу.)*

Адгэтуль мы харчуемся сырцом.
Па берагу — запасы нашы, склад.

Клім.

І тут прарывы.

Дырэктар.

Спосаб працы просты.

Інжынер.

Я раю вам паставіць самакат,
Механізацыя — найлепшы сродак росту.

Клім.

Покуль самакат — прарывы заядуць.

Інжынер.

Я пацікаўлюся... Знайду.
Праз дэкаду канчаткова

Дам праект перабудовы.
Зверым разам і... затым,
Дазволіце? — Аддам
І вопыт свой і ўздым.

Д ы р э к т а р.

Для працы вам — прастор і ўмовы.
Але сумленна, шчыра!

І н ж ы н е р.

Шчыра!

К л і м.

І абавязкова
Прыслухоўвацца к рабочым прапановам.

*(Сыходзяць уніз.)*

К а н д р а л ь.

Чалом дарэктару, чалом.

Г а л а с ы.

Мы скардзіцца дарэктару ідом.
Адданасць мы дарэктару нясом:
Чалом дарэктару...

К а н д р а л ь.

Пакораю гнем плечы.

Д ы р э к т а р.

Што за спектакль сярэднявечча?

К л і м.

Што вы? Што вы? Людзі ці скаты,
Манера шкодная. З падрывам, што краты.

К а н д р а л ь.

Кірыл Антонавіч, і вы, таварыш Клім,
Адданасць выказаць прыйшлі.

К л ы ч.

Вітаць арцеллю нашай рады
Насіцеляў савецкае улады.

К л і м *(злосна).*

Пашто спектакль развялі?

К а н д р а л ь.

Звярнуць увагу хочам.
Далі валёнкі нам? Далі.
Забыліся падшыць. А мы іх топчам.
Мы ж не па небу ходзім, па зямлі.
І працы больш таварышам рабочым.
Былі б падшытыя, трымаліся б даўжэй.

Д ы р э к т а р.

Вы што надумалі?

К а н д р а л ь.

Таварышы, вядома,
Не гладка мы жывём...

К л ы ч.

Ей-ей,
Бакі мазоліць сцёртая салома...

Г а л а с ы.

Курыць няма чаго!
Разлезліся калені!
За працай, як валы!

К а н д р а л ь.

А мы народ сумленны...

Д ы р э к т а р.

Не разумею...

К л і м.

Што гэта?

Д ы р э к т а р.

Падход з цікавым скрогатам.

З гулам абрываецца трос на пад'ёмным кране.

І н ж ы н е р.

Абрыў?

Дырэктар.

Аварыя?

Галасы.

Аварыя!
Бяда!

Інжынер з дырэктарам і Клімам падыходзяць да месца аварыі, за імі маўклівай сцяной сезоннікі. Чуцен голас Ліпы, што палошча бялізну. Яе крык парушае цішыню.

Ліпа.

А ліханька... Я трусікі згубіла...

Інжынер.

Ясна. Недагляд.
Заблытаны ланцуг —
Загарадзіў дарогу валіку й зубцу.

Дырэктар.

Ці толькі недагляд?

Клім.

Жартуеце з агнём!

Кандраль.

З агнём? А дзе ён, у каго?
У грудзях у нашых,
Зморaных, рабочых.
*(Паказвае на сезоннікаў.)*
Вось — агонь, жывы, людскі агонь.
А вы? Мы знаем вас...
Відаць, на што ахвочы.
Завод апушчаны. Усё ідзе на спад.
Пад'ёмнік кокнуў.
Грызе прарыў іржавы.
Так вучыць партыя? Наўрад.
Калініну напішам мы заяву.
На шыю сесці не дадом.

Дырэктар.

О-го, вучоная лісіца.
Нашпігованы не нашынскім душком.

К л ы ч.

Не пушчу на карак мне садзіцца!

Д ы р э к т а р.

А карак твой — нішто, адкормлены, ўтрымае.
На сходзе пагаворым мы.

К л ы ч.

Пужаеш?

І н ж ы н е р.

Заблакаваўшы трос, —
І стане кран прыгодны,
Зубцы ў ланцуг узяць.

К а н д р а л ь.

Шкоднік!
Во каму прастор і шыр.

К л і м.

Кандраль, Кандраль, не дзебашыр.

К а н д р а л ь.

Прыгон?

К л і м.

Што-о? *(Да сезоннікаў.)*
Вы чуеце? Кандраль прыгон угледзеў.
Чаму ж вы маўчыцё?.. Прыгон...
Мы на каго працуем, на каго?
Хто гвалтам змушаны? Кажы!
Хто на памешчыка жыццё сваё кладзе?
Кажы, расказвай, дзе ён? Пакажы.
Прыгон угледзеў? Дзе, паказвай, дзе?

Дырэктар узяў багор, пачаў падкатваць бервяно, да яго паступова далучаюцца сезоннікі.

А ў непарадку што, нядбайнасць ці злачынак,
У газету дай, вынось на сход.
Пільнуй, глядзі і ведай штохвіліну:
Ты — гаспадар, бо гэта твой завод.

Міколка.

А вось, скажыце вы, таварыш Клім,
Калі збудуем мы жыццё, якое хочам,
Тады, скажыце вы, ці можна будзе ўсім
Жыць сабе, ці толькі для рабочых?

Клыч.

Усім гурбой,
І нам з табой...

Клім.

Правільна, няясна што, спытай.

Дырэктар.

Давай, давай, давай!

Бяруцца за работу нават Кандраль і Клыч.

Клім.

Галоўнае, каб не зрываць работ,
А што няясна — вынесем на сход!

*(Уключаецца ў работу.)*

Прыбягае Ліпа.

Ліпа.

От жа ліха, ля маста
Я бялізну паласкала —
Раптам трусікаў не стала.

Клыч.

А спадніцы не згубіла?

1-ы сезоннік.

Божа, што ж ты нарабіла!

Кандраль *(да сезоннікаў).*

Націскай, не лопнуць жылы!

Клім

Эх, падкулачная лісіца,
Глядзі, дзе здарыцца садзіцца?

Л і п а.

Хлопцы, мілыя,
А трусікі згубіла я.

### *Дзея IV*

Вечарэе. На снежным сумёце Васіліса і Радзецкі.

Радзецкі.

Сонца нізка, вечар блізка.
Васіліса, Васіліса,
Мы з табой заўжды ўдваіх,
Мы вышэй, вышэй за ўсіх!

Васіліса.

А пакуль з тваіх высот
Пабягу, пайду на сход.
І не ўдвох, а з калектывам...

Радзецкі.

Ліквідацыя прар-рываў?
Васіліса!

Васіліса.

Ян!

Радзецкі.

Кахаю!
Ты — мая! А я?

Васіліса *(жартам)*

Не знаю.

Радзецкі.

Васіліса, мой герой!

Васіліса.

Хай зайздросцяць нам з табой!

Цалуюцца, не заўважаючы іх, уваходзяць Мішка і Галька.

Мішка.

Зіма. Зіма прыйшла.
Гэткае, здаецца, й не было...

Галька.

А снегу колькі намяло...

Мішка.

Такой бяды!
Пашто нам халады,
Калі гарачая бруіцца
Кроў у нас з табой, арліца.

*(Абдымаюцца.)*

Прыбягае Стрэльбін, запыхаўшыся. Насустрач яму Ліпа. Сутыкаюцца.

Ліпа.

Знайшла я трусікі, знайшла,
Саколік мой...

Стрэльбін.

Сыйдзі, смала.
Спяшаюся на сход!

Ліпа.

Мой саколік, лёс — шчаслівы!

Прыбягае Чыж. Бачыць, — пара адна, другая, трэцяя.

Чыж *(схапіўшыся за галаву)*.

Во, ідры-тваю качалку,
Ліквідацыя прарываў!

## АКТ ДРУГІ

### *Дзея V*

Заводскі двор. Ідуць Клім і інжынер.

Інжынер.

І вось, пачуць мне хочацца адказ...

Клім.

Прычын, каб хныкаць, тугой сябе марыць,
Не бачу я, наадварот якраз.
Цяпер, Аркадзі Карлавіч, тварыць
Прастор шырокі, ўдзячная пара.
І вам мая найлепшая парада —
Працаваць з адкрытаю душой.

Інжынер.

Ўсё так...
Аднак і камсамол аградай
Аддзяліўся ў падазронасці глухой.
Люблю я працаваць, таварыш Клім,
А ўсё ж, калі табе штодзённа...

Клім.

Ад вас залежыць. І думаю адным —
Работай шчырай — зніпчыць падазронасць
Аркадзі Карлавіч, а ваш мінулы шлях?

Інжынер.

Ну, чым давесці вам,
Што тут я не за страх
І не прыгонам?

Клім.

Але мінулае — яно вядома ўсім.
Дзівіць вас не павінна падазронасць.
І шлях у вас — не шчырасці прасіць —
Яе заваяваць павінны працай плённай.
Настарожлівасць здаровая зусім,
Вы разумееце...

Інжынер.

Я разумею вас, таварыш Клім...
*(Некалькі крокаў праходзіць моўчкі.)*
Я... задаволены. Таварыш Клім, —
Былое пахаваў я без мучэнняў.
Я пахаваў сябе, ўсё згінула маё —
І я святкую ўласнае, сваё —
Другое нараджэнне.

*(Ціха і задумлёна.)*

А маці новая
Ці прыме з ласкай сына?..

Клім.

Настарожлівасць
Дзівіць вас не павінна.

Чуецца рабочая песня. Клім і інжынер накіроўваюцца ў той бок, адкуль усё гучней і гучней даносіцца песня.

* * *

Працуюць камсамольцы, сезоннікі. На грудзе лесу сядзіць бракёр Зарэмба. На вышцы рамантуюць пад'ёмны кран Мішка і Чыж.

Грамада *(за працай)*.

Гэй жа, разам,
Гэй жа, разам,
Гэй, адразу,
Возьмем разам!
Гуртам, дружна,
Хлопцы, здужым!
Гэй,—
    Яшчэ,
    Яшчэ,
    Яшчэ!
Будзе сонца ззяць ярчэй!
Што ні стане
У час рабочы, —
У нас і камень
Зарагоча.
Гэй, адважна!
Усё — для нас!
Дай, наляжам,
Дружна!
... Раз!

Чыж.

Тысячу, хлопцы, тысячу —
Выпіліць, выстругаць, высечы.

Міколка.

Гаратлівасці былой
Час пазбыцца нам.
Забудуем шыр балот
Камяніцамі...

Уваходзяць Клім і інжынер.

Клім.

Што добрага чуваць?
Ці хутка пойдзе кран?

Мішка.

Чыжова галава —
Не галава... дзяржплан.

Клім.

Без жартаў, хлопцы, як работа?

Чыж *(тлумачыць)*.

На тры нарэзы быў зубец,
Абхват — чатыры абароты.
Я даў чацвёрты, і... канец,
Цяпер паскорыцца работа.

Клім.

Вось яна, рабочая смякалка!

Уключаецца ў работу, інжынер падымаецца на вышку да Чыжа.

Базыль *(паказваючы на сукатае бервяно)*.

Бракёр, такое дрэва на кавалкі
Парве адразу нашу снасць.

Зарэмба *(добра не разгледзеўшы)*.

Гэткі сук валюту дасць,
Падавай!

Уваходзіць Радзецкі.

Чыж.

А вось і ён:
Наша вам, маладажон!

Мішка.

Супакойся, Эдысон!

Чыж.

Бубні-звон,
Зманіў жа ён
Васілісу ў свой палон.

Стрэльбін.

Ёсць у нас на гэты конт...

Клыч.

Стаў на кон, маладажон!

Стрэльбін.

Прынялі мы пастанову.

Уваходзіць дырэктар.

Дырэктар

Штурмуеце? Ударнікам вітанне!

Чыж.

Штурмуем, — хто прарыў,
А хто каханне.

Базыль.

Лес, Кірыл Антонавіч, струной —
Бервяно
Адно ў адно!

Дырэктар

І праца нашая — ў адно!

Мішка.

І мы працуем за адно!

Клім.

І вернае трымаеш ты стырно!

* * *

Мост. Інжынер адзін.

Інжынер.

Маці новая
Ці прыме з ласкай сына?
Ці зможа ён расці, гарэць, тварыць?

Падыходзіць Зарэмба.

Зарэмба.

Не вясёл сакол, журботны штось. Прычына?
Хе-хе, прычына ясная. Нялёгка зараз жыць.
Харчоў нястача. Рыбка-саланіна.
Аркадзі Карлавіч, зайшлі б чайку папіць
Ці з-пад кароўкі кубак малачка.
Сябрамі будзем, захаджвайце, прашу.

Інжынер.

Я не галодны, і я не ў жабраках.

Зарэмба.

Не ў жабраках? Навошта гэткі шум?

*(Уздыхнуўшы.)*

Адзінок-сынок, а ўсе сакочуць — вораг,
Шкоднік — во ён, экстраны паказ.
Ой, шмат, Аркадзі Карлавіч, гавораць.

*(Пауза.)*

Ці ж вы супроць мяне, а я супроціў вас?
Часамі парася засмажам на абед.
Сямейны ж я, вам добра будзе з намі.
А ўжо вядома, — вы сабе, а я сабе,
Адны мазгамі, іншыя рукамі.
Закурым? Калі ласка.

Інжынер.

Я сваю.

*(Закурвае папяросу.)*

Зарэмба.

Э... вочы ў вас запалі штось глыбока.
Заходзь, баяцца што?
Ці ж людзі чаю ўжо не п'юць?
У хаце цішыня... і ні чужога вока.

Інжынер.

Вы памыліліся, шаноўны грамадзянін,
Вы па старому адрасу, а там мяне няма.
*(Сам сабе.)*
Сцежка роўная, хаця яшчэ ў тумане...
Ці прыме сына новага?

Зарэмба.

Дарма,
Аркадзі Карлавіч, няясна штось гаворыш,
Зайшлі б чайку з малінаю, вы хворы...

Паяўляецца Акуліна, убачыўшы іх, ківае галавой.

Акуліна.

Там... ударная брыгада,
Тут — ударная... нарада.
*(Пайшла.)*

Зарэмба.

Вось бачыце?

Інжынер.

Я... разумею!
*(Шпарка пайшоў услед за Акулінай.)*

Зарэмба.

А я — ніяк не разумею,
Ў жыцці заўсёды гэтак, мусіць:
Інцелегенцыю так лёгка не раскусіш.

* * *

Каля пад'ёмнага крана.

Базыль.

На заводзе — пералом,
Заданне перакрыем.

Мішка.

Па-ваеннаму бяром
Шляхі перадавыя!

Чыж.

Каб сусветны ўзяць рэкорд —
Трэ' цярплівасць і напор!

Базыль.

Напор — аснова ў пераломе.

Чыж.

Пераломім і дагонім!

Мішка.

А дагнаўшы, перагонім!

Чыж.

Перагнаўшы, шыю зломім
Чэрчылю, Амаль-Пашы,
За Пілсудскім — Чан-кай-шы,
Макданальду, П'ер-Дзюрэ,
Чэмберлену, Пункарэ...

Стрэльбін (*просіць не адрывацца ад працы*).

Хлопцы, досыць...

Зарэмба (*да Базыля*).

Паглядай,
Што ж ты брак пускаеш?
Адкідай назад, кідай!

Галька.

Гэта брак? Тады... з адчаю
Ўвесь адкінуць трэба сплаў.

Базыль.

Відаць, са сну не разабраў.

Інжынер.

Што такое?

Базыль.

Брак прызнаў!

Усе глянулі на інжынера.

Інжынер.

Для работы — годны краж.

Зарэмба, развёўшы рукамі, адыходзіць. Работа набірае тэмп. Зарэмба праходзіць ля грамады, глядзіць за кожным бервяном.

Мішка.

Весялей на сэрцы стане,
Як цалком здадзім заданне!

Акуліна.

І шахцёраў мы запросім
На ўрачыстасць к нам у госці!

Мішка.

'Шчэ не больш адной хвіліны —
Запрацуе і машына.

Стрэльбін *(за ім астатнія)*.

Гэй жа, разам,
Гэй жа, разам,
Гэй, адразу —
Возьмем разам!
Руш адважна!
Ўсё для нас!
Давай наляжам!
Дружна!
...Раз!

Чыж уключыў рубільнік, загудзеў матор крана. Закіпела работа. Агульнае ажыўленне.

## *Дзея VI*

Пакой Радзецкага. Васіліса ляжыць на канапе, аблажыўшыся падушкамі, чытае кнігу.

Васіліса.

Дванаццаць, дванаццаць дзён.
Дванаццаць, дванаццаць начэй.

Здаецца парой, гэта сон,
Светлы і радасны сон.

*(Схамянуўшыся.)*

Эх, не тужы, весялей!
Не трэба нудзіцца і каяцца,
Іграй на вясёлай струне,
У гультайстве і думкі гультаяцца,
А добра, так хораша мне!
Дванаццаць сумесных дзён.
Сёння — трынаццаты дзень,
Звычайна не позніцца ён.
Відаць, затрымаўся...

*(Чуе за дзвярыма крокі.)*

Ідзе.

Становіцца ля дзвярэй — рыхтуецца напужаць мужа. Адчыняюцца дзверы. Васіліса закудахтала, убачыўшы, што ўваходзіць не Радзецкі, а з клункам у руках Л і п а, збянтэжылася, адышла ўбок.

Л і п а.

Гэта ж пеўня сустракала,
І глядзі, не ўшанцавала.
Тут як тут — са скрыпам, рыпам.

В а с і л і с а *(весела)*.

Певунок?

Л і п а.

Ды што вы, Ліпа.
Пеўнем век свой не была я.

В а с і л і с а *(жартам)*.

Не была?.. А хто ж такая?

Л і п а.

Ліпа — я, а хто ж я — Ліпа...
Шчасцем хай цябе засыпле
Улюбёны твой вучоны,
Маладым, здаровым плёнам,
Каб дурэлі на двары
Карагоды дзетвары —
І ўсе — прафесары...

Васіліса.

Ну, чаго ж ты, Ліпка, хочаш?
Зараз муж падыдзе, ён —
Стрэне тут чужыя вочы.

Ліпа.

Загудзіць, як авадзён?
Эт жа! *(Дае бялізну.)*
Зверце, як адна —
Не бялізна — белізна.

Васіліса лічыць бялізну. Уздыхнула.

Ліпа.

Уздыхаеш? Не сумуй,
Будзь ласкавая к свайму, —
Будзе хлеб табе й яму.
А што гэту пяцігодку
Адштурмуюць, не ўнывай.
Век дзяўчыны — век кароткі:
Пераспееш — што ўдава.

Васіліса *(дастае з камоды грошы, дае Ліпе).*

Ліпа *(лічыць уважліва).*

Не стае яшчэ рубля,
На, глядзі.

Васіліса.

Аддам пасля.

Ліпа.

Пацярплю
І па рублю.

*(Успомніўшы.)*

Што ў мазгу мне замуціла?
Гэта ж я сказаць хачу,—
Белізну тваю мачыла,
Бачу... трусікі згубіла.
Страх праняў, як закрычу!..

Васіліса *(трывожна).*

Не знайшла?

Ліпа.

Знайшла, чын-чынам,
Як жа так, ці ж я мужчына?

*(Падыходзіць да камоды, паказвае іх. Затым, склаўшы акуратна, кладзе зверху.)*

Васіліса.

Добра, дзякую. Заходзь.

Ліпа.

Быццам я і не зайду.
Запрашаеш... Мой заход
Будзе часты, ў сераду,
Не бядуй, па доўг зайду.

Васіліса.

Ідзі ўжо, йдзі.

Ліпа.

Іду ўжо, йду.

*(Выходзіць.)*

Васіліса *(ставіць на стол).*

Надакучыла чакаць,
Дзе ён? Доўга так...

*(Паглядае ў акно.)*

Змушае
Турбавацца, выглядаць.
Завіруха, сцюжа злая...

*(Ходзіць па пакоі.)*

Эх, хутчэй прыйшла б вясна.

Уваходзіць Радзецкі.

Ах, Яня, ты? Так доўга...

Радзецкі.

На!

Яна кідаецца да яго, ён адштурхоўвае, даючы заводскую газету-шматтыражку.

Васіліса.

Што такое? Што з табой?
Што? Чаму такі настрой?

Радзецкі.

Пракляну той дзень, той год,
Калі прыйшоў я на завод.
Хуліганы, хуліганы!

Васіліса, разгарнуўшы газету, убачыла шарж на Радзецкага, весела засмяялася.

Смешна? Шайка ў вас адна.

Васіліса.

Што ты, Яня, ты ж не п'яны.
Так не скажуць і сп'яна.
Страх які — пра-ма-ля-ва-лі...
Гэта — шарж. Махні, змаўчы.

Радзецкі.

Праз цябе ўсё... Бачыш, кралю
З калектыву, гвалт! укралі...

Васіліса.

Кінь, ды гэта, мабыць, Чыж.
Ён штукар. Падумаць, гэтак
Хваляваць нутро сваё.

Радзецкі.

Кінуць — кіну. Лепш па свету!
Ты — праціўна мне... Адзьё.

Васіліса.

Сцішся, мне незразумела,
Хто павінен больш крычаць —
Ты ці я?

Радзецкі.

Ты надаела,
Не хачу цябе я знаць.
Прападаць не буду, чуеш?

Васіліса.

Не крычы ў канцы канцоў!

Радзецкі.

На-да-е-ла! Не хачу я,
Развядуся. Чуеш? Чуеш?

Васіліса.

На-да-е-ла? Вось як? Кроў
Атруціў маю дзявочу,
Зганьбаваў, зманіў, цяпер —
Надаела? Больш не хочаш?

Радзецкі.

Сціхні, чуеш?

Васіліса.

Злыдзень, звер!
Што, няпраўда? Не скалечыў?
Сорам глянуць мне на свет.

Радзецкі.

Ціха, сытая авечка.

Васіліса.

Як аслепла... Людаед!

Радзецкі.

Знаць магла, што жыць не будзем.
Ты, як п'яўка, ўлезла ў грудзі...

Васіліса *(істэрычна)*.

Злодзей. Гад. Аддай. Назад.
Мне. Жыццё. Скаціна. Гад.

Радзецкі замахваецца на Васілісу, яна, баронячыся, падае на канапу, крычыць: «Не дарую»... Радзецкі бярэ чамадан, складае свае рэчы, злосна глянуў на Васілісу і з чамаданам выйшаў за дзверы. Васіліса плача. Неўзабаве ўваходзіць Мер'ема.

Мер'ема.

Хто галубіцца, той і чубіцца.
Добры вечар у хату... Заўжды,
Лёгка знойдзецца — лёгка згубіцца,
Каб жа толькі тае бяды.
Васіліса, трывай, век нязмераны.
Ўсё здараецца. Не гаруй.
Вытры слёзы свае,— слёзы шэрыя.
Ты гаруеш па шчасцю-дабру.
Перанесла я гора-горкае,
Праклінала сябе і дзяцей...
Будзеш ты яшчэ яснай зоркай,
Будзе добра ўсё. Весялей.
Сорак тры гады працавала я —
На заводах, была і ў паноў,
А саветы прыйшлі — небывалыя,
Ад іх пенсію атрымала я
За работу, за сорак гадоў.

Васіліса.

Пашкадуй мяне, назусім,
Дарагая Мер'ема, павер,
Назусім разлучылася з ім.
Што рабіць? Ашукаў, абакраў.
Дарагая Мер'ема, як звер,
Знясла́віў, гразёй закідаў.
Сорам глянуць цяпер на людзей,
Дарагая Мер'ема, сорам.
Мне цяжка, ой, цяжка.

Мер'ема.

Развей
І сорам, і крыўду, і гора.

Васіліса.

Куды мне, куды мне пайсці?

Мер'ема.

Мне ўжо і шэсцьдзесят скора.
Цярпела нямала ў жыцці,
Нямала цярпела гаворак.
Ставала турботы, клапот,
Аднак жа няхай я сівею,
Бывала, зайдуся ў завод —
Нейкай палёгкай павее.
Завод наш, дачушка, за-авод.
Работы — каб толькі сілы!
Людзей не стае... На звод
Стома усіх падкасіла.
Гляну на сына — кіпіць
І ночы і дні на заводзе...
Надумала,— век табе жыць,—
Быць мне на пенсіі годзе.
Крапля часамі і камень праб'е,
Патроху, патроху, і змогуць...
Хай і нядужыя сілы мае —
Пайшла на завод на падмогу.
Была я ў канторы, заяву дала —
Здзівіліся неяк адразу.
Ідзем, Васіліса, вылазь з вузла,
Ідзем, папрацуем разам.

Васіліса.

Што я чую? Лепш пятля,
Сорам, гэткі сорам!
Гэткі сорам!.. Лепш зямля,
Чым нядоля, гора.

Нервуецца. Ходзіць па пакоі. Пападаюцца ёй на вочы трусікі. Яна іх злосна разрывае.

Мер'ема.

Супакойся... трэба жыць,
Ты сябе паберажы.

Васіліса.

Больш нічога не кажы.
Не магу я... не магу.
*(Выбягае з хаты.)*

М е р' е м а.

Лёгка знойдзецца — лёгка згубіцца.
Пабягу ж я, пабягу.
Ад бяды усцерагу.
*(Выходзіць.)*

### *Дзея VII*

Вечар. Вуліца рабочага пасёлка. Праз замарожаныя вокны ледзьве відаць святло. Холадна. Блукае В а с і л і с а. Ідзе п'яны К л ы ч.

К л ы ч.

Дождж ідзе,
Сучча клоніцца,
Разрашыце мне
Пазнакоміцца.

Васіліса ўцякае, Клыч ёй услед.

Эй, яблынька,
Спей, румяная.
Я дзевачка
Нечапаная...

*(Зачэпліваецца, падае. Корчыцца ад холаду. Засынаючы, пяе сабе пад нос.)*

Пастух трубіў,
Штаны згубіў,
Пастушка ішла —
Штаны...

Бяжыць Ч ы ж у клуб. Пераскаквае цераз Клыча. Усё бліжэй і бліжэй чуваць песня:

Яго маладому разліву-агню
Слава і песні змагання.
За шчасце людское выйдзем мы біцца —
У бой
Грамадой,
Маладой,
Бальшавіцкай!

Уваходзіць м о л а д з ь. Заўважыўшы Клыча, адзін з грамады схіляецца над ім і крычыць:
— Пажар! Па-жар!..

Усе рагочуць. Клыч не зварухнецца. Уваходзіць К а н д р а л ь.

Стрэльбін.

Пачыналі расхадзіцца.
Вы чаго? Куды? — спытаў.
А яны... гатовы біцца.

Базыль.

Пэўна нехта падкаваў...

Сезоннікі.

Мы не валы!
Не буйвалы!
Не хочу!

Клім.

Чаго не хочаш? Дай адказ.

Няпэўны гул.

Таварышы, такі адказны час,
Ганьбуеце імя сваё — рабочых.
Данбас чакае...

Кандраль.

Знаем!

Клыч.

Не агіціруй, адплываем!

Падняў мех, каб закінуць яго на плечы, але мех падае, з яго вываліліся банкі кансерваў, цукар. Сезоннікі, здзіўленыя, глядзяць на Клыча. Увайшоў Зарэмба, пытаецца ў Кліма.

Зарэмба.

Таварыш Клім, што тут такое?
У чым тут справа? От героі...

Міколка *(да Клыча)*.

Капцінармус, сукін сын!

Сезоннікі.

Абкрадаў? Паёк наш зводзіў?

Клыч.

Я, браточкі... не... адзін.

Сезоннікі.

Абкрадаў? Не дадаваў? Браў? Злодзей!

Кандраль (баронячы Клыча).

Супакойся, сцішся, годзе!

Клім.

Паёк вам выдавалі? Выдавалі!
На арцель? На арцель!
А мазгі вам бунтавалі?
Спадцішка вас абкрадалі?
Досыць! Кіньце карусель.
Разбярэмся заўтра. Досыць!
Я валынкі не цярплю.

*(Пайшоў у клуб.)*

Мішка.

Хто п'яны — ідзе на просып!

Базыль.

Хто цвярозы — з намі ў клуб!

Міколка.

Капцінармус, сукін сын...

Запальваецца электраліхтар на фасадзе клуба.

Акуліна.

У клуб! У клуб! Абавязкова!

Базыль.

Давайце, хлопцы, як адзін,
У клубе ўсё ужо гатова.

Адны разам з рабочымі ідуць у клуб, другія — у барак. Астаўся толькі Міколка. Сядзіць на сваім чамаданчыку, курыць, задумаўся. Падняўся, узяў чамадан і пайшоў у клуб. Хістаецца ад ветру ліхтар на фасадзе клуба. Уваходзіць Васіліса, спынілася каля афішы. З клуба выйшла Акуліна, заўважыла Васілісу, падышла, паклала руку ёй на плячо.

Акуліна.

Чаго ты сумная? Ці ж невясёлы шлюб?
Э-эх, дурніца маладзіца, акрыляй.
Так добра жыць, а ты?.. Хадзем у клуб.

Васіліса.

Іду.

Акуліна.

Хадзем, хадзем, давай.

*(Выходзіць.)*

Васіліса.

Не даравацъ злачынак мой...
Як цяжка жыць не з грамадой.

### *Дзея VIII*

Клубная сцэна, у цэнтры лозунгі: «Шчыльней пралетарскія рады — за пяцігодку ў чатыры гады», «Ударнікам шахт дамо — 1000 стандартных дамоў».

Базыль.

Зараз, згодна з дырэктывай,
Мы пачнем другую частку.
Шчыра просім, калі ласка,
Сесці ціха, церпяліва,
Не смяяцца і не пляскаць.

Паяўляецца вялікае палотнішча-насценгазета «Чырвоная піла».

Базыль.

Артыкул «Мацуй напор»
Прачытае наш рабкор.

Чыж *(чытае).*

Партыя і ўрад усклалі на нас ганаровы абавязак: выпусціць стандартныя дамы для шахцёраў-ударнікаў Данбаса. Як выконваецца план? Лесапілка не дадала за дэкаду другога месяца 27 працэнтаў. Лесапілка — тормаз у працы іншых цэхаў. Ліквідаваць прарыў можна толькі шляхам разгортвання спаборніцтва і ўдарніцтва. Выканаць план у тэрмін!

Базыль.

Зараз ідзе вершаваны твор,
Яго прачытае таксама рабкор...

Сход.

Аўтара!.. Аўтара даёш!

Базыль.

Недзе ў зале. *(Углядаецца.)*
Суніца, сып, чытай сваё!

Суніца *(пад воплескі прыйшоў на сцэну, чытае)*.

Пяць у чатыры.
Штурмуйце, штурмуйце прарывы —
Па-ўдарнаму і церпяліва.

Скрып дзвярэй. Уваходзіць Міколка, аглядаецца, садзіцца ля сцэны на свой чамадан.

Акуліна.

Хто там дзверы ломіць?

Галасы.

Ціха! Ціха там! Цішэй!

Акуліна.

Паталкуем у заўкоме!

Базыль.

Ціха вы... *(Да Суніцы.)* Чытай далей.

Суніца.

Пяць у чатыры.
Штурмуйце, штурмуйце прарывы —
Па-ўдарнаму і церпяліва.
Тысячу даць у Данбас
Мы абавязаны ў час.
Хай распінаецца вораг,
Свайго не аслабім напору.
Горача, ўдарна і шчыра
Зробім мы «пяць у чатыры».
Дык жа штурмуйце, штурмуйце прарывы —
Па-ўдарнаму і церпяліва.

Воплескі. Гасне святло. Базыль асветлены праменем праекцыйнага ліхтара.

Базыль.

Таварышы, ціха. Нельга гэтак...
Зараз пачнем светавую газету.

*На палатне карыкатура на Радзецкага і Васілісу. Хлопец і дзяўчына, удзельнікі культбрыгады, пяюць прыпеўкі.*

Дзяўчына.

На гародзе рос качан,
Чэрві завяліся.

Хлопец.

Падрываюць прамфінплан
Радзецкі з Васілісай.

Базыль.

Таварышы! Камсамолка Васіліса ідзе замуж і толькі з гэтае прычыны, у часе найвялікшай патрэбы ў рабочай сіле,— пакідае завод. Ці ёсць гэта лінія камсамола?

*На палатне карыкатура на Стрэльбіна і Ліпу.*

Дзяўчына.

Па канвееру падрад
Ідуць дубы-сталеткі.

Хлопец.

Стрэльбін пудзіцца дзяўчат,
Што конь матацыклеткі.

Базыль.

Таварышы! Стрэльбін — камсамолец, добры грамадскі працаўнік. Але ён у адносінах да дзяўчат дапускае вялікія загібы. Угледзеўшы камсамольца з камсамолкай, абураецца, бачыць у гэтым перашкоду для пабудовы сацыялізма! Ці ёсць гэта лінія камсамола?

*На палатне сяброўскі шарж на Мішку і Гальку.*

Хлопец.

Вырастаюць рыштаванні,
Тэмпы пабудовы.

Дзяўчына.

У Галькі з Мішкаю каханне,
А завод аснова.

Базыль.

Таварышы! Камсамольцы Мішка і Галька даюць вышэйшыя нормы выпрацоўкі. Па-бальшавіцку ясна ўяўляюць сабе месца асабістага і грамадскага ў жыцці. Ці ёсць гэта лінія камсамола?

На палатне партрэты Мер'емы і карыкатура на Кандраля.

Дзяўчына.

Дзень і ноч дрыгва і сталь —
Б'юцца дзве сістэмы.

Хлопец.

Любіць дым пусціць Кандраль,
Працаваць — Мер'ема.

Базыль.

Таварышы! Кандраль толькі і прагне затрымаць ход нашае працы, іграе на струнах цяжкасцей, якія перажывае завод. Мер'ема — старая работніца, пенсіянерка — прыйшла на завод, каб дапамагчы нам справіцца з ганаровай задачай. Ці не ёсць лінія старэнькай Мер'емы — лінія камсамола?

Чыж.

Толькі давайце парадкам.
Гульня для усіх нас.
Будзем даваць загадкі,
А вы ў рыфму — адказ.
Пачынаем:
Сыпле у вочы рабочым туман
Пра «Пан-Еўропу» пан...

Адказ.

Брыян.

Ч ы ж.

Тысячу выслаць ад нас у час
Нашым таварышам у...

А д к а з.

Данбас.

Ч ы ж.

Заржавела прадольная пілка,
Прарыў за прарывам дае...

А д к а з.

Лесапілка.

Ч ы ж.

У нас — мы Чырвоную Армію маем
І маем другую ў далёкім...

А д к а з.

Кітаі.

А к у л і н а.

Не парушаць заўжды павінны —
Прафсаюзнай...

М і ш к а.

Акуліны!

А к у л і н а.

Дысцыпліны!

Б а з ы л ь.

Цяпер, хто хоча, будзем танцаваць.

Праз карагод са сваім чамаданам прабіраецца М і к о л к а.

М і к о л к а.

Дазвольце заявіць.
Дазвольце сказаць...

Усе спыняюцца.

Нас... падбухторваў... бракёр.

## АКТ ТРЭЦІ

### *Дзея IX*

Адкрыты сход камсамольскай ячэйкі, прысутнічаюць і старэйшыя рабочыя. Сярод іх Мер'ема. Стрэльбін — старшыня сходу.

Клім.

Адказны наблізіўся час,
Сабраліся мы, каб сумесна
Глянуць, што зроблена ў нас
У нашай рабоце пачэснай.
Заданне было — 900,
Тысячу — стрэчнае слова.
На сёння зрабіў завод —
948.

Акуліна.

З паловай!

Клім.

Ад тэмпаў узятых сваіх,
Таварышы, ўбок мы не звернем,
А дружна, напорам усіх,
Тысячу вышлем у тэрмін.
У нас засталася яшчэ
Дэкада, а гэта нямала.
Дык пойдзем да мэты шпарчэй!

Стрэльбін.

Аб'явім дэкаду аўрала.

Клім.

Давалася цяжка. Былі
І будуць яшчэ перашкоды.
Але ў барацьбе мы раслі,
У агні бальшавіцкіх паходаў.
Давайце ж усе, як адзін,
Натужымся, тэмп павялічым.
Ваш абавязак — пачын,
На гэта вас Партыя кліча.

Чыж.

Я мяркую, лепшы сродак —
Гэта штурм...

Мер'ема.

Мае сынкі,
Каб заказ аддаць у час,
Трэба усім, адным заходам,
Стаць за працу за станкі.
Штурмы справы не направяць,
Божа літасціў, сынок.
Гэта ж часу лепш надбавіць,
Адцягнуць назад гудок.
І рабіць гадзін дванаццаць,
Працавалі ж так калісь.
За дванаццаць добрай працай
Пойдзе справа наша ўвысь!
Згода, сынку?

Базыль.

Не, не згода!
Наркампрац сказаў: заводы
Маюць свой працоўны кодэкс.

Стрэльбін.

Ціха, звады, ў нас дэкада.

Мішка.

Дай мне пару слоў сказаць.

Стрэльбін.

Не зацягвай толькі.

Мішка.

Даць
За дзесяць дзён павінны мы
Пяцьдзесят і два дамы.
Так што.

Акуліна.

Дайце слова,
Нам не 50 і 2,
А 51 з паловай.

Мішка.

Наш уздым усіх рабочых
Павядзе ў рашучы бой.
І трохзменна, дні і ночы,
Ні хвіліны на прастой.
Каб наблізіць перамогу,
Па-ваеннаму трывогу
На заводзе абвясціць.

Галасы.

Згодна! Гэтак і зрабіць!

Стрэльбін *(дыктуе сакратару)*.

Рэдакціруй так: трывогу
Абвясціць на ўвесь завод
І на штурм узняць народ,
Каб пачэснае заданне...

Клім.

Спакайней, не трэба грому.

Стрэльбін.

Ёсць яшчэ адно пытанне —
Інфармацыя фабкома.

Акуліна.

Хай яшчэ зрабіць павінны
51 з паловай.
Вашым сённяшнім пачынам,
Лепш сказаўшы, пастановай —
Будзе сто абавязкова.
На сваім чарговым сходзе
Камітэт наш завадскі
Ухваліў узнагародзіць,
Запісаўшы пункт такі:

*(Чытае вельмі хутка.)*

Слухалі: аб прэміяванні камсамольцаў за ўзорную працу.
Пастанавілі: лічачы, што ў першым ударным квартале, атрымаўшы заданне — выпуск дзевяці соцень стандартных дамоў для герояў сацыялістычнага Данбаса — і прымаючы пад увагу, што завод не быў прыстасаваны, пры недахопе рабочай сілы, камсамольскія вытворчыя брыгады высунулі сустрэчны, абкругліўшы ў тысячу дамоў, штурмавалі гэты план, як сапраўдныя змагары за сацыялізм. Зроблена ўжо 945... *(Дадае ад сябе.)* На сёння 948 з паловай. *(Чытае далей.)* Гэта дасягнута на аснове правільнага кіраўніцтва партыйнага калектыву і ўжывання камуністычных метадаў працы, сацспаборніцтва, ударніцтва...

Галасы.

Досыць! Во нагарадзілі.
Усё-такі што ж пастанавілі?

Акуліна.

Пастанавілі? Ухвалілі закупіць адзін матацыкл і адзін фотаапарат на сродкі фабкома, прасіць дырэктара таксама вылучыць сродкі для прэміявання. Прасіць ЦСПСБ, наколькі мяркуецца паездка рабочых-ударнікаў вакол Еўропы, даць нашаму заводу адно месца.

Галасы.

Прэміроўка!
Матацыкл.
Прэміроўка — за штурмоўку!
Гэта лоўка!
Малайцы!

Агульны ўздым.

Стрэльбін.

Ціха, часу не губляйце,
Кандыдатаў называйце.

Раздаюцца галасы, сакратар запісвае: Мішку, Мер'ему, Чыжа, Стрэльбіна. Хтось называе Васілісу, гэта выклікала смех.

Стрэльбін.

Лепшых трэба, той — хто ўзор,
Хто камсамольскі браў напор.
Хто працаваў з агнём, як след!

*(Бярэ спіс, чытае.)*

Мішку.

Галасы.

Даць! Матацыклет!

Базыль.

Ён рэдактар. Для работы
Мішку варта выдаць фота.

Стрэльбін.

Галасую.

Узнімаюцца рукі.

Хто супроць? Аднагалосна.
Ціха вы... Далей ідзем мы.
Па чарзе цяпер Мер'ема.
Даць?

Галасы.

Даць, абавязкова.

Мер'ема.

Не, не трэба, што вы, дзеткі...

Стрэльбін.

Галасну. Матацыклетку
Даць Мер'еме. Хто супроць?

Мішка.

Хлопцы, кіньце жартаваць,
Дзе старэнечкай катацца.
Прапаную клапатаць
Ёй імя — Героя працы.

Ухвальны гул.

Стрэльбін.

Вось і ўсё.

Акуліна.

Яшчэ, дарэчы,
Ў Еўропу —
Месца нам бясспрэчна.

Стрэльбін.

Калі так, наступны Чыж.

Базыль.

Хай наведае Парыж!

Стрэльбін.

Хто супроць? Няма. Канчаем.

Акуліна.

Іншых з спісу, я вам раю,
Усіх цяпер замацаваць.
Бо й дырэкцыя, я знаю,
Прэміроўку хоча даць.

Базыль.

Прапаную толькі з спісу
Не выкідваць Васілісу...

Смех.

Чыж.

Аб'ява ад рэдакцыі:
Давайце матэрыял
Пра жыццё, аб працы і
Пра ўдарны наш квартал.
Газетку мы на свята
Во! — звярстаем вам.

Акуліна.

З Данбаса дэлегаты
На свята едуць к нам.

Стрэльбін.

За нашу перамогу,
За ўдарны наш квартал,
Таварышы, трывога!—

Даёш «Інтэрнацыянал».

*(Адразу ўсхапіўшыся.)*

Таварышы, браточкі,
Забыліся зусім,—
З лепшых лепшы ўдарнік
У нас — таварыш Клім.
Яму узнагароду!

Г а л а с ы.

Пашана! Гонар! Чэсць!
Бальшавіку, старэйшаму,
Кіраўніку, таварышу
Хадайнічаць на славу —
Ордэн Леніна,
        Ордэн Леніна!
                Ордэн Леніна!

Моладзь падбягае да Кліма, пад воклічы «ўра» бярэ яго на рукі, гушкае.

### *Дзея X*

Цёмная ноч. Гудуць гудкі. То з'яўляецца, то знікае прамень пражэктара, на вышцы, што на беразе, д ы р э к т а р, і н ж ы н е р.

Д ы р э к т а р *(углядаецца ў раку).*

На вачах прыбывае вада,
Затопіць завод.

І н ж ы н е р.

Стыхія...

Д ы р э к т а р.

Нечаканы удар!

І н ж ы н е р.

Стане завод.

Д ы р э к т а р.

Баявыя
Меры нам трэба прыняць.
Мы мусім завод адстаяць!

Інжынер.

Каб захаваць завод,
Выйсце я бачу, але
Рокат раз'юшаных вод
Частку пасёлка залье.
Падняўшы плаціну, здолім
Стыхію набок скіраваць.

Дырэктар.

І думаць няма чаго болей.
Неадкладна плаціну падняць.

Прыбягаюць рабочыя, работніцы. Сярод іх Васіліса. Пастунова набралася шмат народу.

Васіліса.

Глядзіце, як забушавала!

Ліпа.

Гаварыла ж я, казала...

Галасы.

Мяхі з пяском на бераг класці,
Не даць прапасці бервяну.

Крот *(прабягае ў споднай бялізне).*

Ах, няшчасце,
Ох, няшчасце —
Пабягу будзіць жану.

Дырэктар.

Таварышы, спакойна. Наш завод
Паводка выведзе ў расход,
А павінны ўсё зрабіць,
Каб наш завод астаўся жыць.

Стрэльбін.

Адратаваць завод павінны.

Дырэктар.

Для гэтага праз дзве, праз тры хвіліны
Падняць павінны мы плаціну.

Кандраль.

Што?.. Плаціну? Небяспека?
Завод важней за чалавека?
Тапіць рабочых? Душагубы!

Дырэктар.

Вада не дойдзе і да клуба.

Жанчыны.

Не даць плаціну! Не даваць!

Мішка.

Ціха, цёткі, не крычаць.

Інжынер узышоў на штабель лесу, узняў руку.

Стрэльбін.

Інжынеру дай сказаць.

Кандраль.

Ён не наш, ён шкоднік, братцы.

Жанчыны.

Нас затопяць. Ратавацца!

Дырэктар.

Нікому смерць не пагражае,
Не трэба панікі...

Кандраль.

Мы знаем,
Пагражае ці пужае.

Інжынер.

З будынкаў, што ад клуба справа,
Выселіць, і нават
Вада зусім не болей зойме...

Галасы.

Дух твой зойме.
Шкоднік. Контра!

Кандраль.

Падумаць толькі — што такое
Тапіць рабочых, іх дзяцей.
Па-бальшавіцку гэта?

Дырэктар і інжынер ідуць на вышку.

Стрэльбін.

Гэй!
Пастаім,— дык хвалі хлынуць.
Дай загад падняць плаціну!

Ліпа.

А нашто я нараджалася,
А нашто я гадавалася,
А мая галоўка бедная...

Жанчына *(яе перабіваючы)*.

Не карай нас, божа ласкавы,
Смерць прышлі мне чалавечую,—
Як памерла мая матанька,
Як памёр мой родны татанька,
Мне, рабе тваёй, памерці
Не тапеліцай нявіннаю...

Мер'ема.

Досыць, Альжбетка,
Сама ты і дзеткі
Пяройдзеш да нас. Ідзём...

Выходзяць.

Кандраль.

Не дадом плаціну, не дадом!

Дырэктар *(да Стрэльбіна, голасам загаду)*.

Сабраць людзей! і жвава
Выселіць правы квартал.
Высяляйце у клуб. За справу!

Стрэльбін.

Ёсць! Аб'яўляю аўрал!

Дырэктар.

Спакойна. Без панікі. З толкам.
Часу ў нас шмат.

Інжынер.

Да пасёлка
Не скора падыдзе вада.

Стрэльбін.

Управімся мы, не бяда!

Рабочыя выходзяць. Застаюцца Кандраль і Цімох. Каля вышкі, схаваўшыся, стаіць Васіліса.

Кандраль (*шэптам*).

Будзь жа толькі зухаваты.
І не бойся!

Цімох.

А чаму?

Кандраль.

За твайго адпомсцім тату.
Нізашто яго ў турму
Пасадзілі.

Цімох.

А чаму?

Дырэктар і інжынер ідуць з вышкі. Ім загароджвае дарогу Кандраль.

Дырэктар.

Што пасталі? На падмогу!
К высяленню!

Кандраль.

Што?

Дырэктар.

Дарогу!

Кандраль.

Што? Дарогу? Смерць рабочым?
Жыць рабочыя не хочуць?
Шыю зломіш, мой паночак...

Інжынер.

Адыдзі. Ты — горш скаціны.

Дырэктар.

Розум траціш, сукін сын.
Мой загад падняць плаціну!

Васіліса непрыкметна выйшла з-пад вышкі і пабегла ў напрамку да плаціны.

Кандраль.

Не дамо! Не тыя ўжо часы.

*(У запале шаленства падымаецца на вышку, б'е кіем па пражэктары. Святло гасне.)*

Хавай канцы! Цярпець даволі, кВіты!

Дырэктар.

Не мінаваць суда, бандыты!

Раптам узнімаецца бурны рокат вады. Кандраль, у ярасці размахваючы кіем, губляе раўнавагу і падае з вышкі ў ваду. Цімох з крыкам «Ратуйце!» бяжыць да ракі.

Дырэктар.

Вада пайшла. Плаціну хтось падняў.

Убягае Васіліса.

Інжынер *(глядзіць на раку)*.

Прыйшоў яму канец.

Васіліса.

Плаціну я адкрыла.

Дырэктар.

Не чакаў,
Дзякуй, Васіліса, маладзец.

Уваходзіць Стрэльбін з ліхтаром у руках.

Як з высяленнем жыхароў?
Ці ўсё ў парадку?

Чыж.

Безумоўна!
З усіх крануліся двароў.
У нас парадак поўны!..

Дырэктар (*закурваючы папяросу*).

Нямала я пражыў, а ўсё-ткі
Такой не бачыў я паводкі.

## ЭПІЛОГ

Сонечны дзень. Спакойна коцяцца хвалі рэчкі. Крот ля кустоў вербалозу вудай ловіць рыбу. Выцягвае, прыгаворваючы — «Ёсць!». Трапечацца ўклейка на кручку. Крот радасна адчэплівае рыбу, кладзе ў вядзерца.

Крот.

Ах, попалась, птичка, стой,
Не уйдешь из сети...

Ловіць на галінках куста муху. Злавіў. Асцярожна бярэ яе з жмені, прыгаворвае — «Мая!». Садзіць муху на кручок. Закідвае вуду ў раку — «Твая!».

Усё мацней і мацней чуваць песня, гукі гармоніка. Далятае голас Стрэльбіна: «Ціхі ход!» Падплывае лодка адна, другая. Весела моладзь выходзіць з лодак на бераг. Некаторыя хлопцы і дзяўчаты ў трусіках, каляровых майках.

Базыль.

А... Мірон Саўкавіч Крот.

Крот.

Не Мірон, а Нер-рон.
Не Саўкавіч, а Саулавіч.
Не Крот-тэ-тэ, а Крод-дэ-дэ,
На заводзе старшы справавод —
Неррон Саулавіч Крод-д.

Моладзь разбягаецца па сенажаці, кладзецца на траву, аддаючыся пяшчотам веснавога сонца. Мішка і Галька адлучыліся ад грамады, селі на беразе рэчкі за густым кустом арэшніку.

Васіліса.

Як добра тут! Як лёгка дыхаць!

С т р э л ь б і н.

Мы зрабілі ў поле выхад,
Каб усім...

Г а л а с ы.

Далоў даклад!
Без прамоў. І без цытат.
Сонцавылазка сягоння.
Загарай. Іграй, гармонік.

С т р э л ь б і н.

Згодна нашай пастановы —
Паветра, сонца і вада...

Б а з ы л ь *(жартам)*.

Няхай жыве наш дух здаровы,
Далоў, смяротная нуда!

М і к о л к а зайграў на гармоніку плаўную народную песню-вяснянку. Бадзёрыя гукі мелодыі плывуць над ракою. Распранулася А к у л і н а, у купальным касцюме ідзе да куста, каб павесіць сваю сукенку. Заўважыла М і ш к у і Г а л ь к у.

А к у л і н а.

Ці ж так праводзіць час павінны?
А калектыў? А дысцыпліна?

С т р э л ь б і н *(падбег да куста)*.

Што такое? Шуры-муры?
Хочаш план парушыць наш?

М і ш к а *(смеючыся)*.

Міжнародны сабатаж!

С т р э л ь б і н.

А камандваць фізкультурай
Буду я?

М і ш к а.

Чаго бунтуеш?
Сціхні, пойдзе ўсё чын-чынам.

А к у л і н а.

Удвух пад кусцікам варкуюць,
Разлажэнне дысцыпліны.

Васіліса.

Гляньце, як пачырванелі,
Маладыя галубкі.
Тут, пад сонцам, ля ракі
Дайце справім іх вяселле.

Стрэльбін.

Ухваляю... Што ж параіць?
Пра завод не забывацца
І пра кадры турбавацца.
Век вам жыць!

Базыль.

Раз турбавацца,
Дык не менш — на душ дванаццаць!

Галасы.

Як вы, згодны запісацца?

Базыль *(да Акуліны)*.

Ты — заўком, давай заручым.

Акуліна.

Не.

Галасы.

Чаму?
Баіцца блуду!

Акуліна.

Я супроць, і самаручна
Іх запісваць я не буду.

Базыль *(да Крота)*.

Ты, рыбак, пісаць мастак,
Падавай нам шлюбны акт.

Крот.

Я гатоў, без угавораў,
Толькі тут няма канторы.

Б а з ы л ь.

Эх, чаго нам хвалявацца:
Можна жыць і не пісацца!

Васіліса падыходзіць да Галькі, кладзе ёй на галаву вянок, астатнія становяцца ў круг. У сярэдзіне карагода Мішка і Галька. Міколка іграе вясельную песню-прыпеўку. Весела закружыўся карагод.

В а с і л і с а *(запявае)*.

Ах ты, дружка дарагая,
Я спляла табе вянок.
Хай на радасць штогадок
Ці дачушка, ці сынок
Прыбывае.

Х о р а м.

Штогадок адзін ядок,
Ці дачушка, ці сынок —
Прыбывае...

Чуецца гул маторнай лодкі. Усе кінуліся на бераг. Углядаюцца. Чуваць галасы: «Чыж! З Данбаса Чыж вярнуўся! Чыжык-Чыж!» Матор глохне, на бераг выходзіць Чыж.

Ч ы ж.

Эх, ідры-тваю качалку,
Калектывам на рыбалку?
Вітанне вам! *(Кланяецца.)*

*Г а л а с ы.*

Здароў! Дзень добры!
Кажы, як ездзілася, Чыж?
Што бачыў? Як жывуць шахцёры?
Кажы хутчэй, чаго маўчыш!

Ч ы ж.

Шахцёры шлюць вам прывітанне.

М і ш к а.

А ў шахце ты хоць пабываў?

Чыж.

Чаго ж я ездзіў, на гулянне?
Я нават вугаль здабываў.
Прывёз я вам, браткі, паперу.
Пралетарскі наш Данбас
*(Шукае за пазухай пісьмо.)*
Запрашае ў госці вас.

Акуліна.

Давай паперу!

Чыж.

Што, не верыш?
*(Дастаў пісьмо, з гордым выглядам.)*
От жа слухайце. *(Тлумачыць.)*
Адразу —
Тут падзяка вам, браткі,
А ніжэй, аб тым, што разам
Назаўсёды, на вякі,
Беларусь і Украіна,
Як дзве родныя сястры.

Акуліна.

Ты чытай, не гавары.

Чыж.

От жа слухайце, сябры. *(Чытае.)*

Яшчэ раз, дарагія таварышы, прыносім вам гарачую шахцёрскую падзяку. У ліпені месяцы ў нас будзе праводзіцца ўрачыстае засяленне пасёлка. Будзем вельмі рады, калі на гэта вялікае шахцёрскае свята ваш завод прышле да нас сваю рабочую дэлегацыю. Вашы прадстаўнікі будуць у нас найдаражэйшымі гасцямі.

Як выбух, узняўся гул радасці. Хтосьці зацягнуў песню:

Запрагайце, хлопцы, коні,
Мы паедзем на Данбас.

Чыж адзяе шапку, робіць выгляд, што збіраецца пакінуць сяброў.

Васіліса.

Ты куды? Не хочаш з намі?

Чыж.

Не магу...

Крот.

Вы ж малады.
Сэрца вашае не камень.
Будзьце з намі, мы вас просім.
Вы сучасны Ламаносаў.

Базыль.

Ламаносаў бегаў босы.

Мішка.

Прэч валёнкі, прэч кажух!

Стрэльбін *(да Чыжа і Крота)*.

Распранайцеся удвух.

Крот.

На рыбалку, на закалку,
Я пайду за вамі скрозь.

Чыж.

Эх, ідры-тваю качалку,
Весяліся, маладосць!

Абодва распранаюцца. Чыж — у трусіках, Крот — у кароткіх споднiках. Смех. Весела і хутка вырастае піраміда. Відаць, як ідуць плыты, зыбяцца хвалі. На плытах складзены штабялямі стандартныя дамы. Плыты ідуць на Украіну. А сонца гарачае, як маладосць.

*1931*

## *АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ*

Пасля грознай ачышчальнай Кастрычніцкай навальніцы 1917 года ў Беларусі буйна ўзышла маладая рунь народных талентаў. Маладыя дзеячы мастацтва і літаратуры прынеслі з сабой баявы рэвалюцыйны дух. Характэрнай у гэтых адносінах з'яўляецца творчасць паслякастрычніцкай плеяды беларускіх пісьменнікаў і ў прыватнасці творчасць аднаго з яе таленавітых прадстаўнікоў — Андрэя Александровіча.

Нарадзіўся Андрэй Іванавіч Александровіч 9(22) студзеня 1906 г. у Мінску ў сям'і шаўца. Увосень таго ж года памёр яго бацька. Шмат пакут і нястач давялося перанесці адзінокай маці, якая працавала чорнарабочай-падзёншчыцай.

З ранняга маленства хлопчык пачаў працаваць за шавецкім варштатам. У 1914 г. яго прынялі спеваком у беларускі народны хор. Там ён пазнаёміўся з песеннай творчасцю свайго народа, горача палюбіў яе на ўсё жыццё.

Праўдзіва і цікава расказаў паэт аб пачатку сваёй жыццёвай біяграфіі ў паэме «Дваццаць». Гэты невялікі твор, у якім аўтар глядзіць на падзеі з вышыні дваццаці год свайго жыцця, з'яўляецца своеасаблівым лірычным пашпартам не толькі самаго паэта, але і многіх яго аднагодкаў. З душных і цёмных майстэрняў, з сырых сутарэнняў і цесных хат, з путаў галечы і невуцтва вырываліся многія да святла і прастору і з юнацкім запалам кідаліся ў вір гістарычных падзей.

Дабратворны ўплыў вялікіх кастрычніцкіх пераўтварэнняў адчуў на сабе і будучы паэт. Ён захапіўся творамі перадавых бе-

ларускіх пісьменнікаў, а неўзабаве і сам паспрабаваў свае сілы. У 1921 г. на старонках газеты «Савецкая Беларусь» пятнаццацігадовы юнак змясціў першыя вершы.

Ідэйнаму росту маладога паэта надзвычай спрыяў яго актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Як перадавога камсамольца, яго выбіралі дэлегатам на рэспубліканскія камсамольскія з'езды, а таксама ў склад членаў ЦК ЛКСМБ. Ён быў адным з арганізатараў літаратурнага аб'яднання «Маладняк».

У пачатку 1930 г. А. Александровіч уступіў у рады Камуністычнай партыі. Неаднаразова ўваходзіў ён у склад Мінскага гарадскога і акруговага камітэтаў КПБ, а ў 1936 годзе быў выбраны кандыдатам у члены ЦК КПБ. З 1930 па 1937 г. А. Александровіч быў членам ЦВК БССР. На VIII Надзвычайным з'ездзе Саветаў СССР паэт уваходзіў у Рэдакцыйную камісію па канчатковаму рэдагаванню тэкста Канстытуцыі СССР.

Паэтычную творчасць А. Александровіч спалучаў з грамадскай і навуковай працай, працаваў у камісіі па рэформе беларускага правапісу. Пад яго рэдакцыяй і з яго прадмовамі выйшлі кнігі: «Пісьменнікі БССР аб рэформе правапісу беларускай мовы», «Пісьменнік і мова», «Руска-беларускі слоўнік». У 1936 г. паэт быў выбраны членам-карэспандэнтам Акадэміі навук БССР.

Развіваючыся пад плённым уплывам рэвалюцыйнай паэзіі У. Маякоўскага, творчасць А. Александровіча была арганічна звязана з самымі вострымі і надзённымі пытаннямі нашай рэчаіснасці.

Пачаўшы з юнацкага захаплення новымі з'явамі жыцця, А. Александровіч з твора ў твор узмацняе грамадзянскія матывы, пашырае тэматыку і ўзбагачае выяўленчыя сродкі сваёй паэзіі. Галоўнае месца ў ёй пачынаюць займаць творы, прасякнутыя пафасам рэвалюцыйнага пераўтварэння жыцця, сацыялістычнага будаўніцтва. Адным з лепшых твораў паэта пра будаўніцтва новага жыцця з'яўляецца вядомы верш «Сасна».

Эх, сасоніца-сасна,
Дні суровыя,
Бервяно да бервяна —
Хата новая.

Яшчэ ў ранніх вершах аўтар заявіў аб цвёрдым намеры ісці разам з будаўнікамі новага жыцця, «карчаваць чарнацвет» страшнай мінуўшчыны. У радзе твораў ён з захапленнем піша пра тое, як новае ўладарна ўрываецца ў жыццё. Характэрным у гэтых

адносінах можа быць верш «Мястэчка». Разбураецца і знікае ўсё, што стагоддзямі лічылася традыцыйным, над ціхім мястэчкам засвяціла «новая раніца—прозалаць зарніц».

А. Александровіч першы сярод беларускіх літаратараў становіцца песняром сацыялістычнага горада. Але ён далёкі ад захаплення чыста ўрбаністычнымі матывамі. Горад у яго творах— гэта арэна вялікіх сацыяльных пераўтварэнняў. Вось верш «Стары Мінск». У правінцыяльным пазаштатным Мінску, як і ў многіх іншых гарадах былой Расійскай імперыі, спрадвеку галоўнымі атрыбутамі самаўладства былі губернатарскія палацы і гарадавыя, установы духоўнай і фізічнай атруты працоўных мас — цэрквы, касцёлы і манапольскі. Пісьменнік пераканаўча даводзіць, што раскоша тых, хто меў уладу, трымалася на пакутах і эксплуатацыі працоўнага люду. Вось каларытны малюнак дарэвалюцыйнага Мінска:

Анучамі ў вокнах разбітых
Крычалі гарбатыя хаты
Знясіленым крыкам рахіта,
Удушшам сухотаў праклятых.
У гонар губернскай управы
З каровамі наперагонку
Пад звон капытоў Сухарлявай
Па рэйках кацілася конка.

Але сэнс твораў аб горадзе — не ў паказе яго мінулага, а ва ўслаўленні таго новага, што прынесла сацыялістычная рэвалюцыя, у адлюстраванні росту людзей — савецкіх рабочых.

Позірк на з'явы жыцця з перадавых пазіцый, уменне бачыць, як у будзённай рэчаіснасці нараджаецца вера ў перамогу новага, — усё гэта стварала тую аптымістычную ўзнёсласць, якая характэрна для ўсёй творчасці паэта.

А. Александровіч бачыць, што ў нашай рэчаіснасці яшчэ тамсям захаваліся перажыткі агіднай мінуўшчыны, і выкрывае іх вострым сатырычным словам. Гнеўна асуджаючы «нэпманскую банду», якая ў шыкоўнай раскошы марнуе свой час, паэт паказвае жыццё простага чалавека, апявае новыя чалавечыя адносіны ў нашым грамадстве.

Многія творы А. Александровіча, якія нарадзіліся як водгук на грандыёзныя пераўтварэнні ў рэспубліцы, гучаць узнёслай песняй нашай рэчаіснасці, светлай раніцы працоўнага чалавека. Фабрычныя гудкі, якія пры паднявольным жыцці напаміналі рабо-

чаму аб шэрай аднастайнасці яго будняў, ва ўмовах вольнай працы абуджальнай сімфоніяй пакаціліся па шырокіх прасторах, заклікаючы ўсіх да будаўніцтва новай эпохі.

Як толькі ноч суровая
За небасхіл збяжыць,
Зарніца каляровая
Над краем задрыжыць.
Прасторы абуджаюцца,
Удаль ва ўсе бакі
Лятуць, пераклікаюцца
Гудкі... Гудкі...

З услаўлення паэтам жыцця сацыялістычнага горада арганічна вынікае яго зварот да паказу станаўлення і росту новага, савецкага чалавека. Аўтар звяртаецца да гэтай тэмы і ў творах біяграфічнага характару (паэма «Дваццаць»), а таксама ў паэмах «Векапомная восень» і «Нараджэнне чалавека».

Мастак паказвае, якім цяжкім і пакутлівым быў шлях бяспраўнага раба да свабоднага і радаснага жыцця, шлях ад ланцугоў няволі і рабства да асэнсаванай творчай працы. Гэты шлях ідзе праз агонь барацьбы і жорсткіх выпрабаванняў, рашучую ломку стагоддзямі ўсталяваных парадкаў. Аб гэтым праўдзіва гаворыць паэт у такіх радках з «Векапомнай восені»:

А праз гады, праз радасці і смутак,
Праз кованыя кайзеравы путы,
Праз люты гвалт пілсудчыны крывавай,
Праз партызаншчыну, авеяную славай,
Праз боль і стому мазалістых рук,
Праз лямант скону дзедаўскіх палосак,
Праз хціўны брэх кулацкіх падгалоскаў
Вялікай Праўды творцам стаў Янук.

Янук — просты сялянскі хлапец, які толькі ва ўмовах савецкай рэчаіснасці знайшоў сваё прызванне ў жыцці.

Станаўленню чалавека на новым шляху, яго духоўнаму росту прысвечана і паэма «Нараджэнне чалавека».

Складаным і пакутлівым быў жыццёвы шлях галоўнай гераіні гэтага твору — вясковай дзяўчыны Марылі. Вайна адабрала ў яе і бацькоў і каханага хлопца. Марыля ледзь не стала ахвярай брудных спраў контррэвалюцыянераў. Залішне даверлівую дзяўчыну выратавалі бязлітасныя да ворагаў, але чулыя і ласкавыя да сумленных людзей слаўныя чэкісты. Дзяўчыне даводзіцца пасля доў-

гіх «блуканняў на пакутах» пачынаць жыццё спачатку. Перайшоўшы на кватэру да шаўца, яна шчыра пакахала яго сына Паўла, камсамольца, студэнта рабфака, чалавека, якому жыццё дало крылы для смелага палёту ў нязведаныя прасторы. У сяброўстве з гэтым цікавым і шчырым юнаком Марыля непрыкметна забываецца на ранейшыя пакуты і страх. Яна паступае на працу ў друкарню, марыць аб рабфаку. У рабочым калектыве яна знаходзіць сапраўдныя першыя радасці жыцця.

Весялей, калі працуеш,
Між сяброў парою.
Многа новага пачуеш
Пра жыццё людское.
І само жыццё людское
Мне другім здаецца.
Праўду кажуць — з грамадою
Весялей жывецца.

Нягледзячы на пэўныя недахопы паэмы, трэба сказаць, што яна праўдзіва адлюстроўвае з'явы паслякастрычніцкага часу, што ў ёй паэт арыгінальна асвятляе адну з важнейшых для ўсёй беларускай літаратуры тэму духоўнага росту працоўнай жанчыны. У гэтым сэнсе вобраз Марылі займае належнае месца побач з такімі вобразамі, як Аўгіння з «Дрыгвы» Я. Коласа, Люба Лук'янская з аднайменнай аповесці К. Чорнага, Кацярына з аднайменнай паэмы П. Броўкі.

Значнай з'явай у беларускай літаратуры стала і паэма А. Александровіча «Цені на сонцы». Яна напісана ў перыяд, калі контррэвалюцыйнае ахвосце па заданню замежных разведак актывізавала ў нашай краіне сваю варожую дзейнасць. А. М. Горкі ў тыя гады высоўвае свой славуты лозунг «Калі вораг не здаецца — яго знішчаюць», а У. Маякоўскі заклікае савецкіх людзей «сдавать добродушие в брак» і павышаць сваю рэвалюцыйную пільнасць.

Тэма класавай пільнасці займае ў той час важнае месца ў нашай літаратуры. Янка Купала яшчэ ў паэме «Безназоўнае» папярэджваў, што «не дрэмле чорнае ў закутках варанне», і заклікаў народ трымаць зброю напагатове.

Як адданы патрыёт узнімае свой голас супроць розных здраднікаў і ворагаў савецкай краіны і Якуб Колас. У вершы «Ворагам» (1927 г.) ён кляйміць прыслужнікаў імперыялізма, у якіх ад лютай нянавісці да савецкай краіны «сліна пырскае з запененай

губы». «Будзьце чуйны», «Будзьма гатовы», «На варту» — заклікае паэт савецкіх людзей.

Паэма «Цені на сонцы», напісаная ў 1927—1930 гг., — жывы, непасрэдны водгук на патрабаванні рэчаіснасці. Аўтар вывеў цэлую галерэю шкоднікаў, пераліцованых душ, якія прыкрывалі сваё варожае нутро шыльдай савецкіх спецыялістаў. Тут і былы белагвардзейскі афіцэр, які ў гады грамадзянскай вайны са зброяй змагаўся супроць савецкай улады, а пазней, скрыўшы сваё мінулае, стаў працаваць на фронце народнай асветы; тут і былы служка рэлігійнага культу і іншыя здраднікі, якія прадавалі беларускі народ кайзеру і польскім панам. У гэтым котлішчы — выкапні-франты, якія гнуцца і моляцца «перад кожнай заморскай трантай», гандляры, якім сняцца мільённыя барышы, і іншыя. Уся гэта антысавецкая поскудзь выступае ў паэме ў сваёй нахабнай аголенасці, цынізме і разбэшчанасці.

У час, калі партыя вяла барацьбу супроць усялякага ахвосця, замаскаваных шкоднікаў і нацыяналістаў, калі класавая барацьба разгаралася з асаблівай вастрынёй, паэма заслужана карысталася поспехам у чытача. Аб тым, што паэма была накіравана супроць агалцелай ваяўнічай контррэвалюцыі, супроць атрутнай плесені ў нашай рэчаіснасці, сведчаць нападкі на аўтара ў тыя гады з боку розных зброеносцаў буржуазнага нацыяналізма, прыхільнікаў рэакцыйных тэорый «мастацтва для мастацтва».

Бязлітасным прысудам бандзе прайдзісветаў гучаць радкі:

Шляхі нашы ў сонцы і ў гуле фабрычным,
Рэспубліка сёння —
Як пляц будаўнічы,
Як сокал, што ўвысь узнімаецца, рэе,
Як дуб, што лісцём маладым зелянее.
А ёсць яшчэ людзі — мінулага цені, —
Што прагнуць —
Каб дубу падгрызці карэнні,
Каб сокала ў гордым палёце спыніць,
Каб нашага сонца святло засланіць.

Услед за паэмай «Цені на сонцы» А. Александровіч піша шэраг высокамастацкіх твораў, якія занялі ў яго творчай біяграфіі значнае месца.

Актыўны, наступальны характар многіх твораў паэта тлумачыцца тым, што новыя тэмы ён імкнецца раскрываць новымі выяўленчымі сродкамі і прыёмамі.

У пасляваенны перыяд паэт напісаў нямала вершаў, якія адкрываюць чытачу новыя бакі яго таленту. У такіх вершах, як «На лесапавале», «Перадышка», «Перамога» і іншыя, ён услаўляе гарачы патрыятызм савецкіх людзей, іх непахісную веру ў свой народ, сваю Радзіму.

А. Александровіч шмат папрацаваў і над творамі для маленькіх чытачоў. Ён выдаў шэраг кніжак для дзяцей дашкольнага і школьнага ўзросту, сярод якіх вызначаюцца «Падарунак дзеткам-малалеткам» і паэма «Шчаслівая дарога».

Пісьменнік плённа працаваў над перакладамі на беларускую мову твораў паэтаў народаў СССР, пераклаў паэму А. С. Пушкіна «Руслан і Людміла», якая была выдадзена пад рэдакцыяй Янкі Купалы.

На працягу больш трыццаці гадоў А. Александровіч застаецца верным свайму эстэтычнаму прынцыпу, акрэслена выказанаму яшчэ ў 1923 г. у вершы «Паэту», што слова савецкага пісьменніка павінна ўзнімаць народ, родны край да творчай працы і барацьбы за ідэалы камунізма. Гэтай высакароднай мэце падначалена ўся яго творчая дзейнасць.

Пры падрыхтоўцы гэтай кнігі да выдання аўтар значна дапрацаваў большасць твораў, якія раней змяшчаліся ў асобных зборніках.

*В. Бурносаў*

## *Змест*

ВЕРШЫ

ПАЭМЫ

## КНІГІ АНДРЭЯ АЛЕКСАНДРОВІЧА

### На беларускай мове

**Па беларускаму бруку** *(вершы)*, Мінск, ДВБ, 1925 г.
**Па беларускаму бруку.** Выданне 2-е, Мінск, ДВБ, 1928 г.
**Сутарэнне** *(апавяданні)*, Мінск, «Маладняк», 1925 г.
**Паўстанцы** *(паэма)*, Мінск, ДВБ, 1925 г.
**Прозалаць** *(вершы)*, Мінск, «Маладняк», 1926 г.
**Вершы.** Мінск, ДВБ, 1927 г.
**Угрунь** *(вершы)*, Мінск, ДВБ, 1927 г.
**Угрунь.** Выданне 2-е, Мінск, ДВБ, 1928 г.
**Рыбак** *(кніжка для дзяцей)*, Мінск, ДВБ, 1928 г.
**Фабрыка смерці** *(вершы)*, Мінск, ДВБ, 1929 г.
**Горад раніцай** *(кніжка для дзяцей)*, Мінск, ДВБ, 1930 г.
**Паэма імя вызвалення,** Мінск, ДВБ, 1930 г.
**Цені на сонцы** *(паэма)*, Мінск, ДВБ, 1930 г.
**Цені на сонцы.** Выданне 2-е, Мінск, ДВБ, 1931 г.
**Цені на сонцы.** Выданне 3-е, Мінск, ДВБ, 1936 г.
**Як цацкі дома зрабіць самому** *(кніжка для дзяцей)*, Мінск, ДВI 1930 г.
**Калыханка. Хлопчык і певень** *(кніжка для дзяцей)*, Мінск, ДВБ, 1930 г
**Нараджэнне чалавека.** Мінск, ДВБ, 1931 г.
**Як дзеці памагалі будаваць самалёт** *(кніжка для дзяцей)*, Мінск, ДВЕ 1931 г.
**Напор** *(драматычная паэма)*, Мінск, ДВБ, 1934 г.
**Казка пра пана жываглота** *(кніжка для дзяцей)*, Мінск, ДВБ, 1935 г
**Шчаслівая дарога** *(паэма)*, Мінск, ДВБ, 1935 г.
**Шчаслівая дарога.** Выданне 2-е, Мінск, ДВБ, 1936 г.

**Падарунак дзеткам-малалеткам.** Мінск, ДВБ, 1936 г.

**Узброеныя песні** (*вершы*), Мінск, ДВБ, 1936 г.

**Беларуская савецкая паэзія.** *Даклад на III пленуме Праўлення ССП СССР.* Мінск, ДВБ, 1936 г.

### На рускай мове

**Стихи** (переводы М. Голодного, М. Светлова, М. Тарловского). Москва, ГИХЛ, 1932 г.

**Солнце и песня.** *Стихи* (переводы М. Голодного, М. Исаковского, О. Колычева, М. Светлова, А. Суркова), Москва, ГИХЛ, 1936 г.

**Счастливая дорога.** *Поэма* (перевод М. Исаковского), Смоленск, ЗапГиз, 1935 г.

### На яўрэйскай мове

**Выбранае.** *Вершы* (пераклады З. Аксельрода, В. Камянецкага, І. Харыка), Мінск, ДВБ, 1935 г.

**Напор.** *Драматычная паэма* (пераклад З. Аксельрода), Мінск, ДВБ, 1936 г.

### На польскай мове

**Выбранае.** *Вершы* (пераклад Н. Гельтмановай), Мінск, ДВБ, 1936 г.

### На узбекскай мове

**Вершы** (пераклады пад рэдакцыяй Уйгуна). Дзяржаўнае выдавецтва народаў Сярэдняй Азіі, Ташкент, 1933 г.

На белорусском языке
*Андрей Иванович Александрович*
**Избранное**

Государственное издательство БССР
Минск 1958

*

Рэдактар *Л. Салавей*
Мастак *Г. Клікушын*
Мастацкі рэдактар *Н. Шырокаў*
Тэхнічны рэдактар *А. Труханава*
Карэктар *Г. Славінская*

---

АТ 03626. Падп. да друку 31/XII 1957.
Тыраж 5 000 экз. Фармат 84 × 108/32.
Фіз. друк. арк. 11,12 + 1 уклейка.
Ум. друк. арк. 18,23. Уч.-выд. арк. 12,64.
Зак. 641. Цана 8 руб. 40 кап.

---

Друкарня імя Сталіна, Мінск,
праспект імя Сталіна, 105.